ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

22 ліпеня 1994 г. № 29 (3751) Кошт 250 руб.





*Гісторыя кахання, што выпрабавала каралеўскую карону і стала вышэй за яе, кахання трагічнага і шчаслівага — Барбары Радзівіл і Жыгімонта Аўгуста II, гэтым разам выкладзенае ў п'есе Раісы Баравіковай «Барбара Радзівіл», сталася... гісторыяй выпрабавання на прафесійную сталасць сёлетніх выпускнікоў акцёрскага курса Беларускай акадэміі мастацтваў.*

*Прэм'ера аднайменнага спектакля, ажыццёўленая рэжысёрам Валерыем Мазынскім і сцэнографам Віктарам Цімафеевым, завяршыла сезон тэатра-лабараторыі беларускай драматургіі «Вольная сцэна». Верагодна, абедзве гісторыі, кахання ды выпрабавання, працягнуцца ў наступным тэатральным сезоне, калі яго распачне сама... «Барбара Радзівіл».*

*На здымку карэспандэнта БЕЛІНФАРМА Уладзіміра Вітчанкі — выканаўцы роляў Таццяна Жахоўская (Барбара) і Ігар Сігаў (Жыгімонт).*

*На экране, па радыё, у прэсе трывалае месца займаюць навіны Магілёўшчыны — родных мясцін Аляксандра Лукашэнкі. Журналісты, якія ўчора трымаліся Кебічавай лініі, свядома і падсвядома спрабуюць спадабацца, быць карыснымі новаму «бацьку» — «першаму прэзідэнту Беларусі». Вызначэнне «першы прэзідэнт» гучыць так часта, што міжволі прыгадваецца прымаўка пра першы блін, што звычайна выходзіць камяком. Ды ўсё ж не бывае правіл без выключэнняў. Хай бы нам пашчасціла...*

## ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ

У Віцебску распачаўся міжнародны фестываль «Славянскі кірмаш». Хацелася б, каб, у адрозненне ад двух папярэдніх, на трэцім «Славянскім кірмашы» адчувалася, што фестываль адбываецца не ў Падмаскоўі, а ў суверэннай краіне — Рэспубліцы Беларусь, што беларусы — гаспадары, а не госці імпрэзы.

## УЗНАГАРОДЫ ТЫДНЯ

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі М.Грыб падпісаў пастанову Прэзідыума ВС аб прысваенні Д.Булахаву, які ў свой час юрыдычна «абгрунтаваў» забарону рэферэндуму; В.Піскарову, які ў цывілізаванай краіне павінен быў бы несці адказнасць як адзін з арганізатараў несправакаванага гвалту над грамадзянамі на мінскіх Дзядах 1988 года; В.Шаладонаву, які ледзь уседзеў у крэсле Генеральнага пракурора пасля бяздарна арганізаванай перадачы Жамойці двух злачынцаў, а таксама Р.Васілевічу і самому сабе звання «Заслужаны юрыст Рэспублікі Беларусь» «За вялікі асабісты ўклад у распрацоўку Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, другіх заканадаўчых актаў, развіццё прававой навукі». У гэты спіс варта было б уключыць і В.Кебіча, які ў красавіку падпісаў у Маскве дамову, што перакрэслівае шэраг артыкулаў Канстытуцыі. Чым не «ўклад»?

## ПАГРОЗА ТЫДНЯ

«Няма гарантыі, што пры існуючым становішчы спраў на транспарце сталіцы ён к канцу года будзе працаваць бесперабойна», — паведаміў 18 ліпеня на прэс-канферэнцыі начальнік упраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкама Л.Іваноў. Усе банкаўскія рахункі транспартнікаў замарожаны, крэдыты вычарпаны, а даўгі няма чым выплачваць. Л.Іваноў не выключае, што калі пачнецца холад, ездзіць не будзе на чым.

## АРГКАМІТЭТ ТЫДНЯ

Створаны аргкамітэт па святкаванні 480-х угодкаў перамогі беларускай зброі пад Оршай — Дня беларускай вайсковай славы. У аргкамітэце — прадстаўнікі БЗВ, БНФ, БСДГ, НДПБ, Саюза пісьменнікаў, Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».

## ПЕНСІЯНЕР ТЫДНЯ

«Народная газета» за 20 ліпеня пад рубрыкай «Сорамна!» надрукавала артыкул Р.Варанчука «Былыя палітработнікі цудоўна ўладкаваліся ў Саўміне і зараз арганізавана адступаюць на загадзя падрыхтаваныя пазіцыі. За кошт народа і за спіною арміі». Пра што ідзе гаворка, зразумела з назвы. Пра вайсковых зампалітаў са світы В.Кебіча — В.Паўлава, У.Замяталіна, А.Ічыка, Г.Данілава. Палкоўнік У.Замяталін, які апошнім часам быў прэс-сакратаром прэм'ер-міністра, днямі тэрмінова звольніўся ў запас. Пенсію ён будзе атрымліваць генеральскую, роўную пенсіі першага намесніка міністра абароны Беларусі. Не будуць пакрыўджаны і іншыя памянёныя вышэй «товарищи».

## КРАДЗЕЖ ТЫДНЯ

Прапаршчык вайсковай часткі, размешчанай на захадзе Віцебскай вобласці, з дапамогаю афіцэра вынес са склада каля паўтара дзесяткаў авіяцыйных кулямётаў і гармат. А праз некаторы час адкрыў падпольную збройную краму. Адзін з пакупнікоў, грамадзянін Верхнядзвінска, трапіў «пад каўпак» міліцыі. Праз яго выйшлі і на гандляра. Найбольш цікавае ў гэтай крымінальнай гісторыі тое, што камандаванне вайсковай часткі не заўважыла недахопу зброі на складзе.

## ПЕРАМОГА ТЫДНЯ

Чэмпіёнам свету па футболе стала каманда Бразіліі. У фінале яна сустракалася з італьянцамі. Упершыню ў гісторыі лёс залатога трафею вырашалі 11-метровыя ўдары пасля нулявога завяршэння звычайнага і дадатковага часу.

## ПАДВЫШКА ТЫДНЯ

Выбары скончыліся, і цяпер ураду няма патрэбы дбаць аб прэстыжы прэм'ер-міністра. А значыць, можна ўздымаць на касмічную вышыню «замарожаныя» да часу цэны. Развітальным прывітаннем ад Кебіча стала падвышка ў тры разы цаны на гарэлку. Вядома, гэтае піто далёка не прадмет першай неабходнасці (хоць, праўду кажучы, гледзячы для каго...). Але ж на чарзе — хлеб і малако.

А прэзідэнт тым часам, спрабуючы заручыцца падтрымкай уплывовых асоб, якія яшчэ ўчора служылі Кебічу, спакойна назірае, як падвышаюць заробак і дадаюць зорак на пагоны. У прыватнасці, званне генерал-лейтэнанта атрымаў першы намеснік міністра ўнутраных спраў К.Платонаў. Той самы Платонаў, які, калі гэта трэба было Кебічу, падымаў па трывозе і выводзіў у раён Дома ўрада ўнутраныя войскі...

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

Разважаючы пра вынікі прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі і на Украіне, дэпутат Дзяржаўнай думы Б.Фёдараў папярэджвае, што раскол у дэмакратычным руху стварае сітуацыю, калі да ўлады могуць прыйсці зусім не тыя людзі, якія здольныя вывесці краіну з крызісу. «Лукашэнка — у Беларусі і Кучма — на Украіне: розныя людзі, але абодва перамаглі афіцыйную ўладу і абодва не могуць быць названы, прынамсі, да абвяшчэння сваіх праграм дзеянняў, паслядоўнымі рэфарматарамі ў сапраўдным сэнсе слова». Далей Б.Фёдараў піша: «Паколькі ў нас у краіне (у Расіі — **«ЛіМ»**) усе, як мінімум, геніі, дык маладыя дэмакраты хутчэй гатовыя пайсці на здзелку з сумленнем і падтрымаць далёка не дэмакратычныя фігуры, чым саступіць больш моцнаму і блізкаму па духу чалавеку, які расцэньваецца як асабісты сапернік» *(«Известия», 19 ліпеня)*.

## «ДОБРАСУСЕДСТВА» ТЫДНЯ

Газета «Свабода», спасылаючыся на дасведчаных асоб, блізкіх да Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця, паведаміла, што Польшча робіць захады, каб еўрапейцы ездзілі ў Расію, абмінаючы Беларусь. Два гады назад быў зацверджаны праект (яго фінансуе памянёны банк) мадэрнізацыі аўтастрады Е-30 — з Заходняй Еўропы праз Варшаву і Мінск да Масквы. Ад самага пачатку палякі былі супраць таго, каб аўтастрада праходзіла праз Мінск, аргументуючы гэта «палітычнымі матывамі» — маўляў, на Беларусі няма стабільнасці, і ездзіць праз не небяспечна. Цяпер польскі бок прапануе два варыянты: ад Варшавы праз Балтыю і Калінінград (Кенігсберг), альбо праз Львоў. Мабыць, Польшча не зацікаўлена, каб Беларусь умацоўвала сувязі з Захадам і такім чынам памяншала залежнасць ад Расіі. Мабыць, Польшча не хоча мець у асобе нашай краіны моцнага ў эканамічным і палітычным сэнсе суседа.



З нагоды

# БЕЛАРУСЬ — «ЭТО НЕБОЛЬШОЙ КОЛХОЗ...»

Памятаю, калісьці савецкія людзі вельмі ганарыліся тым, што нібыта ўзбагацілі сусветную палітычную лексіку словамі «совет», «колхоз» і «спутник» (калі быць шчырымі, дык трэба дадаць сюды і абрэвіятуру «КГБ» — яе таксама не перакладалі, а проста пісалі лацінкай — «KGB»). А потым здарылася «перестройка», і, як вынік, у нашу мову прыйшлі ўжо «плюралізм», «кансенсус», «суверэнітэт», «імпічмент». А цяпер вось — «інаугурацыя»...

Акцыю пад такою назвай ладзілі 20 ліпеня ў авальнай зале Дома ўрада. Гэтым прыгожым словам з несавецкага лексікону завецца цырымонія прэзідэнцкай прысягі.



Інаугурацыя прайшла досыць гладка. Прэзідэнт, паклаўшы руку на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, прамовіў словы прысягі на вернасць народу, дзяржаве і закону. Прагучаў Дзяржаўны гімн. Прадстаўнікі шэрагу краін блізкага замежжа павіншавалі Аляксандра Лукашэнку. Праўда, бянтэжыла тое, што прэзідэнт на цырымоніі карыстаўся замежнай (расійскай) мовай, па-беларуску ён прамовіў толькі тэкст прысягі. Чамусьці на расійскую, а не на дзяржаўную мову Беларусі перакладалася віншавальная прамова прадстаўніка Рэспублікі Польшча, між тым як словы госця з Жамойці перакладалі на беларускую. Але ў нашым Вярхоўным Савеце на такія «дробязі» не прынята звяртаць увагу. Тут па-ранейшаму пануе беспрынцыпны прынцып «хто как хацит, той так и гаварыт».

Красамоўным сведчаннем невысокага палітычнага іміджу Беларусі была тая акалічнасць, што на інаугурацыі не было ніводнага прэзідэнта, акрамя самога спадара Лукашэнкі. Расія, у прыватнасці, была прадстаўлена ўсяго толькі намеснікам прэм'ер-міністра, а Украіна дык увогуле абмежавалася віншавальнай тэлеграмай. І гэта ў той час, як А.Лукашэнка ўслед за В.Кебічам абвяшчае кірунак на інтэграцыю са славянскімі рэспублікамі былога СССР прыярытэтным у беларускай палітыцы. Міжволі задумаешся, ці варта нам пішчом лезці ў хаўрус з краінамі, якія нас не паважаюць? Зразумела, добрыя стасункі павінны быць з усімі суседзямі, але з прыярытэтамі трэба быць асцярожней.

Настрой, які панаваў на цырымоніі, я вызначыў бы як урачыста-насцярожаны. Што ні кажы — падзея! Але большасць дэпутатаў Вярхоўнага Савета хацелі бачыць прэзідэнтам В.Кебіча, бо спадзяваліся пры ім ціхенька, нічога не робячы, дасядзець у сваіх крэслах да таго дня, калі скончыцца тэрмін іхніх дэпутацкіх паўнамоцтваў, ды яшчэ атрымаць за гэта пенсіі генеральскага стандарту «за асаблівыя (так бы мовіць) заслугі». Цяпер жа давядзецца круціцца... Думаць давядзецца, між тым, як многія ўжо развучыліся, а іншыя дык ніколі і не ўмелі.

З жорсткай, зусім не святочнай прамовай выступіў на гэтым урачыстым пасяджэнні Зянон Пазняк. Спачатку, як мае быць, павіншаваў прэзідэнта, а потым зачытаў заяву дэпутатаў апазіцыі БНФ «Трэба будаваць беларускую дзяржаву». Вядома, што адносіны паміж БНФ і наменклатурай (а Лукашэнка — выхаванец сярэдняга звяна наменклатуры) заўжды былі напружаныя.

# ПЯЦЬ ПАРАД ПРЭЗІДЭНТУ

Ёсць адно карыснае правіла, пра якое, аднак, не ўсе ведаюць. Яно фармулюецца так: ніколі не давай парад, калі іх у цябе не просяць. Лёгка сказаць... А калі цябе перапаўняюць альтруістычныя памкненні і добрыя намеры, калі ты прагнеш дасканаласці ў свеце, а, значыць, проста не можаш, каб не рáдзіць, не папраўляць, не прапаноўваць лепшых варыянтаў і найлепшых выйсцяў?..

Становішча такога дарадцы звычайна незайздроснае: усе парады адмятаюцца і расцэньваюцца як парушэнне правоў чалавека ці ўмяшанне ў яго асабісты суверэнітэт. Маўляў, сам ведаю, што рабіць, і абыдуся без падказчыкаў. Тым не менш, набяруся храбрасці і паспрабую выказаць некалькі парад першаму прэзідэнту Беларусі. Праўда, на папярэдніх месцах працы — у арміі, камсамоле, калгасе — вучыў і накіроўваў ён сам, дык, напэўна, развучыўся прыслухоўвацца да падказак ды лічыцца з думкай «ніжэйстаячых». Зараз «ніжэйстаячых» — цэлая краіна, мільёнаў дзесяць грамадзян, сярод якіх трапляюцца і такія вось саманадзейныя асобы...

**Парада першая.** Прызнаючы прыярытэт эканомікі, знайсці час і праслухаць спецыяльны курс лекцый па гісторыі Беларусі і станаўленні нацыі, набыць першапачатковыя веды па этнаграфіі і культуры. Бо тое, чаму ўсіх нас вучылі 20 год назад, было даўно і няпраўда, і не ў кожнага ў жыцці складваецца ўмовы для самаадукацыі і ўсебаковага развіцця. Гіпертрафіраваная воля бывае ў шкоду і чалавеку, і агульнай справе, ураўнаважыць волю могуць толькі адухоўлены розум і разумная душа. І першае, і другое немагчыма без дакранання да каранёў, асноў народнага быцця, без усведамлення адметнасці свайго народа.

**Парада другая (несур'ёзная).** Людзей з бліжэйшага акружэння, кансультантаў і саветнікаў, правераць метадам біялакацыі пры дапамозе маятніка (бурштын на нітцы) — на прадмет, ці станоўча яны ўплываюць і ці не саб'юць прэзідэнта з тропу. Калі «так» — маятнік будзе рухацца ўперад-назад, калі «не» — з боку ў бок.

Што акружэнню прэзідэнта надаецца вялікае значэнне, відно з матэрыялаў прэсы. Мала хто спадзяецца на беспамылковасць А. Лукашэнкі ў гэтым пытанні. Пры такім тэмпераменце яшчэ каб і мудрасць завялася!..

**Парада трэцяя.** Незалежна ад паказанняў маятніка, трэба мець паблізу прыдзіру і педанта, які не толькі гальштук навучыць завязваць, але і аднойчы ўсемагчымых промахаў будзе рэзаць прэзідэнту праўду ў вочы. Прыблізна так, як ён сам на мінулых сесіях Вярхоўнага Савета.

**Парада чацвёртая (жаночая).** Паклікаць да сябе добрага цырульніка і зняць рэшткі валасоў з цемені. Класічная лысіна яшчэ нікога з мужчын не псавала, а тым больш не ганьбіла. Хавацьжа яе — прыкмета нейкіх затоеных комплексаў.

**Парада пятая.** Чым абернецца прэзідэнцтва для Беларусі — пакуль невядома, а вось для самога А. Лукашэнкі яго высокая пасада — верагодна, асабістае выпрабаванне. Разуменне гэтага дапаможа як пазбегнуць пераксаў, так і своечасова пайсці, калі эксперымент будзе прызнаны няўдалым. Таму раю штодзень ў зручныя моманты разважаць з Ім і прасіць святла і ведання. (Усе іншыя просьбы, кажуць, карыслівыя). І тады калі не людзі, то, можа, хтось больш кампетэнтны дасць неабходныя парады — каго набліжаць, каго аддаляць, каго ссадзіць з начальніцкага крэсла, каго пакінуць, якія прымаць рашэнні і ад якіх устрымацца.

У беларусаў не было свайго караля. Ці не таму яны так дружна выйшлі на выбары свайго прэзідэнта?

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Афіцыйна абвешчаная лінія БНФ — няўдзел ва ўрадзе, які будзе фармаваць Лукашэнка, і жорсткая крытыка яго непазбежных памылак. А памылкі будуць, бо ў камандзе прэзідэнта няма прафесійнікаў, увогуле аўтарытэтных людзей. Змест заявы апазіцыі, зачытанай З.Пазняком, такі: мы падтрымаем крокі прэзідэнта, накіраваныя на ўмацаванне беларускай дзяржавы, а калі ён мае намер працягваць лінію Кебіча — дык тым горш для яго. У заяве, у прыватнасці, прыгадвалася, што выбары засведчылі крах антырынкавай палітыкі Саўміна і Вярхоўнага Савета, які ўтварыў гэты ўрад. Зноў прагучала думка, што з 29 кастрычніка 1992 года, пасля гвалтоўнай забароны рэферэндуму Вярхоўны Савет перастаў быць легітымным органам улады (гэта, як мне здаецца, ускосным чынам ставіць пад сумненне і законнасць прэзідэнцтва на Беларусі, бо закон аб прэзідэнцтве прымаў нелегітымны парламент). Апазіцыя прапануе неадкладна прыняць Закон аб выбарах на шматпартыйнай аснове і тэрмінова правесці выбары ў Вярхоўны Савет. Калі будзе гэта — будзе і супрацоўніцтва апазіцыі з парламентам.

З прапановамі аб супрацоўніцтве на канструктыўнай аснове звярнуўся да прэзідэнта (у больш далікатнай форме) ад фракцыі Грамады Алег Трусаў.

Цяжка сказаць, як прарэагуе на ўсё гэта прэзідэнт, але ён зробіць вялікую памылку, калі паспрабуе ігнараваць незалежніцкую плынь беларускага грамадства.

Многім не падабалася, як спадар Лукашэнка вёў выбарчую кампанію. Але ж кажуць, што, дасягнуўшы мэты (у дадзеным выпадку — прэзідэнцтва), людзі часам мяняюцца, і нават у лепшы бок. Хацелася б верыць. Але... 15 ліпеня на сустрэчы з журналістамі, гаворачы аб кадравай палітыцы, прэзідэнт выказаў слушную думку, што не трэба нашай краіне шмат чыноўнікаў. А абгрунтаваў сваю думку тым, што «Беларусь — это небольшой колхоз».

З такімі ідэямі — ды ў рыначную эканоміку? З такой свядомасцю — ды ў Еўропу?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Сцяпан СІНІЦА

# МУЖЫКІ

**Мужыкі...**
**Мужыкі, як дубы!**
**Не ўваб'ешся**
**ў густыя шарэнгі,**
**А кіруюць —**
**разлад ды мітрэнга,**
**Быццам кожны —**
**нямы і сляпы.**

**Ну, адно — каб былі бабылі.**
**Дык спытайце у жонак,**
**урэшце,**
**У сясцёр,**
**у каханак,**
**у цешчаў,**
**Што зрабіць, каб мы**
**добра жылі.**

**Тыя скажуць,**
**падкінуць парад,**
**Распрацуюць такія**
**праграмы!..**
**Хай жа вушы накруцяць**
**вам мамы**
**Ды разгневана**
**знімуць з пасад.**

Надзённае

Мар'ян ДУКСА

# У МУКАХ АПОШНІХ КАНАЕ ЭПОХА...

●

**Вы «Снікерсы» ешце**
**свае прывазныя**
**і з ветрам скачыце**
**ў маёнткі лясныя.**
**Спрабуйце на «інгліш»**
**штосьці прагаварыць.**
**Дарэмна!**
**На злодзею шапка гарыць.**
**Ваш позірк цяперашні —**
**беглы і шпаркі,**
**вам хочацца важна**
**глядзець з іншамаркі.**
**Карціць свой партрэт**
**размясціць угары...**
**А д'ябал, аднак,**
**выглядае знутры.**
**Не супраць я вашага ўсё ж**
**апетыту,**
**і вашых харомаў,**
**і вашага спрыту,**
**рахункаў швейцарскіх**
**і царскіх манер,**
**хлуслівых вачэй,**
**што падораць давер.**
**Дамовімся толькі —**
**і гэта нязменна:**
**калі нехта побач**
**пачуецца дрэнна**
**ці будзе ён есці**
**страшэнна хацець,**
**ад кволасці дыхаць ён**
**будзе ледзь-ледзь, —**
**вы знайце,**
**хоць, можа, не ходзіце ў храм,**
**запомніце гэта:**
**анафема вам!**

●

**ПаРослая гвалтам**
**і здзекам, як мохам,**
**у муках апошніх**
**канае эпоха.**
**Эпохай бязбожжа**
**яе назаві.**
**Эпоха з барвовым**
**адценнем крыві.**
**Эпоха шаманства,**
**эпоха прароцтва,**
**эпоха трыбуннай хлусні**
**і юродства.**
**Эпоха, што душы**
**зганяла на плаху,**
**эпоха здзічэння,**
**жывёльнага страху.**
**Які ж яе сёння**
**адпойвае злыдзень?**
**Эпоха ніяк**
**у нябыт не адыдзе.**
**Са злосцю, нязграбна,**
**нібыта сляпая,**
**штодзённа яна нас**
**за горла хапае.**
**Эпоха пакуль што**
**не адляцела —**
**яна ж усмакталася**
**п'яўкай у цела.**

# У ГОРАДЗЕ НАД ВІЛІЯЙ — АМЕРЫКА



Чатыры дзесяткі фатаграфій, якія выстаўлены для агляду ў Вілейскім гісторыка-краязнаўчым музеі, сваім зместам не адпавядаюць тэматыцы музейнай экспазіцыі. На каляровых здымках — амерыканскі пейзаж, заакіянская прырода. І ўсётакі прычына адкрыць гэтую экспазіцыю ў гэтым музеі — і важкая, і цікавая. Справа ў тым, што аўтар фотавернісажу — родам з Вілейшчыны. З вёскі Цінцевічы, што амаль на гарадской мяжы.

50 год Аляксандр Сільвановіч не жыве на радзіме. Ён — грамадзянін Злучаных Штатаў Амерыкі. Але духоўную сувязь з Бацькаўшчынай наш зямляк ніколі не губляў.

У эміграцыі Сільвановіча ведаюць як актыўнага грамадскага і царкоўнага дзеяча. Неадноймы ён прыязджаў на Беларусь з місіяй дапамогі малалетнім ахвярам Чарнобыля.

Мастацкай фатаграфіяй Сільвановіч займаецца больш за 30 год, сталы ўдзельнік выставак самадзейнай творчасці беларускай дыяспары ў Саўт-Рывэры (штат Нью-Джэрсі). Фатаграфія ніколі не была для яго сродкам здабычы хлеба. У нашым разуменні гэта — хобі, а аўтар — аматар. Але кожная работа выканана на высокім прафесійным узроўні. Фатаграфіі дасканалыя як па змесце, гэтак і па форме.

— Толькі для душы, для адпачынку займаюся фатаграфіяй, — гаварыў аўтар у час адкрыцця выставы. Ён быў шчаслівы і нават усхваляваны.

Дзякуючы аўтару, многія гледачы, у нейкім сэнсе, адкрыюць для сябе Амерыку.

Трэба дадаць, што выдатнае афармленне фотаработ забяспечылі беларускія фірмы «Фіко» і «Інтэркантыненталь».

**Анатоль КЛЯШЧУК**

*Фота аўтара*

# ...І ДАРУЙ, БОЖА, СКЕПТЫКАМ...

17 ЛІПЕНЯ ЎРАЧЫСТА ЗАВЯРШЫЎСЯ II МІЖНАРОДНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ДУХОЎНАЙ МУЗЫКІ «МАГУТНЫ БОЖА».




Гэтае свята людскога яднання сталася моцнай крыніцай станоўчай энергіі — энергіі духоўнай, эмацыянальнай, разумовай — для ўсіх, каму пашчасціла завітаць хоць на дзянёк у фестывальны Магілёў. Што ўжо казаць пра тых, хто амаль тыдзень пражыў у цудадзейнай атмасферы, дзе звыклыя побытавыя або арганізацыйныя недарэчнасці не паспявалі распальвацца да канфліктаў ці крыўдаў, бо магутным і чыстым быў іншы агонь — агонь творчага натхнення, любові да людзей, любові да Жыцця і яго Стваральніка.

Чытачы нашы ўвогуле ведаюць змест сёлетняга свята: канцэрт лаўрэатаў І-га фестывалю, конкурсныя праграмы ўдзельнікаў (іх было больш за тысячу, з Лацінскай Амерыкі ды Германіі, Галандыі ды Польшчы, Расіі ды Украіны...), вечаровыя выступленні ля вогнішча, вернісажы. Працавала журы, у складзе якога былі вядомыя беларускія музыканты Г. Каржанеўская, Л. Каспорская, В. Скорабагатаў, ганаровы госць з Англіі Г. дэ Пікарда. Узначальваў журы прафесар В. Роўда. Прысутнічала дачка стваральніка гімна «Магутны Божа» В. Аляксеенка-Равенская. На закрыцці фестывалю з добрым словам выступіў лідэр БНФ дэпутат Вярхоўнага Савета З. Пазняк.

Складаны фестывальны гмах трымаўся клопатам і энергіяй літаральна некалькіх чалавек, сярод якіх дырэктар фестывалю кс. Р. Факсінскі, старшыня аргкамітэта А. Аляксеенка, прэзідэнт фонду «Магутны Божа» А. Шпількоў, сакратар журы Ж. Ялфімава, пробашч касцёла св. Станіслава кс. У. Блін ды інш. У ліку спонсараў — Фонд Сораса на Беларусі, фірма «Белы комін», фірма «Дайнова», банк «Беларусь».

Падрабязнасці — у наступных нумарах. А пакуль пазнаёмцеся з лаўрэатамі першай прэміі: Вінніцкі камерны хор ды яго кіраўнік В. Газінскі (сярод прафесіяналаў), кафедральны хор «Кармэн» з Беластока (сярод аматарскіх калектываў), хор касцёла св. Тройцы ў Мінску (сярод парафіяльных хораў), мужчынскі квартэт «Чысты голас» з Мінска, узорны дзіцячы хор «Вясёлка» з Баранавічаў, мінскі арганіст У. Неўдах, салістка Беларускай філармоніі Т. Цыбульская, саліст ДАВТа Беларусі Р. Палішчук. Гран-пры ў эстрадным жанры атрымаў кіраўнік тэатра-студыі «Вясёлка» з Магілёва В. Сянькоў, пераходным прызам сярод акадэмічных калектываў адзначаны Вінніцкі камерны хор.

Пра гэты фестываль не крычала тэлебачанне, мо таму не спадобіўся ён афіцыйнай спагады. Але ж галоўнае, што спагада запалілася ў сэрцах тых, каго атуліў сваім цяплом «Магутны Божа».

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Імгненні фестывалю занатаваў фотакарэспандэнт* **М. ЦІТОЎ**



ЛіМ
ЧАСАПІС

## ВАСІЛЮ БЫКАВУ — МЕДАЛЬ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

**За значны ўклад у развіццё беларускай літаратуры, у справу нацыянальнага Адраджэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь узнагародзіў народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава медалём Францішка Скарыны.**

**Віншуем Васіля Уладзіміравіча з высокай дзяржаўнай узнагародай і зычым яму і надалей заставацца правафланговым нацыянальнага Адраджэння!**

## АРКЕСТРУ — 65



**Вядомы палкаводзец заўважыў, што ваенная музыка падвойвае і нават патройвае сілу войск. Менавіта так разумеюць сваё прызначэнне ваенныя музыканты аркестра Унутраных войск МУС Беларусі, старэйшага, з багатымі традыцыямі, творчага калектыву, вядомага сваім выканаўчым майстэрствам некалькім пакаленням мінчан. Пачатак творчай біяграфіі гэтага калектыву — 20 ліпеня 1929 года. Менавіта ў гэты дзень быў створаны ваенны аркестр 5-га Беларускага палка Унутраных войск.**

**Цяпер у рэпертуары аркестра чатыры праграмы: забеспячэнне воінскіх рытуалаў для асабовага складу тэрміновай службы, афіцэраў і прапаршчыкаў, для насельніцтва рэспублікі. І ўсё выконваецца на прафесійным узроўні, даступным толькі людзям, па-сапраўднаму адданым музыцы. Тон у калектыве задаюць прапаршчык Алег Крылоў, старшына Віктар Гігіевіч, Анатоль Урусаў і Віталь Багадзевіч. Душа аркестра — яго кіраўнік падпалкоўнік Мікалай Жарко.**

**Сёння аркестр супрацоўнічае з вядучымі вакалістамі рэспублікі салістамі оперы Нінай Казловай, Міхаілам Дружынай, Людмілай Крывёнак, Іванам Ланюком. У іх выкананні гучаць у воінскіх часцях, на канцэртных пляцоўках палацаў культуры і паркаў Беларусі творы М.Глінкі, П.Чайкоўскага, Д.Расіні, Я.Глебава, У.Кузняцова, І.Лучанка, Э.Казачкова.**

*Фота А.МАЦЮША*

## «КРОКІ ПЕРАМОГІ»



**Ад Валгаграда да Берліна пройдзе гэтая шырокамаштабная акцыя, прысвечаная 50-годдзю Перамогі над фашызмам. Ініцыятарам яе стаў вядомы беларускі кампазітар Ігар Лучанок. Ужо адбыліся гала-канцэрты ў Валгаградзе, Курску. Цяпер маршрут вядомых беларускіх спевакоў, кампазітараў праходзіць па сцэнічных пляцоўках Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай абласцей. У праграмах канцэртаў — песні франтавых гадоў, сучасныя мелодыі. Закончыцца беларуская частка акцыі ў канцы ліпеня. Потым «Крокі Перамогі» скіруюцца ў Польшчу, Чэхію, Аўстрыю. 9 мая 1995 года ля сцен рэйхстага будзе дадзены вялікі заключны гала-канцэрт.**

**На здымку: кампазітар Ігар Лучанок выступае перад ветэранамі гарадскога пасёлка Узда.**

*Фота А.ТАЛОЧКІ, БЕЛІНФАРМ*

Беларускі шлях

# ТЭХНОЛАГІ АДРАДЖЭННЯ

***Летась на першай паласе «ЛіМа» быў фотаздымак шчаслівай жанчыны: ЯДВІГА ГРЫГАРОВІЧ, рэктар Інстытута культуры, прымала віншаванні з нагоды пераўтварэння сваёй навучальнай установы ва універсітэт.***

***І вось першы універсітэцкі год скончыўся. Ён даў нагоду і падставы рэктару і для развагаў, і для добрых спадзяванняў на будучыню.***

— Інстытут існуе васемнаццаць гадоў, — удакладніла Ядвіга Дамінікаўна, — установа не новая. Мае традыцыі і пэўныя здабыткі. Здабытак нумар адзін — даволі моцны калектыў выкладчыкаў. Іх амаль пяцьсот чалавек, з іх каля двухсот — кандыдаты навук і дацэнты. Мы цяпер маем прафесуру, якая ўвасабляе сабою годнасць Беларусі. Прафесуру, якая была першапрычынаю, а мо і перадумовіла пачатак адраджэння. Універсітэту, так бы мовіць, у спадчыну ад інстытута перайшоў і выдатны студэнт. Да нас ідуць людзі ў вялікай ступені мэтанакіраваныя, — тыя, якія абралі для сябе культуру сфераю занятказў. Бо паступаюць апантана й упарта, пакуль не дамогуцца свайго. Людзі выпадковыя, як правіла, адсейваюцца праз нашы творчыя конкурсы, тэставанне, адборы, — часцей за ўсё ўжо на першых турах. Паступаюць, маючы на ўвазе: мы — адзіная ўстанова, якая рыхтуе спецыялістаў па шматлікіх спецыяльнасцях духоўнай культуры (мастацкай, сямейнай, бытавой, эканамічнай, педагагічнай, палітычнай і да т. п.). Купна гэтыя тры прычыны і абумовілі стварэнне на базе Інстытута культуры універсітэта...

Скончыўся першы акадэмічны год. Не адно паводле шыльды, але ўсім зместам сваім інстытут робіцца універсітэтам. Калісьці мы рыхтавалі толькі па трох спецыяльнасцях, цяпер гэтых спецыяльнасцей — каля трыццаці. Першы год студэнты навучаліся паводле абсалютна новых вучэбных планаў, складзеных паводле стандартаў еўрапейскіх гуманітарных універсітэтаў з пералікам тых спецыяльнасцей, якіх вымагае універсітэцкая адукацыя, а таксама з паглыбленым практычным спецыяльным навучаннем. Гэтыя праграмы разлічаны на шматузроўневую сістэму адукацыі. На атрыманне дыплома аб вышэйшай адукацыі, ступені бакалаўра або магістра. Мы маем на мэце ўступленне ў асацыяцыю еўрапейскіх універсітэтаў. Падалі туды праграмы, навучальныя планы і да т. п. для ліцэнзавання нашага дыплома як міжнароднага. Там вельмі цвёрдыя крытэрыі, але мы амаль вытрымліваем іх. Сёння ў нас ліцэнзавана толькі адна спецыяльнасць — «сацыяльны педагог-арганізатар дзейнасці ў вольную часіну», а ўсе астатнія спецыяльнасці яшчэ чакаюць сваёй чаргі.

Улічваючы, што сістэма культурнай адукацыі павінна быць бесперапыннай, мы ствараем сетку ўстаноў, якія рыхтуюць да паступлення ў наш універсітэт. Напрыклад, на базе бібліятэчнага тэхнікума ў Магілёве ўтвораны Каледж беларускага універсітэта культуры. Скончана падрыхтоўчая работа ў Навагрудскім філіяле універсітэта па спецыяльнасці «народныя рамёствы». Чаму ў Навагрудку? Так склалася гістарычна: рамёствы ў тых мясцінах заўжды былі на вельмі высокім узроўні развіцця. Наша задача — збольшага дапамагчы іх адрадзіць. У Гомелі ды Магілёве, нашай чарнобыльскай зоне, з часам паўстала праблема неверагодная, дагэтуль нечуваная на нашых абшарах, — праблема рэабілітацыі асобы. Акрамя хвароб, з якімі мусяць разбірацца медыкі, існуюць хваробы, калі іх можна так назваць, інакшага кшталту, — тыя, якія можна скарэктаваць немедычнымі сродкамі, у тым ліку — мастацкімі. У нас ужо навучаецца група дзяцей з Гомельскай і Магілёўскай абласцей па спецыяльнасці, да якой яшчэ не рыхтавалі ва ўсім агульнаславянскім свеце: «рэабілітацыя асобы сродкамі мастацтва». У Еўропе гэта называецца арт-тэрапіяй. На базе гэтай спецыяльнасці мы распачалі ўжо рыхтаваць філію універсітэта ў зоне.

Мэту сваёй установы я бачу ў тым, каб вывучыць, захаваць, рэтрансляваць усе слаі культуры. Напрыклад, аўтэнтычны фальклор. Яго, пагодзімся, трэба адраджаць у народзе і ў прыдатным асяродку на жніўным полі, на бяседзе, на рацэ і да т. п. Для народнай песні з адкрытым гукам ды з адметнымі побытавымі дэталямі выканання найпрыдатнаю глебаю можа быць толькі родная глеба. Мовім так: любы народны абрад, перанесены на падмосткі, уштукаваны ў асяродак будынка, набывае кшталт сцэнічнай фантасмагорыі. Яшчэ не тэатр, ужо не фальклор. Таму наш спецыяліст мусіць авалодаць фальклорам... прафесійна. Даследаваць яго, вывучаць, занатоўваць ды... ізноў распаўсюджваць у народным асяродку. Там, дзе ён, фальклор, зусім не ў былой пашане. Самы буйны факультэт, дзе вучыцца палова студэнтаў, называецца факультэтам народнай творчасці, там вывучаюцца танцы, песні, рамёствы, абрады, рэжысура свят, відовішчаў, традыцыі... Але ёсць і іншая народная культура — высокая інтэлектуальная, прафесійная. (Доўга рабіліся спробы адсячы наш інстытут ад яе, маўляў, лапцікаў ды сукеначак з вас стане). Калі народная культура не будзе ўзбагачаць элітарную ды прафесійную, прафесійная проста зазнае заняпад. І, адначасова, народная цяпер не зможа не сілкавацца прафесійнаю культураю, — апошняя дае першай зусім інакшую ступень мыслення. Сэнс нашай работы якраз у тым, каб забяспечыць іх узаемасувязь ды ўзаемасілкаванне. Сёлета мы пачалі рыхтаваць спецыялістаў па нацыянальнай ды сусветнай мастацкай культуры. Студэнты вывучаюць прафесійнае мастацтва ўсіх часоў і народаў, натуральна, у тым ліку і беларускае. Набралі, напрыклад, харэаграфічныя групы па трох кірунках: танец эстрадны, танец народны (сцэнічныя апрацоўкі) і танец бальны. Набралі групу прафесійнікаў розных жанраў у сферы эстраднага мастацтва...

... Неяк у мяне спыталі: а як жа ўсё-такі назваць спецыялістаў, якіх вы рыхтуеце, — так, каб было і сцісла, і зразумела? Я памеркавала. Іх можна назваць... тэхнолагамі адраджэння. Таго, якога мы так доўга чакалі, якому так былі ўзрадаваліся... Гэта людзі, якія ведаюць, што рабіць, як, якімі сродкамі, ды прадбачаць, пралічваюць вынікі сваёй працы. Менавіта так: тэхнолагі адраджэння!

За васемнаццаць гадоў існавання інстытута нашы выпускнікі ўмацаваліся ва ўсіх сферах нацыянальнай культуры. Ад аркестраў у рэстарацыях да міністэрскіх кабінетаў. Бадай, няма ніводнага калектыву, — ні аматарскага, ні прафесійнага, дзе б не знайшлося чалавека з нашым дыпломам. Студэнт, як вядома, бывае розны. Часам нехта толькі пачынаў у нас, канчаючы зусім іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы, — можна згадаць і Зою Белахвосцік, зорку Купалавай сцэны, і Людмілу Бржазоўскую з Юрыем Траянам, і шмат каго са складу «Песняроў», «Сяброў», «Верасоў»... Дрэнна толькі тое, што мы ўсім давалі аднолькавыя дыпломы. Цяпер гэтай заганы мы пазбудземся. Калі ты, напрыклад, схільны займацца навукаю, — пішы магістарскую работу, калі маеш высокапрафесійныя мастацкія здольнасці — мусіш займацца мастацтвам, а калі лайдачыш — мусіш развітацца з дыпломам. Не прайшоў атэстацыю праз год навучання, — што ж, бывай. Калі няма моцы абараніць дыплом, вучыся тры з паловаю гады, сем семестраў ды атрымлівай спецыяльнасць, — праўда, рангам будзеш ніжэй за калег. У любым выпадку толькі пасля сёмага семестра пачынаецца асабовае навучанне. У залежнасці ад таго, што табе даў Бог, што ты сам хочаш узяць і... што ты атрымаў за тыя сем семестраў, будзе вызначацца твой далейшы лёс. Тут жа мушу заўважыць, што ў бюро па працаўладкаванні нашы студэнты не звяртаюцца. Безумоўна, ёсць розныя выпадкі, але яны не паказальныя. Напрыклад, цяжка знайсці працу бібліятэкару, але для Мінска мы іх і не рыхтуем, хоць летась у Гуманітарна-лінгвістычным каледжы (Мінск) мы адкрылі спецыяльнасць «камерцыйная інфармацыя». Конкурс быў страшэнны...

Леташняе размеркаванне ўпэўніла ў тым, што ўсе просьбы, прапановы, увогуле — попыт на нашых спецыялістаў мы задаволіць не ў стане — заяў шмат. Да ўсяго сённяшні попыт і той, які вынікне праз пяць гадоў, розняцца між сабою. Мы вымушаны прагназаваць. Напрыклад, без дзейснай дапамогі Міністэрства культуры (яно ўвогуле спрыяе і дапамагае) мы б не далі рады з падрыхтоўкай арт-тэрапеўтаў. Ніхто не разумеў, напрыклад, навошта нам рыхтаваць сацыяльных педагогаў, мы ж, маўляў, не педагагічны інстытут. І вось ужо чатыры гады я даводжу, што не можа быць пустак у выхаванні, тым больш калі глабальная камуністычная ідэя сябе зжыла. Шэсць нашых выпускнікоў, якія спецыялізаваліся індывідуальна па сацыяльнай педагогіцы, працуюць у цэнтральных мінскіх школах. Попыт, як высветлілася, велізарны. Думаю, гадоў праз пяць грамадства выдатна ўсвядоміць патрэбу і ў сямейных тэрапеўтах, і ў практычных псіхолагах, і ў арт-тэрапеўтах...

У сваёй справе мы пазбываемся штучных праблем, кшталту: адкуль набіраць студэнтаў, каму аддаваць перавагу, куды размяркоўваць, дзе замацоўваць і да т. п.. Усё вырашае ўзровень падрыхтаванасці абітурыента або авалоданне прафесіяй выпускніка. Чалавек — вольны. І павінен вольна выбіраць сабе і работу, і месца жыхарства, і сферу здзяйснення сваіх мар. Трэба больш зважаць на іншае: як чалавек ставіцца да таго, што ён абраў сабе будучай дзейнасцю. Маё меркаванне, на жаль, падзяляюць не ўсе, асабліва ў афіцыйных сферах, але набор ва Універсітэт культуры — роўны для ўсіх. Усе праходзяць праз аднолькавае тэставанне, аднолькавыя іспыты, усе аднолькава бяруць удзел у конкурсе. Маленькія і рэдкія выключэнні складаюць час-почас так званыя мэтавыя месцы, — іх мы аддавалі асабліва перспектыўным спецыяльнасцям, патрэбным некаторым раёнам Беларусі. Калі ж трэба выбіраць пры аднолькавых умовах сярод людзей з аднолькавым балам... Летась мы аддавалі перавагу жыхарам зоны. Бо ў гэтае рашэнне ўмешваюцца аспекты гуманныя, псіхалагічныя, нават, калі хочаце, жаночыя. А раптам, калі гэтае дзіцятка пяць гадоў пажыве ў Мінску, дзе, магчыма, і пахарчуецца, і падыхае чымсьці чысцейшым, — гэта вызначальна паўплывае на ягоны лёс? Універсітэт цяпер у прынцыпе абыходзіць праблема, паедзе выпускнік, умоўна кажучы, на вёску або не. Няхай тая вёска паруліцца залатвіць спецыяліста. Ёсць, аднак, праблема, пра якую трэба казаць, — паўплываць на нешта, каб яе вырашыць, мы пакуль не ў стане. Праблема няроўных магчымасцей у атрыманні папярэдняй адукацыі. Праўда, наша сістэма тэстаў у адборы выяўляе не столькі падрыхтаванасць абітурыентаў, колькі іхнія патэнцыяльныя магчымасці: узровень любой адукацыі залежыць ад таго, як студэнт працуе сам. Задача навучальнай установы — дапамагчы набываць веды, дапамагчы вучыцца.

Што ж да тых, хто вучыць... Людзей, натуральна, цікавіць наша выкладанне. Ад узроўню падрыхтаванасці выкладчыкаў да мовы, на якой яны выкладаюць свой прадмет. У звязку з авалоданнем беларускай мовай заўважу, што праблема гэта — штучная і... палітычная. А ніяк не ментальная, псіхалагічная, разумовая ці інтэлектуальная, ці педагагічная. Мова — пытанне ўлады. Калі ёсць незалежная дзяржава, універсітэт (дзяржаўны) мусіць працаваць на дзяржаўнай мове. І выкладчык мусіць адпавядаць патрабаванням... Перадусім мусіць сам вучыцца, — выкладчык, які не вучыцца, не цікавы студэнтам. З леташняга года ўсё выкладанне на першым-другім курсах вядзецца па-беларуску. Шмат што залежыць ад магчымасцей выкладчыка, — ёсць такія, што выкладаюць па-англійску, нямецку, польску, балгарску. На гэты выпадак мы забяспечваем чалавека перакладчыкам. Па-руску разумеюць усе. З Еўропы ды Амерыкі мы запрашаем адрабляць па спецыяльнасцях, да якіх нашы выкладчыкі яшчэ не падступіліся. Напрыклад, усе прадметы менеджменту ды маркетынгу (на спецыяльнасці «менеджэр сацыёкультурнай дзейнасці») выкладаюць заходнія спецыялісты: мы свядома не ўблытваем студэнтаў у старую савецкую ідэалогію. Працуюць у нас спецыялісты і па розных кірунках хрысціянскай культуры з замежжа. Групы спецыялістаў з Германіі ды Амерыкі вядуць курсы па арт-тэрапіі і сацыяльнай педагогіцы. Запрасіць іх было не так проста, і тое, што гэтыя людзі з прыязнасцю працуюць у нас, вымагае... сякіх-такіх высілкаў ад нашых выкладчыкаў. Бо брак сродкаў, якімі трэба аплаціць працу замежных калегаў, мы можам кампенсаваць толькі сардэчнасцю прыёму. А гэта — таксама работа...

... Будзем, аднак, рэалістамі. Стварыць інтэлектуальную рэзервацыю для спецыяліста па культуры немагчыма. Гэтаксама як няможна стварыць асяродак высокакультурных ды высокамаральных людзей у немаральным грамадстве. А я вельмі высокай думкі пра нашу моладзь. Яны, цяперашнія маладыя, значна... лепшыя за нас. Бо хібаў, заган не бракавала й нам, яны проста, перапрашаю, не рэкламаваліся так, як цяпер, калі сродкі масавай інфармацыі проста шалеюць, збіраючы смажанае, пражанае, печанае, перчанае... Вось, дарэчы, за што я так люблю вашу газету, чытаю «ЛіМ» ад першай да апошняй старонкі, — вы адна з вельмі нешматлікіх газет, якія захавалі свой інтэлектуальны ды культурны ўзровень. Так... Дык вось, я думаю, што не моладзь змізарнела. Змізарнеў наш свет вакол моладзі. А вось ужо ў гэтым вінаватыя і мы, — мы, якія былі і больш заможныя, і шчаслівейшыя. Нашы дзеці, у якіх няма нашых праблем (ды хоць бы праблемы мовы, — забяспечыць добрае, прыстойнага ўзроўню выкладанне па-беларуску — і ўсё вырашыцца рабочым парадкам), — яны раскутыя, распрыгоненыя, больш адукаваныя, больш інтэлектуальныя. Але не такія шчаслівыя... А як жа адраджацца нешчаслівым?..

**Запісала Жана ЛАШКЕВІЧ**

**Гарадская субкультура.** У асноўным сённяшнія межы Беларусі, краін Балтыі, Польшчы, Украіны склаліся пасля 1945 года, калі гэтыя народы ў рознай ступені трапілі пад уплыў Масквы. Вядома, што асноўны культуралагічны тып нацый у сённяшняй Еўропе — гэта тып, прыналежны да гарадской культуры. Менавіта горад дамінуе ў складзе насельніцтва на прасторы ад Расіі да Францыі, ад Хельсінкі да Афін.

У час вайны на Беларусі, Украіне, у Балтыі і ў Польшчы былі цалкам знішчаныя яўрэі, якія часам складалі амаль палову гарадскога насельніцтва ў гэтым рэгіёне.

Пасля вайны сацыялістычныя ўлады ў Польшчы і камуністычныя ў СССР пачалі Балтыю ён быў перанесены пасля вайны з працоўнай міграцыяй.

Польшчы пашчасціла, там не было міграцыі з Расіі, мужыкі не праходзілі школу **блатнога шкалярства** ў Савецкай Арміі.

Польшча здолела пабудаваць гарадскі архетып на сваёй еўрапейскай, каталіцкай падставе, хаця сацыялізм і «падціскаў».

Што ж мы маем сёння?

Недзе каля 85 працэнтаў народу Беларусі жыве ў гарадах, з іх палова ў гарадах з насельніцтвам болей за 150 тысяч. Беларускае насельніцтва гарадоў зараз амаль цалкам прайшло стадыю «субкультуры прамысловых гарадоў расійскага тыпу». Гэта культура не мае быць аніякай іншай, акрамя рускамоўнай, на мяжы расійскай блатной немцаў, шведаў, фінаў, чымсьці да расійцаў. Яны і ў Расіі, і ў Беларусі часцяком успрымаюцца, як «немчыкі», «гансікі».

Нягледзячы на расійскую працоўную міграцыю, гэтыя тры народы захавалі ў гарадах свой сталы этнас, які размаўляе на сваёй мове. У Рызе латышоў — 33 працэнты, у Таліне эстонцаў — 50 працэнтаў, у Каўнасе летувісаў — 90 працэнтаў, і яны нават здолелі засяліць Вільню (зараз 600 тыс.) на 55 працэнтаў, калі ў 1939 годзе былі там пад 1—2 працэнты... Шмат хто з расійцаў там «падеўрапеіўся» і зараз ведае мовы, не хоча ехаць назад.

Вядома, што Балтыя зараз успрымаецца і ў Расіі, і ў Беларусі як Захад, і ў сэнсе культурным, і ў сэнсе этнічным — «маленькая, благенькая, але Германія».

# КРЫЗІС ЗАХОДНЯГА СТЫЛЮ

## ТЭЗЫ ДА КУЛЬТУРАЛАГІЧНАГА АНАЛІЗУ СУЧАСНАГА СТАНУ

індустрыялізацыю, якая выклікала рост гарадоў ды перасяленне ў іх карэннага насельніцтва. Такім чынам цалкам спустошаныя вайной Мінск, Гомель ды іншыя вырасці пад паўтара, пад паўмільёна жыхароў насельніцтва. І тут спрадвечныя сялянскі архетып беларуса сутыкнуўся з невядомым асяроддзем вялікага горада. Гэта — не тое самае, што Вільня да 1917, да 1940 гадоў.

Да вайны ў Беларусі не было сваёй масавай гарадской субкультуры (гарадскога фальклору вялікіх гарадоў). У вялікіх гарадах Расіі амаль з паловы XIX стагоддзя ўжо склаўся тып гарадской пралетарскай «люмпенска-паўблатной» субкультуры.

Пасля 1945 года з Расіі ў Беларусь прыехалі не толькі спецкіраўнікі, спецыялісты ў тэхнічнай галіне, але і шмат рабочых — носьбітаў гэтай субкультуры. Шмат беларусаў час ад часу працавала ў Расіі.

Таму пасляваенная індустрыялізацыя прынесла не толькі тэхнічны прагрэс, але і няведамы ў Еўропе ды ў пераважна сялянскай Беларусі **расійскі** тып субкультуры індустрыяльных гарадоў.

У савецкай сістэме гэты люмпенска-паўблатны тып асноўнай часткі рабочых меў сваю рацыю — бо чалавек не давяраў начальству і такім чынам захоўваў сваё «я».

У Расіі ды на ўсходзе Украіны гэты тып у горадзе адразу ўзнік з дарэвалюцыйнага пралетарыяту, бо там было шмат прамысловасці. На Беларусь, захад Украіны, у фені і звычайнай мовы Масквы. Гарадская ж інтэлігенцыя «булгакаўскага-пастэрнакаўскага накірунку» амаль расійская, хоць і большасць яе з беларусаў.

Зразумела, што нашы гарады нагадваюць Маскву, іншыя гарады Расіі ды не маюць і асновы еўрапейскасці, што ёсць у бліжнім Любліне ці ў Варшаве, Празе, Будапешце.

На жаль, цяжка зараз хваліць і вёску, бо яна таксама застаецца шмат у чым камуністычнай і трасянкавай!

(Гэта не тое сялянства, што ў Літве, Польшчы, — нацыянальна свядомае, антымаскоўскае, антыкамуністычнае).

Зразумела і тое, што такі стан у Беларусі не толькі не прывёў да стварэння сапраўднай нацыянальнай дзяржавы, як Летува, Польшча, а наадварот — цягне нас у старое і звыклае, цягне пад нагляд Расіі.

Хацелася б паразважаць пра тое, чаму гэтага пазбеглі краіны Балтыі, Польшча, што трымае Украіну?

### БАЛТЫЯ, ПОЛЬШЧА, УКРАІНА.

**Балтыя.** Летувісам, латышам, эстонцам было нашмат лягчэй застацца «нярускімі». Яны мелі свае жывыя неславянскія мовы, якія адрозніваліся ад рускай па адлегласці: літоўская — трошкі менш за нямецкую, але нашмат больш польскай, латышская — як нямецкая, шведская, эстонская — як фінская. Культуралагічна народы Балтыі цалкам каталікі альбо пратэстанты-лютаране. Ды і па ментальнасці гэтыя тры народы бліжэй да

**Польшча.** Этнічная, кракаўска-варшаўская Польшча заўсёды была захадам — бо ляжыць «тварам сярод Еўропы» (Чэхія, Германія, блізка Вена ад Кракава). Зараз Польшча аднавіла свае заходне-еўрапейскае аблічча ва ўсім (ад палітыкі да бытавой культуры), а па ўзроўні жыцця намагаецца ўпарта ісці да еўрапейскіх стандартаў.

Пасля вайны ўплыў каталіцтва і мяжа з СССР перашкодзіла перанесціся «расійскай субкультуры вялікіх прамысловых гарадоў» ў гарады Польшчы. І зараз упэўнена скажу, што па стылі жыцця, па культуры Кракаў і Варшава бліжэй да Парыжа, чым да Мінска з Масквой.

Польшча, як Балтыя, таксама ўспрымаецца як Захад і ў Расіі, і ў Беларусі.

**Украіна.** Хоць Украіна была і абруселая, а мова ў нарматыве блізкая ўсё ж да рускай, але развіццё гэтай краіны вырашаюць яе памеры (52 млн. насельніцтва), наяўнасць мора і гонару, што марская дзяржава, наяўнасць «украінскай Еўропы» — Львова з Галіцыяй, ды і украінцы — усё ж народ паўднёвы, жывучы, дзе народнае і вясковае не лічыцца такім абразлівым, як у іншых паўднёвых краінах (Балгарыя, Румынія, Сербія). Украіна наўрад ці стане класічнай Еўропай, як Летува, Польшча, але нацыянальна свядомы і украінскамоўны — да фанатызму — рэгіён там ёсць вакол Львова, а гэта — 6 млн. людства...

Калі Украіна і можа дазволіць сабе ісці не шляхам з Еўропай, а па тыпу Турцыі — рэгіянальнай дзяржавай, то Беларусі ў 1991 годзе быў наканаваны адзін шлях — разам з Летувой і Польшчай — у Еўропу.

**«Крызіс заходняга стылю» і Беларусь.** У часы СССР Беларусь была натуральна большай Еўропай, чым Расія. Але ўсё доўжылася да студзеня 1992 года, калі Гайдар і Ельцын пачалі рынкавы эксперымент у Расіі. У Беларусі ўсё засталося па-старому. А вестэрнізаваная Польшча і Балтыя пайшлі яшчэ далей за Расію. Такім чынам, насуперак логіцы вектара «Еўропа — Азія» Беларусь сёння не ўспрымаецца па большасці паказальнікаў як «Захад»: у параўнанні з Масквой, з Расіяй яна выглядае **менш** вестэрнізаванай. А паколькі Беларусь застаецца рускамоўнай, то можа ўспрымацца па стылі жыцця як ціхая правінцыя Расіі. Вось гэта і ёсць парадокс; **«крызіс заходняга стылю».** Бо кожны з замежжа (ЗША, Германія ці тыя ж Польшча з Летувой) адразу заўважыць, што Масква больш заходні, рыначны горад, чым Мінск.

Хаця ў кантэксце геапалітыкі Беларусь павінна ісці праз «агонь і ваду» на захад, даганяць Эстонію, Польшчу, Чэхію, Летуву. Краіна, аднак, застаецца савецкай па менталітэце, рускамоўнай, з архаічнай калгасна-прыгоннай вёскай. Краіна цалкам не адпавядае свайму геаграфічнаму месцу ў Еўропе. Калі і ёсць нейкія рынкавыя змены, то яны не на еўрапейскі, а на лацінаамерыканскі капыл. Гэта вельмі небяспечна, калі краіна не ўпісваецца ў геапалітычную нішу, тады нацыя і эканоміка робяцца кволымі, млявымі, і дзяржава знікае.

Для Украіны, як ні дзіўна, меншая за Маскву вестэрнізацыя не такая ўжо і небяспечная, бо большасць Украіны ляжыць на фарпосце Азіі: Каўказ, Турцыя, стэп ад Данецка да Казахстана. Украіна проста не ў стане фізічна і псіхалагічна ісці і рабіць учынкі, як Польшча з Летувой. Іншая справа — маленькая паўночная Беларусь, ды яшчэ на шляху Масква — Берлін.

Але найбольш страшна ўсё гэта ў плане культуралогіі, калі мы і сапраўды ў вачах Захаду, суседзяў і самой Расіі так і застанемся «нейкай тэрыторыяй», якая, насуперак логіцы, будзе мець меншую вестэрнізацыю ды заходні стыль жыцця, чымсьці сама Расія. Не дай Бог стаць «рускамоўным Парагваем» на поўначы Еўропы!

**Вячаслаў ЗІНАЎ**

*г. Баранавічы.*

**Р. S.** Балтыя — «Мінігерманія», Польшча — «славянская Францыя», Украіна — «малая вялікая дзяржава». А Беларусь? Хіба што «Гандурас на дрыгве» (ды яшчэ рускамоўны)!..

Усяго гэтага таму я асцерагаюся, што менавіта сёння Беларусь можа страціць набытак апошніх 700 гадоў з часоў Міндоўга — больш заходні выгляд, чым Расія. Зараз гэта — найбольш рэальна.

Паэзія

## Павел МІСЬКО



### ПАГАНСКАЕ

Мурзатае неба, спацеўшы, аплаквае спёку крапліста,
Жыцінкі пад парай ружова шчацінящца скрозь па раллі...
Смех, віск... Красналюдкі, згарнуўшы
каптурыкі з лопуху-лісту,
Дурэюць ля хатак, а ў кожнага бороды аж да зямлі.
Вунь Жыщень, дзяцюк-дуралей, з-пад бярозы,
нібыта з парыльні,
Чырвоны, як рак, — шабулдых у крыніцу, у вір з галавой!
І не астудзіўся, паўстаў ля вады, развінуў рукі-крылы:
«Русаўка дзе? Дайце русаўку!!!» — ад юру раве,
сам не свой.
І, мусіць жа, згледзеў на ўзлеску
цікаўную дзеўку-прывабу,
Наўскач, ашалелы, папёр, замільгаў галізной паміж дрэў.
Чуваць красналюдкам было, як ускрыквае
нехта там слаба,
І як андарак нехта ў лесе раз'ятрана з дзеўкі дзярэ.
Не дадзена ім зразумець,
тым дзядкам-красналюдкам маленькім,
Што гэтак у свеце наладжана ўсё назаўжды, спакваля,
Каб нехта ўзворваў, хадзіў па палетку
з паўнюткай сявенькай,
Каб потым рунела ралля і крычала ў жанчын немаўля.

### ПРАЦЭНТАМАНІЯ

«Аляксей, муку сей,
Рашчыняй пампушкі...
Не магу я адарваць
Голаў ад падушкі!»
«Мая любка, паляжы,
Там такія капяжы!
Дождж ідзе з грымотаю!
Я з табою паляжу
Таксама з ахвотаю!»
«Аляксей, ашалеў?!
Свінні вунь абернуць хлеў!
Свінні хочуць ужо есці,
Трэба едзіва занесці!»
«І я нештачка хачу,
Але ж я мо не крычу!
Ты таксама не крычы,
А палуйся і маўчы!»
«Аляксей, не дурэй,
Не чапай сарочкі!
Табе мала? Пяць сыноў
І чатыры дочкі!»
«Да дзесятка будзем гнаць,
Пяць сыноў і дочак пяць!
А ты вечна ах ды ах...
Не такі ўжо гэта страх!
Сем'і ёсць — адно дзіця:
Сто працэнтаў плана!
Лёсам дзесяць нарадзіць
Нам наканавана!
На дзесятак падзялі
Сто працэнтаў нашых —
Дзесяць процантаў прыбаўка!
Так што не настрашыш...»
«Сам цішэй... Угаварыў...»
...Аляксей жыццё тварыў,
А пакуль кахаў, аж млеў,
Абярнулі свінні хлеў!

### ПРА ГОРКАЕ І САЛОДКАЕ

Вецер адхліставў па шчоках злосна,
Вочы выеў едкі снег, як соль,
Больш было мне млосна, чым мілосна,
Рэквіем гучаў — не песенька-фрыволь.
Доўга піў не з хмелем я мядуху,
А палынна-чэмерны настой.
Проста не хапіла, мабыць, духу,
Каб сказаць сабе: «Чакай, пастой...
Схамяніся, браце, азірніся.
Хіба ўсяго свету, што ў акне?
Новаму куміру пакланіся,
Можа стацца — шчасце не міне».
«Можа...» — бабка надвае варожа.
Так бясконца можна варажыць
(На табе, нябожа, што не гожа...)
Хіба толькі сэрца растрывожыць,
Хіба ран на ім, рубцоў намножыць?
Ох, браточкі... А калі ж мне жыць?

## ПАМЯЦЬ У НАЗВАХ

**Да нядаўняга часу вельмі ж ахвочыя былі мы мяняць старыя гістарычныя назвы, узамен іх прапаноўваючы новыя, як быццам больш светлыя, адпавядаючыя дню сённяшняму. Але ж у народзе, як вядома, паважнае стаўленне да ўсяго, і тыя ці іншыя назвы самі па сабе не ўзнікалі. Яны — таксама свайго роду памяць. Духоўная, якая знайшла ўвасабленне ў назвах гарадоў і вёсак, рэк і азёр. Адлюстрава-ны ў іх і шмат якія падзеі, што найбольш запомніліся, а часам і людзі, якія пакінулі прыкметны след.**

**А за ўсім гэтым нярэдка — паданні, легенды. Ды такія, што не заўсёды і разбярэшся, дзе ява, а дзе выдумка. Хаця ці і трэба надта да гэтага імкнуцца. Бадай, лепей прыслухацца да голасу самога народа. Што і робіць Людміла Дучыц у кнізе «Археалагічныя помнікі ў назвах, вераваннях і паданнях беларусаў», выпушчанай выдавецтвам «Навука і тэхніка». Выданне гэтае рыхтавалася яшчэ пад рэдакцыяй незабыўнага Міхася Ткачова — доктара гістарычных навук, аднаго з самых выдатных нашых сучасных адраджэнцаў.**

**Пэўнае ўяўленне аб кнізе дае ўжо кампаноўка яе раздзелаў: «Месцы старажытных паселішчаў (станкі, гарадзішчы, селішчы)», «Культавыя камяні», «Агульнае ў назвах і паданнях», «Археалагічныя помнікі і гістарычныя асобы», «Павер'і пра помнікі даўніны»... Безумоўна, чытача зацікавіць і «Спіс народных назваў археалагічных помнікаў», у якім прыводзіцца не адна сотня найменняў.**

## У СЕРЫІ «ПАЭЗІЯ НАРОДАЎ СВЕТУ»

**Польскія пісьменнікі ўвагай беларускіх выдаўцоў не абдзелены. Лепшыя творы іх у перакладзе на беларускую мову рэгулярна выпускае і выдавецтва «Мастацкая літаратура». І ўсё ж чарговая кніжка, што папоўніла серыю «Паэзія народаў свету», думаецца, прыцягне асаблівую ўвагу аматараў паэзіі. У згаданай бібліятэцы прадстаўлены зборнік твораў класіка польскай літаратуры Леапольда Стафа. «Канец надзеі» — за гэтай назвай шырокае кола праблем, што хвалявалі аўтара (памёр Л. Стаф у 1857 годзе), апяванне вечных этычных і эстэтычных каштоўнасцей. Разам з тым для яго твораў характэрна не толькі арыентацыя на класічныя традыцыі, а і смелы пошук, як бы адыход ад зямных рэалій. Нездарма Уладзімір Калеснік прадмову да зборніка назваў «Зямное і занябеснае». Пераклаў жа творы Л. Стафа Алег Мінкін.**

## ЁСЦЬ І СВАЕ СТАНДАРТЫ

**Прынамсі, у друку. Яшчэ летась у Нацыянальнай кніжнай палаце Беларусі створана Галоўная служба па стандартызацыі ў галіне паліграфіі, выдавецкай справы і кніжнага гандлю. Уведзены ў дзеянне і першыя беларускія выдавецкія стандарты, што выпушчаны брашурамі «Выданні. Міжнародная стандартная нумарацыя кніг» і «Выданні. Асноўныя віды. Тэрміны і азначэнні». У апошняй, напрыклад, налічваецца 125 тэрмінаў, дэфініцыя якіх падаецца па-беларуску. Сярод іх і новыя — дайджэст, комікс, бестселер...**

## ЧАСОПІСАМ У ЧАСОПІСЕ

**можна назваць падборку матэрыялаў, аб'яднаную назвай «Берасцейшчына», у другім за сёлетні год нумары «Беларускага гістарычнага часопіса». Гэтае выданне працягвае знаёміць чытачоў з найбольш знакамітымі ў гістарычных адносінах рэгіёнамі Бацькаўшчыны. Гэтым разам змешчаны артыкулы «Берасцейская зямля ў X—XIII стст.» А. Іова, «Берасцейская зямля ў складзе Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай» У. Зданевіча, «Ад гэтай царквы не засталося і следу» І. Лаўроўскай, «Нацыянальная школа ў Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.) А. Вабішчэвіча, «Бурштын Берасцейшчыны — багацце Беларусі» А. Багдасарава, М. Багдасарава і І. Жлобы.**

**Малавядомыя старонкі Вялікай Айчыннай вайны прачытваюцца ў публікацыях «Вызваленне Беларусі: на шляху да Вялікай Перамогі» В. Кушнера і Я. Паўлава, «З архіваў партызанскага руху» В. Ермаловіча.**

**На шырокага чытача разлічаны артыкулы «Расійская імперыя пачатку XX ст.: праблемы вывучэння» В. Старцава, «Ордэны Рэчы Паспалітай» Д. Карпіевіча, «Гістарычныя крыніцы і спецыяльныя навукі» С. Барыса, заканчэнне артыкула «Арышты і дэпартацыі ў заходніх абласцях Беларусі (1939—1941 гг.) А. Хацкевіча.**

**Артыкул Г. Каханоўскага «Вытокі музейнай справы на Беларусі» прапануецца з уступным словам А. Мальдзіса — развітаннем з Генадзем Аляксандравічам, які нядаўна заўчасна пайшоў з жыцця.**



Крытыка

# «СЕНТЫМЕНТАЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ»

## ПРОЗА ГАЛІНЫ БАГДАНАВАЙ

Гаворачы пра творчасць Г. Багданавай, найперш трэба прыгадаць знакамітае выхаванне пачуццяў — «L'education sentimentale». Гэта, здаецца, вядучая тэма пісьменніцы. Калі акрэсліць асноўнага героя кніг Г. Багданавай (а іх дзве: «Папяровыя замкі», 1990 г., «Чалавек без адраса», 1991 г.), то перад намі выразна паўстане «філасофка», аматарка папулярнай класічнай музыкі; яна любіць таксама Акуджаву пры электрычных свечках (Міла з «Вязальшчыцы»), выстаўкі ў мінскім Палацы мастацтваў (Ніна з «Салодкіх арэшкаў»), інтымныя вакалізы з пахам антонаўскіх яблыкаў і «снежна-белымі» ружамі (актрыса Таня з «Вакалізу») і да т. п. Персанажы Г. Багданавай за мінімальнымі выключэннямі аспіранты, дактаранты, кандыдаты і дактары навук, кампазітары, мастакі, акцёры, супрацоўнікі музеяў і рэдакцый, кінарэжысёр, ўрачы і педагогі. Прафесійнае аблічча ці не праграмнае. Паколькі маральна-этычныя, інтымныя калізіі ўсе вядомыя (няўдалы шлюб, развод, адзюльтэр, агульнае бяздушша, подлыя чыноўнікі, разважанні вакол нацыянальнай тэмы), то міжволі складваецца ўражанне, што намаляваць сучаснага гараджаніна, беларускага інтэлігента, паказаць, як ён выглядае і чым займаецца, і было галоўнаю задачаю пісьменніцы. Прычым відавочна (а падумаўшы, дык гэта зусім натуральна), што ў прозе Г. Багданавай «сентыментальная» тэма і гэтая задача абмалёўкі інтэлігента часта замінаюць адна адной, нават выключаюць адна другую. Напрыклад, у апавяданні «Мамін вальс, або Як мы развіталіся з рамантыкай...» найбольш выразна гучыць тэма, а значыць інтэлігентнасць і беларускасць персанажаў робяцца прыкметамі чыста дэкаратыўнымі.

Гераіні твора, чатыры сяброўкі, збіраюцца за адным столікам у «Каменнай кветцы» святкаваць дзень нараджэння, і ў дадзеным выпадку зусім не важна, хто яны па прафесіі: юрысконсульт, бібліятэкар, настаўнік літаратуры або вызвалены тэхнікумаўскі камсамольскі сакратар. Зразумела, што падобная камернасць сюжэту выключае сур'ёзную гаворку пра беларускую інтэлігенцыю. Пісьменніца прыкметна апякуецца, каб яе не 18-гадовыя ўжо дзяўчаты выглядалі ў рэстаране на галаву вышэй за астатніх наведвальнікаў, аднак галоўнае пытанне гучыць рэалістычна балюча: адкуль асабістае дзявочае няшчасце, адзінота? Адкуль класічная мізэрнасць «далікатнага» жыцця? Адказ Г. Багданавай цікавы — ад рамантыкі. Ад несучасных ідэалаў, занадта цвёрда засвоеных у школе з рускай класікі XIX стагоддзя. Вінаватыя рамантычная маці-настаўніца, не дужа шчаслівая і сама; вера ў пунсовыя ветразі, «музыку Вівальдзі», што ў рэальным жыцці закончылася незапатрабавальнасцю, разбітым карытам, папяроскамі з нервовым смехам у рэстаранскім туалеце. А правыя — відаць, тыя, хто даўно разабраўся з рамантыкаю ў цёмных пад'ездах? Сцвярджальнай інтанацыі тут перашкаджае хіба што «класавая нянавісць» гераіні, ад імя якой вядзецца апавяданне, да гэтых нізкіх шчасліўц, як правіла шыкоўна ўладкаваных у жыцці.

Гэтае апавяданне выдатна адлюстроўвае псіхалогію маладой асобы ўчарашняга дня. Дзяўчаты Г. Багданавай, не бядачкі ў свой час, калі патрабавалася толькі верыць ды чакаць абяцанай светлай будучыні, так і не здолелі пасталець. Яны адчуваюць сябе падманутымі і гатовыя ў сваёй нешчаслівасці вінаваціць хоць Пушкіна, толькі не ўласны інфантылізм, слепату, ляноту. Урэшце, за свой лёс чалавек заўсёды мусіць адказваць сам. Ці варта развітвацца з божым дарам, з рамантыкай на карысць яечні? Відаць, усё ж такі наспеў час гераіням Г. Багданавай развітацца з нечым іншым — з ілюзіямі, дзяцінствам, безадказнасцю, са звыклым адчуваннем гарантаванай праваты і абароненасці, якое па-за любасцю блізкіх знойдзеш хіба што ў прапагандзе, але не ў жыцці.

А што да гаворкі ўсур'ёз аб праблемах нашага інтэлігента, то найбольш натуральна і па-мастацку пераканаўча яна прагучала ўсё ж у раннім апавяданні Г. Багданавай «Папяровыя замкі», дзе ажыла метафара: хворы хлопчык, захоплены цацачным замкам, папяровым вершнікам, родным і забраным ад яго бацькам...

Гарадскую рэчаіснасць Г. Багданава адлюстроўвае ў манеры апавядальнай, і пры гэтым дастаткова лаканічнай, дакладнай, эмацыянальна выразнай, маляўнічай. Ды ўсё ж урбанізм супрацiўляецца гэтаму маўленню, гэтаму стылю, у якім так многа «вясковага». Беларуская сялянская, вясковая літаратура мае сваю высокую класіку, бо яна мела сваю філасофію, сваю эстэтычную форматворчую мадэль: побыт — быццё — светапогляд (пра гэта наша крытыка неаднойчы пісала). Гарадская ж (а, можа, варта казаць не «вясковая і гарадская», а «класічная і сучасная»), сучасная беларуская проза такой філасофіі, агульнай генеральнай ідэі пакуль што не мае. Большасць нашых празаікаў яшчэ безумоўна падуладная інерцыі магутнага старога стылю. Усё яшчэ трывае знакамітае супрацьпастаўленне «вёска — горад», прытым што ўжо ў часы М. Стральцова галоўнае тут было сказана. Усё яшчэ па большасці вясковая ў нас і містыка, і публіцыстыка, і «жаночая» проза, бо зноў і зноў светапоглядна, — а ўжо потым на ўзроўні мастацкага маўлення, — распачынаецца старая песня: побыт — пошукі быцця — высновы ды пазіцыя аўтара... Між тым, як вядома, новы час адэкватны не стабільнаму быццю, а катастрафічнаму існаванню, ірацыянальнай экзістэнцыі. Мы ж пакуль часцей толькі канстатуем бязглуздзіцу цывілізацыі — накшталт мітрэнгі ў транспарце, чэргах, сталоўках, накшталт жыцця «пры Саветах», накшталт агульнага азвярэння, ачмурэння і да т. п. У нас усё гэта робіцца прадметам для прастадушнага ляманту, дзе «эпічнае» месца аўтара як бы збоку, па-за сітуацыяй. Ён здольны знайсці правых і вінаватых (добрую «вясковую» і дрэнную «гарадскую» мараль)... А тыпалогія сучаснай прозы, — той, што ў Беларусі называецца «гарадская», — у свеце ўжо пэўна сфарміраваная. Падобная проза мусіць быць па меншай меры індывідуалістычнай, інтэлектуальнай, яе прадмет — чалавек экзістэнцыйны. І няхай па форме гэта будзе, напрыклад, антыутопія, як «Кентаўры» ці «Пабакі» В. Гігевіча, прыпавесць, як у кнізе Я. Сіпакова «Тыя, што ідуць», або традыцыйна-грамадазнаўчыя і псіхалагічныя апавяданні А. Чобата і А. Федарэнкі.

Аднак яшчэ ў 80-я гады той жа Я. Сіпакоў, У. Дамашэвіч, В. Гардзей, Т. Бондар, многія, многія іншыя пісалі не столькі пра жыццё ў горадзе, колькі пра жыццё ў горадзе непрыязнымі вачыма вяскоўца. (Дарэчы, узорнымі руінамі сялянскага светапогляду можна назваць нядаўні цыкл «Жар кахання» Г. Далідовіча, дзе пісьменнік прадэманстраваў поўны распад мастацкай культуры. Эротыка — не секс, яна не можа і сёння заставацца адно патрыярхальным смакаваннем крамяных сцёгнаў, як гэта ёсць у тэкстах Г. Далідовіча). Горад у падобнай прозе — яшчэ чужы, эстэтычна не адкрыты сусвет. Гэтаксама і Г. Багданава апісвае, напрыклад, жахлівы рэстаран «Планету» і яго наведвальнікаў так, як амерыканцы ставяць фільмы пра шпіёнаў з КДБ: знешне вельмі падобна, у дэталях дакладна, але гэтыя прастытуткі, бы тыя шпіёны, нагадваюць фігуры з плакатаў. Гэтак пільна і пачуццёва намаляваныя «свежанькая італа-югаслаўская Пупа», «французская Ланком», «парыжскі пах — «Чорная магія», — трафеі кунсткамеры. Непазбежна «вясковым» робіцца і агульны пафас, знакаміты ідэйны змест: «Ды, мусіць, як нарадзіўся, так на ўсё жыццё і застанешся вяскоўцам. Не прымае душа гэтага гарадскога сурагату маралі» («Вязальшчыца»); «Не, як паехаў з вёскі, я моцна змяніўся. Нервуюся, злуюся... А ў нас жа так хораша...» («Ларыкаў сад»). Адпаведна традыцыйнаму імгненню да цэласнасці, вызначанасці, раўнавагі Г. Багданава, пішучы, напрыклад, пра развод, абавязкова ўстаўляе ў тэкст дзіцячыя вярэдлівыя размовы пра татаў, радыёперадачы якраз у патрэбны момант на патрэбную тэму... Таму крыху пазней напісаныя апавяданні «Супер-8», «Травесці», «Народжаныя поўзаць», «Чалавек без адраса» шмат выйграюць ужо дзякуючы такому простаму прыёму, як адкрытая канцоўка, недасказанасць, якая, можа быць, ідзе ад шчырага няведання аўтара, што новага можна б паставіць у кутняе ідэйна-філасофскае месца.

З апошняга шэрагу вылучым апавяданне «Народжаныя поўзаць» — пра сённяшняе панаванне падонкаў, нашчадкаў злачынных нкусаўцаў, — дзе далікатная аўтарская чуллівасць яўна саступае жорсткай сюжэтнай інтрызе. Ці не ўпершыню ў Г. Багданавай боль за прыніжанага чалавека не залежыць ад ступені вытанчанасці рэцэпіента, боль народжаны завялікай жыццёвай несправядлівасцю.

А пакуль выспявае новы літаратурны светапогляд, Г. Багданава, як і многія іншыя, у тым ліку больш вопытныя нашы пісьменнікі, у межах старой эстэтычнай структуры, эмацыянальна-публіцыстычна выказваецца аб прыярытэтах. Паказальнае тут апавяданне «Васількі на дарожцы». Яно гучыць як рэквіем беларускай інтэлігенцыі. Галоўная гераіня, жыва і кранальна абмаляваная, рупіцца пра спадчыну свайго бацькі, слыннага гісторыка і археолага, сваёй маці, свайго роду — але сутыкаецца зноў і зноў з дзяржаўным ды прыватным хамствам. У апавяданні шмат фактаў, балючых ісцін, якія паўтараюцца ў друку з 85-га і асабліва з 88-га года. Што ж да мастацкасці апавядання, то яна месцамі зусім знікае: яе разбурае ідэйная публіцыстыка, стылёва чужая ў самадастатковай, кананічнай для беларускай прозы апісальнай плыні. Эстэтычную ролю пры такой публіцыстыцы сіляцца адыгрываць самыя немудрагелістыя прыёмы. Вось прыклад найбольш папулярнага ў нашай сучаснай прозе стылёвага ходу: «Я, Лена, толькі на старасці гадоў уцяміла, чаму першыя пад нож культу асобы падпалі гісторыкі і археолагі». І далей — многа і па сутнасці слушна пра гістарычную памяць, яе ролю для нацыі і інш. Заўважым, што ў прозе Г. Багданавай падобны гвалт над мастацкім стылем сустракаецца ўсё ж даволі рэдка.

У новых, 1992—93 г.г. публікацыях Г. Багданавай з'явіліся новыя рэаліі. На змену высненым мужчынам-абраннікам і падвышаным дзяўчатам, напярэймы адмоўна-бездухоўнаму тыпу, у працяг цікавага вобраза ленінградскай руплівіцы з «Васількоў на дарожцы» Г. Багданава спрабуе намаляваць беларускага інтэлігента праз канкрэтны і пажыццёваму празаічны прататып. Вядомых людзей чытач пазнае ў тэксце з аўтарскіх падказак: з апісанняў знешнасці, біяграфій, твораў, з барадатай хатняй показкі пра мастака. Калі ў «Васільках на дарожцы», напрыклад, мы яшчэ былі вольныя пазнаваць ці не пазнаваць сям'ю Гарэцкіх, то ў «Грандамах» або ў «Доме іхняе мары» ўжо і зусім далёкі ад беларускага тэатральнага жыцця, ад нашага жывапісу чалавек (нават пры мінімальным жаданні) мусіць лёгка пазнаць, пра каго Г. Багданава вядзе гаворку.

У апавяданні «Дом іхняе мары», напрыклад, чытач трапляе ў свецкі салон, што расчытваецца, як крыжаванка. Мы як бы атрымліваем магчымасць пацешыцца з уласнай дасведчанасці і лішні раз пераканацца, што не багамі гаршкі лепяцца. Мне здаецца, што конкурсы на здагадлівасць, каляэстэтычныя гульні з вядомымі імёнамі дужа рызыкоўныя. Калі В. Катаеў, напрыклад, некалі пісаў «Траву забвения» і інш., ён як бы зніжаў да сапраўднасці, ачалавечваў манументы афіцыйнай савецкай культуры. У абраных жа Г. Багданавай голых кулуарных абставінах ёй і хваліць нашых мастакоў нязручна, і пакрыўдзіць шкада, і выглядаюць яны, што і казаць, беднавата, і ўрэшце незразумела, чаго пісьменніцы ад усіх гэтых маэстра трэба. Іншымі словамі, не відаць галоўнага: задачы мастацкай — той, якую на плечы персанажаў не перакладзеш.

У згаданых новых творах Г. Багданавай (гл. таксама «Містычныя эцюды» ў «ЛіМе») былыя Акуджава, Высоцкі і Вівальдзі змяніліся біяэнергетычным вампірам-малайзійцам («Фатограф»), экстрасенсоркаю Глафірай («Дом іхняе мары»), госцяй з Амерыкі князёўнаю Аліцыяй Ланеўскай, родам з-пад Наваградка, што мае яхту і вілу на беразе акіяна («Калядная паштоўка»). Колішняя бабка Малышава з «органаў» як прыкмета часу саступіла прыватызатарам; чарговы дактарант-філосаф сялянскага паходжання набыў прафесію дыпламата; а былы каханы шыкоўнай Аліцыі, які не эмігрыраваў з Савецкай Беларусі, зрабіўся брудным п'яніцам. І толькі чыста «мексіканскага» ўзору меладраматычная калізія ўзнавілася без зменаў у дэкарацыях радзільнага дома (апавяданне «Дзевяць месяцаў, дзевяць дзён», нягледзячы на дэкаратыўную грубасць некаторых дэталяў, сваімі сентыментальнымі прыўкрасамі цалкам дубліруе старое «У ноч пад Новы год»).

Усё гэта ўрэшце жыццепадобна і па меншай меры цікава, тым больш што дастаткова прафесійна напісана. Разам з гэтым чытача не пакідае адчуванне, што вось яшчэ старонка, паўстаронкі — і аўтар акрэсліць перад табой нешта сутнаснае, што мусіш спасцігаць, а не прымаць да ведама як яшчэ адну, больш ці менш выразную, версію папулярнага анекдота, гарачай газетнай інфармацыі, моднай, ды ўжо банальнай показкі.

Галіна Багданава пісьменніца вельмі перспектыўная. Яна ўмее ўзяць самую камерную ноту з далікатнасцю, што выратоўвае нават дужа двухсэнсоўную сітуацыю. Яе стасункі з беларускім словам гарманічныя, натуральныя. У сваіх апавяданнях яна пазначыла тую шматмерную прастору, у якой сёння жыве беларускі інтэлігент. Разам з многімі сённяшнімі празаікамі Г. Багданава, на маю думку, на парозе значных якасных зрухаў.

**Людміла КОРАНЬ**

# ПРЫКЛАД СТОЙКАСЦІ І АДДАНАСЦІ БЕЛАРУШЧЫНЕ

## РАІСА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ І ЯЕ КНІГА «ЖЫЦЦЁ ВІНЦЭНТА ЖУК-ГРЫШКЕВІЧА»

У апошнія гады мы ўсё больш даведваемся пра жыццё беларускай эміграцыі, адкрываем для сябе новыя імёны і справы беларусаў, якія воляю лёсу ў розныя часы (а найчасцей у пасляваенныя) пакінулі Бацькаўшчыну. І з вялікай цікавасцю ўспрымаюцца кнігі, напісаныя там, у вольным свеце. Важкі том Раісы Жук-Грышкевіч «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», які выпусціў «Выдавецкі фонд успамінаў з беларускага жыцця» (Таронта-Канада, 1993), уражвае не толькі аб'ёмам (каля 800 старонак), выдатным афармленнем, цудоўнай паперай, фотаздымкамі, даведачным апаратам, дакладнай бібліяграфіяй, але і сваім зместам. З неаслабнай увагай чытаецца кніга, цалкам пабудаваная на дакументальных матэрыялах, бо многае з жыцця беларускай эміграцыі адкрываеш для сябе ўпершыню. Відаць, цікавасць гэта падтрымліваецца і тым, што падзеі, побыт беларусаў-эмігрантаў, іх узаемаадносіны, імкненне згуртавацца дзеля агульнай беларускай справы паслядоўна раскрываецца праз асобны чалавечы лёс.

Імя Вінцэнта Жук-Грышкевіча дастаткова вядомае на Беларусі, але кніга высвеціла не толькі падрабязнасці яго працы як старшыні Рады БНР з 1970 года, але і жыццё беларускай эміграцыі ў Англіі, Канадзе, ЗША, найбольш вядомых асяродках беларусаў, дзе давялося працаваць галоўнаму герою гэтага дакументальнага твора. Матэрыялы кнігі храналагічна пададзены так, што ў іх адлюстроўваецца эпоха, амаль цэлае XX стагоддзе, «жыццё й дзейнасць беларускае эміграцыі, яе суадносіны з беларускім народам на Бацькаўшчыне, з беларускім вызвольным рухам».

У прадмове да кнігі Раіса Жук-Грышкевіч, акрэсліваючы мэты сваёй працы, адзначае, што «інтэгральнай часткай зместу багатай душы В.Жук-Грышкевіча, сына паняволенага народу, была любоў да Бацькаўшчыны-Беларусі, любоў, што дыктавала яму абавязак служэння беларускай справе. Ён верыў, што Бог даў яму жыццё, здароўе, здольнасці й сілы ператрываць, перажыць савецкія лагеры смерці, каб аддаць сябе на службу Бацькаўшчыне, на змаганне за вызваленне Беларусі. Незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчаная Актам 25 Сакавіка 1918 года, была, як ён казаў, «пуцяводнай зоркай» ягонага жыцця, і павінна ёю быць для ўсяе беларускае эміграцыі, для ўсяго беларускага народа».

На ідэі незалежнасці Бацькаўшчыны грунтавалася ўся дзейнасць лепшых прадстаўнікоў беларускай эміграцыі, пра што сведчаць дакументы, з такой любоўю і павагай сабраныя ў гэтай унікальнай кнізе. Яна адкрываецца біяграфіяй В.Жук-Грышкевіча (1903—1989), напісанай па-беларуску і па-англійску самой укладальніцай. Пра тое, які гэта быў высокаадукаваны, шчыры беларус, гавораць факты яго жыцця. Ён нарадзіўся ў Будславе Вілейскага павета ў сялянскай сям'і, вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, скончыў факультэт славянскай філалогіі Пражскага універсітэта, выкладаў беларускую мову, літаратуру і гісторыю ў Віленскай беларускай гімназіі, браў актыўны ўдзел у грамадскім руху Заходняй Беларусі, супрацоўнічаў у часопісах і газетах. У 1939 г. быў арыштаваны НКВД і як «социально-опасный элемент» і «вораг народа» асуджаны на 8 гадоў, але вызвалены ў 1942 г. як польскі грамадзянін і, паступіўшы ў польскае войска, выбраўся з Савецкага Саюза. Ваяваў у складзе восьмай Брытанскай арміі. У 1946 г. В.Жук-Грышкевіч арганізаваў у Лондане першую пасля вайны беларускую арганізацыю — Згуртаванне беларусаў у Вялікай Брытаніі, быў яго першым старшынёй. Адначасова быў рэдактарам часопісаў: «На шляху», «Беларусь на чужыне».

З 1950 г. жыў у Канадзе, з'яўляўся асноўным арганізатарам беларускай справы ў краіне, абараніў доктарскую дысертацыю па беларускай літаратуры пры Атаўскім універсітэце, атрымаў ступень доктара філасофіі ў галіне літаратуры. У верасні 1953 г. ажаніўся з беларускай студэнткай факультэта дантыстыкі Таронцкага універсітэта Раісай Жукоўскай. З 1954 па 1956 г. быў кіраўніком беларускай секцыі радыё «Свобода» ў Мюнхене, ён першы арганізоўваў яго перадачы на Беларусь.

Вярнуўшыся ў Канаду, В.Жук-Грышкевіч з другой паловы 50-х і да канца сваіх дзён быў актыўным удзельнікам беларускага грамадскага жыцця на эміграцыі, прадстаўляў беларусаў на агульна-канадскіх кангрэсах і канферэнцыях, супрацоўнічаў у газетах «Бацькаўшчына» і «Беларус», рэдагаваў «Весткі з Канады», быў сябрам Рады БНР, старшынёй сектара Рады БНР у Канадзе, а ў 1971 г. 11 сесія Рады БНР зацвердзіла яго Старшынёй Рады БНР. На гэтай адказнай пасадзе ён прабыў да 1982 г.

Такі сціслы пераказ асноўных біяграфічных момантаў, прыведзеных напачатку кнігі, налаўняецца затым глыбокім і змястоўным аналізам дзейнасці В.Жук-Грышкевіча праз дакументальна-падрабязнае пацвярджэнне амаль кожнага дня, месяца яго жыцця, адлічваючы з дзіцячых, юнацкіх гадоў на радзіме і да апісання апошняга прытулку нашага земляка на беларускіх могілках Жыровіцкай Божай Маці ў Іст-Брансвіку ў ЗША. (Дарэчы, падчас майго знаходжання ў ЗША ў 1992 г. і, дзякуючы Надзі Кудасавай, мне давялося пабываць на гэтых беларускіх могілках, прачытаць кранальныя надпісы на помніках многіх слаўтых беларусаў-эмігрантаў, пакланіцца магіле В.Жук-Грышкевіча. — **Л.С.**). Прычым, гэты аналіз грунтуецца не толькі на дакументах: дакладах, выступленнях, артыкулах, пратаколах, нататках, асабістым ліставанні, але і на ўспамінах самога В.Жук-Грышкевіча, асабліва цікавых і эмацыянальна-насычаных, калі размова заходзіла пра далёкія гады на Бацькаўшчыне, пра мілыя сэрцу выгнанца родныя мясціны, раку Сэрвач, лес, поўны грыбоў і ягад, пра матчыны песні, вясковыя вечарынкі, на якіх Вінцэнт іграў на скрыпцы і гармоніку, пра Менск 1917 года, дзе ён быў сведкам збройнага разгону Усебеларускага кангрэса, абвяшчэнне незалежнасці Беларусі 25 Сакавіка 1918 г.; пра сустрэчы з Янкам Купалам, Віленскую беларускую гімназію і пра тое, як здаваў экзамен Максіму Гарэцкаму, вучыўся затым у Антона Луцкевіча і Адама Станкевіча, ды і наогул пра ўсю беларускую Вільню. Студэнцкія гады ў Празе Чэшскай асабліва памятныя Вінцэнту. Там ён студыяваў навукі разам з Янкам Станкевічам, Ігнатам Дварчанінам, Янкам Геніюшам, Міколам Гарошкам, Аляксандрам і Пётрам Орсамі, Міколам Ільяшэвічам, Уладзімірам Жылкам, сустракаўся з эмігравваўшымі ў Прагу прадстаўнікамі Урада БНР. І, як дысананс гэтаму светламу — успаміны пра цяжкія, змрочныя гады ў савецкай турме, ваенная ліхалецце. І далей эміграцыя — перыяд незвычайны па складанасці ў жыцці кожнага выгнанца. Але тут В.Жук-Грышкевіч паўстае як чалавек вялікіх арганізатарскіх здольнасцей, збіральнік беларусаў, раскіданых па чужой краіне. Усе яго думкі, дзеянні, праца непарыўна звязаны з родным краем, дзеля яго ён жыве, ім натхняецца ў сваіх бясконцых клопатах па згуртаванні суродзічаў, наладжванні беларускай справы, служэнні беларускай ідэі. Ён шмат піша прац па літаратуразнаўстве (дактарат ён пісаў па творчасці Я.Купалы), гісторыі літаратуры. Яго даклады, артыкулы, прысвечаныя ўгодкам Ф.Багушэвіча, Ядвігіна Ш., М.Багдановіча, Я.Купалы, У.Жылкі, Л.Геніюш, Івана і Антона Луцкевічаў, і сёння не страцілі свайго значэння, цікавыя для нас неардынарным аўтарскім разуменнем творчасці нашых класікаў. Намаганнямі В.Жук-Грышкевіча быў адкрыты лектарат беларусаведы пры універсітэце ў Таронта, дзе ён чытаў студэнтам лекцыі па гісторыі і літаратуры Беларусі, пачынаючы ад XIV да XX стагоддзя, ад Ф.Скарыны да Я.Пушчы, У.Дубоўкі, К.Чорнага, К.Крапівы, даючы сваю інтэрпрэтацыю і перыядызацыю літаратуры. Разам з іншымі актывістамі беларускага руху В.Жук-Грышкевіч паступова далучаўся да грамадска-палітычнага жыцця Канады. Ён пісаў артыкулы па яе гісторыі, нязменна ўводзячы і беларускі кантэкст («Беларусы і Канадская статыстыка», «Канадцы беларускага паходжання» і інш.). Пасля таго, як былі створаны «Згуртаванне беларусаў Канады» (1948) і «Каардынацыйны Камітэт беларусаў Канады», якія дзейнічаюць і сёння, беларусы пачалі больш упэўнена заяўляць пра сябе як нацыянальная меншасць дзяржавы, што дала прытулак людзям з многіх краін свету. Неаднойчы бел-чырвона-белы сцяг упрыгожваў гарадскую ратушу ў Таронта ў гонар беларускіх нацыянальных свят. Наладжваліся штогод розныя імпрэзы, сустрэчы, канферэнцыі беларускіх арганізацый Канады (і абавязкова выстаўкі да іх), на якіх найчасцей з дакладамі, рэфератамі па важнейшых падзеях беларускай гісторыі выступаў В.Жук-Грышкевіч. Ён быў адным з заснавальнікаў «Выдавецкага фонду ўспамінаў з беларускага жыцця», фонду беларускіх падручнікаў, ініцыятарам пабудовы і ўстанаўлення беларускага памятнага крыжа ў гонар 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі (Мідлянд, Канада).

Шмат можна гаварыць, пералічваць добрыя справы, да якіх меў дачыненне В.Жук-Грышкевіч, але лепш за ўсё пазнаёміцца з кнігай Раісы Жук-Грышкевіч — гэтым своеасаблівым помнікам і мужу і патрыятычным справам беларусаў-эмігрантаў. Яна дае яскравае ўяўленне, як нашы землякі за мяжой праносілі слаўнае імя сваёй шматпакутнай Бацькаўшчыны ў свет, даказвалі іншым народам, што ёсць такая краіна — Беларусь, і верылі, што стане яна незалежнай, суверэннай дзяржавай.

Мэты, якія ставіла перад сабой аўтарка-ўкладальніца гэтай кнігі, поўнасцю ажыццявіліся. Па-першае, мы пераканаліся, колькі добрых спраў было зроблена нашымі суайчыннікамі за мяжой у імя сваёй Радзімы, па-другое — глыбока і шматгранна раскрылася асоба В.Жук-Грышкевіча як чалавека, сем'яніна, грамадскага дзеяча, шчырага беларуса, патрыёта сваёй Бацькаўшчыны, які заўсёды быў у цэнтры беларускага жыцця, працаваў і змагаўся за беларускія ідэалы, дзяліў з людзьмі радасці і нягоды выгнання. У кнізе, вядома ж, згадваюцца, дзейнічаюць, жывуць і многія іншыя нашы землякі і найперш Наталля Арсеннева, з якой некалі вучыўся В.Жук-Грышкевіч у Віленскай беларускай гімназіі і на працягу доўгіх гадоў сябраваў. Яму таленавітая беларуская паэтка прысвяціла не адзін свой верш («Мой сябра дарагі! Нялёгкімі гадамі нам давялося жыць, відаць, наш кон такі...»). На старонках кнігі сустракаешся з многімі вядомымі і незнаёмымі беларусамі, імёны, вобразы, справы якіх паўстаюць за сціплымі, часам сухімі, радкамі дакументаў, ці, наадварот, праз цёплыя, добрыя словы лістоў, успамінаў, размоў і тактоўныя заўвагі, каментарыі спадарыні Раісы.

Мне наогул хацелася б падкрэсліць яе неацэнную ролю не толькі ў стварэнні кнігі пра свайго мужа як грамадскага дзеяча, але і яе пісьменніцкія здольнасці і не меншы, чым у Вінцэнта, талент і ўменне арганізаваць беларускую справу, актыўна ўдзельнічаць ва ўсіх пачыннаннях беларусаў. Магчыма, не будзь побач Раісы, не стаў бы і Вінцэнт тым, кім ён стаў у жыцці. Яна была душой дома, душой усіх спраў свайго мужа і сябра. Яна стала і душой гэтай кнігі. Яе непрыкметная, але неабходная прысутнасць, высокая духоўнасць, выхаванасць, прыроджаная тактоўнасць, пачуццё меры адчуваюцца за кожным словам, кожнай старонкай. Яна прарабіла тытанічную працу — паспрабуйце сабраць, захаваць столькі дакументаў, лістоў, фотаздымкаў, размеркаваць іх па гадах і падзеях, зрабіць адпаведныя каментарыі, неназойліва дапоўніць, дапісаць, дасказаць, растлумачыць недасведчанаму чытачу малавядомыя факты, выпадкі з жыцця тых, каго добра ведала, любіла, каб паўстала, раскрылася жыццё беларусаў у выгнанні. А з якой павагай і разуменнем яна ставілася да людзей, з якім энтузіязмам і энергіяй удзельнічала ў працы Задзіночання беларускіх жанчын Канады, арганізатарам якога з'яўлялася, выступала з чытаннем вершаў на розных урачыстасцях, з дакладамі пра слаўтых Ефрасінню Полацкую, Рагнеду, Цётку, Ларысу Геніюш, наладжвала творчыя вечары Наталлі Арсенневай, паэтычны талент якой высока цаніла. Ці не да іх ідзе працавітасць, цярплівасць, самааддананасць, высокая нацыянальная свядомасць, духоўная напоўненасць Раісы Жук-Грышкевіч — рысы, уласцівыя лепшым прадстаўніцам беларускай нацыі? Мы неяк прызвычаіліся да таго, што жанчына, яе роля ў грамадстве, уклад у гісторыю заўсёды недаацэньваюцца, мала пра гэта пішам, гаворым, бачачы тое, што яна здзяйсняе. як маці, захавальніца сям'і, працаўніца, грамадскі дзеяч, каханая, не мае ў жыцці чалавецтва асаблівага значэння, і, можа, адсюль многія яго беды? Калі нават паверхоўна зірнуць, то зроблена Раісай Жук-Грышкевіч у імя беларускай ідэі не менш, чым іншымі выдатнымі беларусамі, нягледзячы на тое, што шмат часу адымала ў яе прафесійная праца ўрача-дантыста. Яшчэ будучы студэнткай, яна актыўна ўдзельнічала ў беларускім эміграцыйным жыцці. Была сябрам і сакратаром Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Канады, выконвала функцыі рэферэнта асветы, старшыні, доўгія гады была старшынёй Задзіночання беларускіх жанчын Канады. З часу заснавання (1967) у Канадзе Беларускага інстытута навукі і мастацтва (філіял Нью-Йоркскага) стала яго сакратаром, была таксама сакратаром, а з 1989 г. старшынёй Каардынацыйнага камітэта беларусаў Канады (ККБК). У 1971 г., калі урад Канады абвясціў палітыку шматкультуралізму, як прадстаўнік беларускай этнічнай групы Раіса Жук-Грышкевіч была назначана канадскім федэральным урадам сябрам Канадскай кансультатыўнай рады па справах шматкультуралізму. Яна належала да розных прафесійных канадскіх арганізацый. Шмат намаганняў яе як старшыні патрабавала правядзенне сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі ў Таронта, праца сакратара канадскага сектара Рады БНР, сакратара-скарбніка Выдавецкага камітэта пры ККБК, адміністратара Фонду беларускіх падручнікаў. Разам з мужам несла асноўныя цяжкасці па будаўніцтве і ўзнясенні Беларускага памятнага крыжа і цяпер штогод наладжвае туды паломніцтва беларусаў. Арганізоўвала канферэнцыі прадстаўнікоў беларускага грамадства Канады і экспазіцыі-павільёны на канадскіх шматкультурных фестывалях у Бэры (тут знаходзіцца і дом Жук-Грышкевічаў) і ў Сімко-Каўнты Музеі. Як Старшыня ККБК Раіса Жук-Грышкевіч уваходзіць у савет дырэктараў Канадскай этнакультурнай рады, з'яўляецца сябрам савета дырэктараў Канадскага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, арганізоўвае разам з іншымі беларускімі жанчынамі адпачынак дзяцей з чарнобыльскай зоны, якіх запрашаюць у Канаду.

Пра ўсе гэтыя справы, падзеі жыцця ў Канадзе Раіса Жук-Грышкевіч піша артыкулы, допісы ў беларускі эміграцыйны друк, яна актыўна супрацоўнічае з газетай «Беларус», якая выдаецца ў Нью-Йорку. Аднак галоўным пісьменніцкім дасягненнем стала яе кніга «Жыццё Вінцэнта Жук-Грышкевіча», якая выйшла ў чэрвені 1993 г., якраз напярэдадні Першага з'езда беларусаў свету. Раіса Жук-Грышкевіч была дэлегатам з'езда, выступала з прамовай і была абрана сябрам Вялікай рады Згуртавання Беларусаў свету «Бацькаўшчына». Упершыню, пасля паўстагоддзя, яна наведала Радзіму, Мінск, Пружаны, дзе нарадзілася (22 кастрычніка 1919 г.) у сям'і патомных земляробаў. Калі чытаеш яе невялікія лірычныя апавяданні (яна па маёй просьбе даслала мне некалькі апавяданняў, — **Л.С.**) «Слова на дзень маткі», «У дзень бацькі — майму тату», «Калядніца», успаміны пра родную цётку, настаўніцу Кацярыну Стаўбунік, якая ўсім блізкім, аднавяскоўцам, дзецям прывівала ідэі беларускасці — то становіцца зразумелым, што менавіта адсюль, «ад родных куточкаў, такіх далёкіх і забароненых навекі, што жаль па іх адчуць можа толькі выгнанец такі, як ты й я», ад дарагіх людзей, бацькоў і дзядоў, ад першых беларускіх чытанак, календароў, купалаўскіх, танкаўскіх вершаў пачыналася і ўзгадоўвалася багатая беларуская душа нашай таленавітай суайчынніцы. Адарваўшыся ад сваіх каранёў і апынуўшыся далёка ад Бацькаўшчыны (у час вайны была гвалтоўна вывезена немцамі на работы ў Германію, а пасля вайны эмігрывала ў Канаду), на зямлі якой яна ўпершыню пазнала мову і культуру свайго народа, дзе ўсвядоміла сябе беларускай, Раіса Жук-Грышкевіч захавала нязгасную да яе любоў, пранёсшы ў сэрцы праз усё жыццё на чужыне. І нездарма яе словы ў адным з апавяданняў гучаць для нас як запавет старэйшага. пабачыўшага вялікі свет чалавека: «Каб твае, матка, дзеці палюбілі сваю Беларусь, яны мусяць пазнаць сваю мову, культуру й гісторыю свайго народа. Ніхто іншы, як ты, маеш узгадаваць у сваіх дзяцей любоў да Беларушчыны. Але гэтую любоў ты мусіш мець сама. Тады яна перадасца тваім дзецям разам з тваім малаком і калыханкамі. Перадасца яна — любоў да Бацькаўшчыны — тваёму дзіцяці прыкладам твае ахвярнасці й аддананасці беларускай справе. Дзеці назіраюць за сваімі бацькамі й ідуць іхнімі слядамі. Тое, што навучыліся ад свае маткі і бацькі, таго мы ніколі не забудзем. Калі яны навучылі нас любіць і даражыць усім, што беларускае, ніхто й нішто гэтае любові ад нас не забярэ...»

Дык варта сёння й спытаць сябе, а які ж прыклад мы даём нашым дзецям? Ці гэта ёсць прыклад стойкасці й аддананасці Беларушчыне, ці гэта ёсць прыклад руплівасці, ахвярнасці і гатоўнасці служэння беларускай справе наперакор цяжкасцям і прыкрасцям? Ці гэта мо ёсць прыклад хавання сябе за чыесьці плечы: няхай іншыя запісваюцца ў беларускія арганізацыі, а я так збоку буду прыглядацца. У мяне яшчэ не хапае нацыянальнай гордасці, не хапае нат пашаны да свайго. Душой я яшчэ не вольны, душой я яшчэ раб. Барані нас, Божа, узгадоўваць рабства ў нашых дзецях!..»

**Лідзія САВІК**

## ДА ІСЦІНЫ ПРАЗ АБМЕРКАВАННЕ

**Мы паведамлялі ўжо, што выдавецтва «Беларусь» выпусціла першую частку двухтомных «Нарысаў гісторыі Беларусі». Выданне, якое рэкамендавана Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь студэнтам вышэйшых навучальных устаноў нашай суверэннай дзяржавы, выклікала вялікую цікавасць у шырокага чытача. Тыраж «Нарысаў...» у сорак тысяч экземпляраў, бадай, на паліцах кнігарань не заляжыцца. Разам з тым з'явіліся ўжо і ахвочыя пакрытыкаваць гэтае калектыўнае даследаванне, падрыхтаванае вядучымі беларускімі навукоўцамі. Што ж, ім, выхаваным на ідэях інтэрнацыяналізму, нязвыкла даведацца, што гісторыю Беларусі ад старажытных часоў да падзей лютаўскай рэвалюцыі 1917 года можна разглядаць з нацыянальнага пункту гледжання. А гэты прынцып, як вядома, і вытрыманы ў першым томе.**

**Закіды закідамі, а выхад «Нарысаў...» — безумоўна, падзея. Гэта засведчыла і прэзентацыя кнігі, што прайшла ў Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Галоўны рэдактар «Нарысаў...» і адзін з аўтараў іх, ён жа дырэктар Інстытута гісторыі М. Касцюк, вядомыя гісторыкі (і таксама аўтары «Нарысаў...») М. Біч і Г. Штыхаў адзначалі актуальнасць і патрэбнасць з'яўлення сёння менавіта такога выдання. Нагадвалася, што захады напісання праўдзівай гісторыі Беларусі рабіліся беларускімі навукоўцамі і раней, ды, як вядома, у трыццатых гадах гэтая праца была перапынена.**

## БЫЛА «ЧЫРВОНАЯ...», З'ЯВІЛАСЯ «БЛАКІТНАЯ...»

**Маюцца на ўвазе энцыклапедычныя даведнікі, што апошнім часам пабачылі свет у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. У канцы мінулага года, як вядома, выйшла (дарэчы, другім выданнем) «Чырвоная кніга Беларусі», а цяпер з'явілася «Блакітная кніга Беларусі».**

**Гэты унікальны даведнік (аб'ём сорак выдавецкіх аркушаў) уключае больш за пяць тысяч артыкулаў пра рэкі, азёры, вадасховішчы і нават каналы, калі даўжыня іх большая за пяць кіламетраў, Бацькаўшчыны. Артыкулам папярэднічае ўступны навукова-папулярны нарыс. У канцы даведніка змешчаны кароткі слоўнік асобных гідралагічных тэрмінаў і паняццяў, што ўжываюцца асабліва часта. І, нарэшце, шмат ілюстрацыйнага матэрыялу. Гэта і каляровыя, а таксама чорна-белыя здымкі і карты-схемы...**

## КАБ НА ВЫСТАЎЦЫ ПАБЫВАЦЬ,

**трэба завітаць у памяшканне прэзідыума Акадэміі навук Беларусі. Менавіта там разгорнута экспазіцыя твораў самадзейнага мастака Л. Кулакоўскага. Леанід Лук'янавіч належыць да людзей, якія любяць падарожнічаць. Таму і прываблівае яго пейзаж як магчымасць не толькі адлюстраваць прыгажосць прыроды, а і перадаць настрой, душэўны стан чалавека. На выстаўцы прадстаўлены работы, што знаёмяць з маляўнічымі краявідамі роднай Беларусі, але і шмат твораў, якія пераносяць наведвальнікаў на тысячы кіламетраў ад бацькоўскага кута — «Тамань», «Алтай. Цялецкае возера», «Камчатка. Вулкан Талбачак»... У гэтых мясцінах у свой час Л. Кулакоўскаму давялося пабываць. І як напамінак аб падарожжы — творы...**

## КАБ ЛЕПЕЙ ВЕДАЦЬ МОВУ...

**У выдавецтве «Народная асвета» пабачыў свет «Тлумачальны слоўнік беларускіх прыназоўнікаў» П. Шубы. Выданне гэтае ў першую чаргу разлічана на вучнях сярэдніх і старэйшых класаў, але карысным будзе для кожнага, хто хоча лепей ведаць родную мову. У слоўніку раскрываюцца значэнні прыназоўнікаў, растлумачваюцца складаныя граматычныя пытанні, што тычацца ўжывання прыназоўнікаў з тым ці іншым склонам. Акрамя таго, ёсць гісторыка-этымалагічныя даведкі, прыводзіцца ў патрэбных выпадках паралель з рускай і ўкраінскай мовамі.**

Проза

Юры СТАНКЕВІЧ

# БАЛВАНЫ



## САТЫРЫЧНАЯ АПОВЕСЦЬ

Адвячорак імклівага бабінага лета апускаўся на раённы цэнтр. Былы трэнер па боксу Кнурык забраў з дзіцячага садка дачку Тасю і вёў яе дадому. Кнурык быў параўнальна малады чалавек, маленькі, вузкі ў клубах, але з ладнай лысай галавой. Апошнім часам ён працаваў у нейкім кааператыве, а ўвогуле біў лынды. З былой пасады трэнера ён мусіў звольніцца, бо неяк нападпітку ў час работы паставіў перад сабой барцоўскае пудзіла і спытаў: «Што, таварыш дырэктар, даць у пысу?» Пасля чаго бакавым у галаў паклаў пудзіла на падлогу. У трэнерскай зарагаталі: калегі Кнурыка ўбачылі тое, што не ўгледзеў ён сам — за яго спіной стаяў і назіраў гэтае відовішча дырэктар. «Што, падла, макрыца, раганосец — мала?» — спытаў Кнурык у пудзіла і зноў грукнуў тое кулаком. (Кнурык калісьці выступаў ў вазе мухі). Пудзіла павалілася, а дырэктар моўчкі павярнуўся і пайшоў. З таго дня песня Кнурыка як трэнера была спетая.

На паўдарозе да свайго квартала, ля горкі, на якой месцілася крама, дзе гандлявалі гарэлкай, Кнурыку з Тасяй сустрэўся знаёмы грузчык Шашкевіч па мянушцы Плахіш. Гэта быў мажны малады мужчына з круглым чырвоным тварам.

Плахіш калісьці скончыў будаўнічы тэхнікум і працаваў на будоўлі.

Неяк будуючы з брыгадай цагляную прыбіральню. Плахіш задумаўся пра тое, чаму ўсе туалеты, якія размяшчаюць уздоўж чыгункі, заўсёды павернуты да тых, хто праязджае — у фас. Яны зеўраюць расхістанымі, а то і наогул выбітымі дзвярыма, так што бачна ўсё непатрэбства ўнутры.

Але мясцовае начальства забараніла Плахішу будаваць туалет тыльным бокам да пуцей, нягледзячы нават на тое, што ён спаслаўся на іншаземны вопыт. Плахіш напісаў у абласны Савет, у міністэрства, пасля ў Вярхоўны Савет. Ён пісаў датуль, пакуль яго не пачалі звальняць з працы і браць на псіхічную экспертызу. Тады Плахіш сам абачліва падаў заяву на звальненне і ўладкаваўся грузчыкам у гастраном. Цяпер Плахіш ішоў з работы і відавочна пакутаваў ад нейкай унутранай смагі, бо муляў вуснамі і пляваўся. Ён цёпла павітаўся з Кнурыкам і спытаў:

— Мо талон на пляшку маеш?

Кнурык толькі ўздыхнуў.

— Дык скінемся па колькі, — прапіхваў сваю ідэю Плахіш. — Унь, на «кропцы» ў бабулек і возьмем.

— Я ж з дзіцём, змей, — няўпэўнена кіўнуў на дачку Кнурык, але яго рука міжволі нырцанула ў кішэню. Там былі грошы, якія жонка дала на пончыкі для Тасі.

— Чакай.

Плахіш увішна выхапіў у Кнурыка паперкі і імкліва пасунуўся на «кропку». Праз хвіліну сябры ўжо сядзелі ў скверыку і абмяркоўвалі праблему туалетаў на чыгунцы. Побач на рыпучых арэлях гушкалася Тася.

У той вечар Плахіш збегаў да бабулек яшчэ і яшчэ адзін раз, а калі грошы ў яго скончыліся, Кнурык пайшоў дахаты.

Жонка — мажная кабета, адчыніла дзверы і моўчкі ўгледзелася ў мужа.

— Праходзь, дочачка, — як мага лагадней сказаў Кнурык і прапусціў замурзаную Тасю наперад. — Праходзь, мая харошая.

Жонка зноў жа моўчкі прапусціла дачку, размахнулася і коратка храснула Кнурыку кулаком па твары. Ад нечаканасці той пахіснуўся, страціў раўнавагу і выкуліўся за дзверы. Шчоўкнуў замок.

Кнурык пастаяў, хістаючыся, і пазваніў. Дзверы не адчыняліся. Ён пасядзеў на лесвіцы, пахадзіў, і, хвілін праз дваццаць, пазваніў зноў. Урэшце пачуліся крокі і голас за дзвярыма сказаў:

— Яшчэ раз пазвоніш — пасажу.

Была ўжо ноч, калі Кнурык паімкнуўся ціхенька адчыніць дзверы, але замок быў заблакаваны.

Адчуўшы смагу, Кнурык пад раніцу паволі дабрыў да цэнтра горада. Ногі прывялі яго да цэнтральнай плошчы, а потым да райвыканкама і іншых адміністрацыйных будынкаў, за якімі ў двары ён убачыў звычайную рабочую бытоўку будаўнікоў.

Быццам па натхненню, Кнурык выцягнуў з кішэні ключы і торкнуў адным у дзвярны замок. Ключ мякка крутануўся два разы, і раптам дзверы адчыніліся. Кнурык запаліў сярнічку і агледзеўся.

У бытоўцы было пуста, стаяла толькі канапа, стол ды некалькі піўных скрыняў замест зэдлікаў. Кнурык паваліўся на канапу і захроп.

Халоднае восеньскае сонца ўзыходзіла над горадам. У дварах было яшчэ пуста, толькі цвэнькалі на клёнах нахабныя вераб'і.

Кнурык паволі рушыў праз плошчу ў напрамку гастранома, дзе працаваў Плахіш. Да адкрыцця ён ледзь не самлеў, але ўрэшце з'явіўся пакамечаны і пахмурны сябра і з тыльнага боку вынес па бутэльцы піва. Яны тут жа закінуліся ўгору як астраномы.

Адразу палягчэла і Кнурык паскардзіўся:

— Я ў прочках — у бытоўцы жыву.

Ён расказаў Плахішу пра свае прыгоды. Практычны Плахіш радасна засоп.

— Ты пра тое маўчы, — сказаў ён Кнурыку. — Пра бытоўку проста забыліся — ведаю я будаўнікоў. А ў нас хата свая будзе, свой, так бы мовіць, офіс.

— Есці хачу, — уздыхнуў Кнурык.

— Хвіліну.

Плахіш знік у чэраве гастранома, але хутка з'явіўся зноў са скруткам у руках і паведаміў, што гэта рыба скумбрыя (ён зрабіў націск на апошнім складзе), якую ён пазычыў у рыбным аддзеле.

— Вельмі пажыўная страва, — ухваліў ён.

Кнурык выцягнуў рыбіну і, чвякаючы, пачаў есці з хваста.

Увечары Плахіш наведаўся ў бытоўку і прынёс яшчэ скумбрыі, але рыба без піва не надта лезла ў горла. Запіваць жа яе вадой Кнурык катэгарычна адмовіўся.

— Так, — згадзіўся з ім Плахіш. — Але ж з падагрэвам вырашай сам. У мяне, братка, пуста.

Кнурык пагадзіўся з ім, што пытанне трэба вырашаць неадкладна, але грошай і ў яго бракуе, і ў доказ павыварочваў усе свае тры кішэні.

— Але, — прапанаваў, — сходзім да Агранома, гэта значыць да сваяка Васіля. Той мне грошы павінен, дзесяць «штук».

Плахіш маланкава зрабіў разлік.

— Дзве белай і піва.

Уявіўшы перспектыву, Кнурык пракаўтнуў у горле камяк і прыспешыў:

— Дык хадзем хутчэй.

Сваяк Вася, па мянушцы Аграном, працаваў у гародчыку. Сваю мянушку ён атрымаў з нагоды вялікай любові да сельскагаспадарчых заняткаў. Перадусім ён пацярпеў на чужыне: справа была ў тым, што, ажаніўшыся з расейскай дзеўчынаю Дуняю з-пад Волагды, Аграном здуру паехаў жыць да яе ў пасёлак. Там Аграном абгарадзіў гародчык, пабудаваў хляўчук, у якім неўзабаве зарохкаў парсючок, пасадзіў бульбу і розныя дрэвы. Не ўлічыў ён толькі адной дэталі: мясцовыя мужыкі больш за ўсё любілі піць гарэлку і пець песні. А тут іхнія жонкі пачалі ўпікаць: лайдакі, паглядзіце як Вася-бульбаш працуе, які ў яго хаце парадачак ідзе. Мужыкі такі здзек трывалі нядоўга і... спалілі Аграномаву хату.

Аграном пракляў зайздрослівых маскалёў і вярнуўся дадому. Тут разам з Дуняй ён неўзабаве аднавіў і гародчык, і хляўчук, і дрэўцы.

...Кнурык паціснуў Аграному руку і прадставіў сябра.

— Гэта Плахіш, цьфу ты, Федзя Шашковіч.

— А ён не маскаль? — пацікавіўся на вуха Аграном.

— Не, — запэўніў Кнурык.

Аграном тыцнуў у сябе чорным ад зямлі пальцам.

— Васіль.

— Ты грошы мо аддасі? — спытаў у лоб Кнурык.

— Грошай няма — да палучкі сам кручуся, — зажурыўся Аграном. — Інфляцыя, каб яно ўсё спрахла.

Кнурык ведаў, што Аграном ніколі не маніць, і таму адразу пачаў развітвацца.

— Я вас правяду. Тут праз стары парк можна прайсці, — вінавата сказаў Аграном.

Кнурык першым прадзіраўся праз кусты, але раптам спыніўся і перасцярог:

— Ціха. Там нехта стаіць.

Наперадзе сапраўды віднелася чыясьці цёмная постаць.

— То ж балван, — растлумачыў Аграном. — Ну, статуя, Ілліч. Ён тут даўно стаіць, як парк заснавалі.

— Стаіць статуя зусім без..., — пракаментаваў Плахіш.

Сябры падышлі ўсутыч. Проста перад імі апынулася звычайная, метры ў паўтара, скульптура правадыра пралетарыяў. Укормлены Ілліч быў у кепцы, пінжаку, штанах і чаравіках. Правай рукой ён паказваў у бок Аграномавага гарода.

З гэтай нагоды Кнурык і Аграном пачалі гарачую спрэчку — у які бок свету павінен заўсёды паказваць Ілліч? Кнурык сцвярджаў, што на Усход, Аграном жа меркаваў, што гэта не так важна — можна нават і на Захад.

Прагматычны і ўніклівы Плахіш тым часам моўчкі дастаў сцізорык і пакалупаў правадыра.

— Звонку фарба, а ўнутры медзь, — сказаў ён.

Кнурык і Аграном спынілі спрэчку. Плахіш агледзеў Ілліча з усіх бакоў. Вочы яго заблішчэлі.

— Ведаеце, колькі зараз каштуе кіло медзі? Тут жа на тону пацягне!

Раптам трое пралетарыяў зірнулі адзін на аднаго. Узнікла паўза.

— Нажоўку дам, — падсумаваў урэшце Аграном. — У мяне харошая нажоўка, фінская.

Між тым сусед Агранома, слесар Епіфанаў пасля дзесяцідзённай адсутнасці з нагоды чарговага запою, з'явіўся знянацку дадому і заспеў жонку з былым прапаршчыкам Грукам. Гэтае відовішча так падзейнічала на Епіфанава, што ён адшукаў шворку і вырашыў скончыць жыццё самагубствам. Лепшага месца, чым стары парк, на думку Епіфанава, для гэтай мэты не было, і ён рушыў туды. За кустамі, як памятаў слесар, стаяла статуя Ілліча, рука якога якраз падыходзіла для яго сумнай справы. Епіфанаў склаў шворку накшталт ласо і хацеў ужо закінуць яе на статую, узняў вочы ўгору і... атарапеў. Ілліч знік. Епіфанаў працёр вочы, але на месцы чаравікаў правадыра ўбачыў два акуратныя спілы.

Ён адразу ўмацаваўся ў думцы, што Ілліча спілаваў былы прапаршчык Грук. Епіфанаў пакінуў ідэю суіцыда і шпарка пакрочыў у аддзел міліцыі, дзе зрабіў адпаведную заяву.

Ужо назаўтра раніцай па загаду начальніка міліцыі падпалкоўніка Хабібуліна ў былога прапаршчыка Грука быў праведзены вобыск, але статуі Ілліча міліцыянты не выявілі. Затое ў хляве яны знайшлі некалькі скрыняў з казённай тушонкай, мяхі з армейскай формай, бочку бензіну ды штук пятнаццаць ношаных жаночых трусоў і бюстгальтараў. Пра ўсё гэта, асабліва пра жаночую бялізну, былы прапаршчык Грук пачаў даваць самыя блытаныя тлумачэнні, і ў рэшце рэшт быў скіраваны да высвятлення абставін у капэзэ.

У гэты ж час у «офісе», як ахрысціў бытоўку Плахіш, ішла напружаная дзейнасць. Ноччу на драбінках ён і Кнурык прывезлі накрытага плашч-накідкай Ілліча, пасля чаго з раніцы Аграном адпіліў у балвана, як ён празваў статую, руку, якая паказвала наперад. Ужо назаўтра на гарадскім рынку за руку, якая пацягнула амаль на трыццаць кілаграмаў, два ўвішныя мужчыны з яўным польскім акцэнтам далі Кнурыку і Плахішу пяць даляраў. Паны прадставіліся ім як Юзік і Казік.

Калі ж нагружаныя гарэлкай ды скумбрыяй сябры імкліва крочылі ў «офіс», іх дагнала па дарозе легкавая машына з тымі ж самымі скупшчыкамі медзі. Юзік і Казік папрасілі ў паважаных спадароў прабачэння за турботы і пацікавіліся, ад якой гэта скульптуры купленая імі рука.

— Самі ведаеце, панове, — дыпламатычна адказаў Плахіш.

На гэтае яго прызнанне паны аж затрымцелі і адразу спыталі, ці не засталіся ў шаноўных спадароў яшчэ якія часткі

статуі. Кнурык запэўніў Юзіка і Казіка, што цела — гэта значыць балван ці статуя — захавалася поўнасцю, толькі без рукі.

— Статуя яшчэ і без..., — пажартаваў у рыфму Плахіш.

Паны роблена захіхікалі, а пасля прапанавалі сябрам купіць у іх усяго балвана аж за пяцьдзесят даляраў.

— Э, не, панове, — не згадзіўся Крурык. — Сто — менш не аддадзім.

— Ды вы зірніце, які ён цяжкі і вялікі, — запрасіў Юзіка і Казіка ў «офіс» Плахіш.

У бытоўцы паны агледзелі Ілліча, пашапталіся, пагадзіліся на сямідзесяці пяці, і — ўдарылі па руках. Накрытую плашчнакідкай статую выцягнулі і перакулілі ў дарожны прычэп, які чапляўся за фаркоп да легкавушкі Юзіка і Казіка. Паны аддалі грошы і таропка ад'ехалі.

— Прыязджайце, панове, яшчэ! — паспеў толькі запрасіць іх ветлівы Кнурык, упэўнены, што добра іх надурыў.

— О, Матка Боска, о яке шчэнсце..., — усё паўтараў па дарозе Юзік і азіраўся на прычэп.

— О, так, так, — паддакваў яму Казік.

Юзік і Казік радаваліся нездарма. У Нямеччыне за статую эпохі таталітарызму, па іх падліках, яны павінны былі атрымаць не менш, як сто тысяч дойчмарак.

Між тым у «офіс» з'явіўся Аграном, якога Плахіш з Кнурыкам, запрасілі ў рэстаран.

— Дзевак трэба, — растлумачыў яму Кнурык. — Скумбрыя, братка, надта станоўча дзейнічае на арганізм.

— У рэстаране іх процьма, — дадаў Плахіш. — Але ж ты можаш пабыць і з Дуняй, не прымушаем.

— Не, я з вамі, — сказаў бясхітрасны Аграном. — Вось толькі закончу сваю справу, а свіней Дуня і без мяне пакорміць.

Справа Агранома заключалася ў тым, што ён неяк вычытаў у газеце арыгінальны праект шматпавярховага агарода. Сутнасць праекта была ў тым, што зямля накрывалася пустымі аўтамабільнымі шынамі, адна на адну. У іх з бакоў прапілоўваліся дзіркі. Потым шыны засыпаліся чарназёмам. У дзіркі саджаліся бульба, трускаўкі, гуркі і памідоры — па жаданню гаспадара. Газета абяцала надзвычай вялікія ўраджаі. Менавіта нарыхтоўкай шын і быў заняты Аграном.

Тым не менш, вечарам трое сяброў селі за столік у рэстаране. Кнурык паклікаў афіцыянтку і замовіў графін гарэлкі і тры салаты з капусты. Афіцыянтка агледзела сяброў, забрала грошы наперад, запісала заказ і пайшла. Неўзабаве яна прынесла графін з гарэлкай. Сябры выпілі і сталі разглядваць дзевак. Іх сапраўды было шмат: і чорных, і белых, і рыжых. Выпілі яшчэ па чарцы і тут выявілася, што не прынеслі закуску. Аграном стаў стукаць па графіну відэльцам. Але прайшло дзесяць, дваццаць, сорак хвілін, а афіцыянткі не было. Графін апусцеў. Узвар'яваны Кнурык падхапіўся з крэсла.

— Вось у Літве такога хамства не дазволілі б, — сказаў ён. (Кнурык калісьці скончыў Каўнаскі інстытут фізкультуры, чым вельмі ганарыўся).

Аграном і Плахіш узялі яшчэ па чарцы і закусілі кавалкам хлеба, які Аграном пазычыў з суседняга століка. Хлеб яны намазалі гарчыцай. Пачаліся ўжо скокі. Танчылі ля столікаў пад грукат і роў аркестра. Узняўся пыл.

Кнурык між тым рашучым крокам скіраваў на кухню. Плахіш і Аграном пазычылі яшчэ хлеба і гарчыцы. Прайшло нямала часу. Кнурыка не было.

Урэшце Плахіш са словамі «зірну ў чым справа» пайшоў на кухню. Аграном адчуў сябе адзін чамусьці няўтульна і пацягнуўся следам.

За шырмай, што аддзяляла кухню і раздатачную ад залы, перад вачыма сяброў паўстала дзіўная карціна. Дзве магутныя паварыхі трымалі былога трэнера па боксу, закруціўшы яму рукі за спіну. Нагавіцы ў Кнурыка былі спушчаныя да каленяў. Трэцяя паварыха, яшчэ больш мажная, з асалодай раз-пораз частавала яго выспяткам у худы, голы азадак. «Я табе пакажу Літву!» — паўтарала яна. Кнурык толькі мыкаў.

Сябры кінуліся на дапамогу. Усчаўся вэрхал, у выніку якога ўсіх траіх праз некалькі хвілін вытаўклі на вуліцу.

У бытоўцы Кнурык з жахам пачаў аглядаць сваё цела ніжэй пояса: ці нанеслі яму якое пашкоджанне азвярэлыя ад дармовага мяса паварыхі? Але ўсё быццам засталося пры ім, і Кнурык супакоўся. Сябры згулялі ў карты, а потым Аграном і Плахіш разышліся па хатах.

Вечарамі, добра ўзяўшы па чарцы, сябры вялі старую навуковую спрэчку: у які бок свету павінна ўказваць рука правадыра ўсіх пралетарыяў, і як правільна будаваць прыбіральні на чыгунцы.

Але неўзабаве замежная валюта скончылася, паступова зніклі гарэлка і рыба скумбрыя, былі здадзены пустыя бутэлькі. У адзін з такіх дзён Кнурык засумаваў па дачцэ, успомніў нават, што неяк купіў ёй «снікерс», памацаў — і сапраўды выявіў у кішэні пакамячаны шакаладны батончык. З ім ён і скіраваў з раніцы ў дзіцячы садок. Там, праходзячы праз кветнік, Кнурык зірнуў на звыклы пейзаж і раптам знерухомеў. Пасярод кветак цьмяна зіхацеў невялікі помнік Іллічу-дзіцяці. Стаяў помнік тут пэўна і раней, але тады Кнурык проста не звяртаў на яго аніякай увагі. Маленькі правадыр пралетарыяў трымаў у руцэ кніжку. Ён быў кучаравы, у кароткіх штоніках і куртачцы. Кнурык падышоў усутыч і пільна ўгледзеўся ў статую.

Той жа ноччу ў садку пачулася мяккая пагудка фінскай сталі, а пад раніцу маленькага Ілліча ўжо везлі на драбінках у «офіс». А вечарам таго ж дня Плахіш, Аграном і Кнурык правялі нешта накшталт тэрміновай нарады, на якой высветлілася наступнае:

— У горадзе ёсць статуі правадыроў і іншых дзеячаў пралетарскай справы.

Што балваны знаходзяцца іншым разам у самых нечаканых месцах: ля школ, устаноў, у дворыках і скверах.

Што трэба высветліць іх месцазнаходжанне і правесці інвентарызацыю.

Праз дзень Кнурык зрабіў справаздачу. Па даных агляду выявілася:

— 6 параўнальна невялікіх помнікаў Іллічу ў розных варыянтах.

— 3 помнікі Марксу.

— 3 помнікі Дзяржынскаму.

— 2 помнікі Чапаеву.

— 1 помнік Сувораву.

— 1 помнік Клары Цэткін.

— 1 помнік Лазару Кагановічу.

— 1 помнік дзіцяці з гранатай у руцэ.

— 1 помнік нявызначанаму таварышу жаночага полу ў трусах і з дзідай.

Старшыня райсавета Цельпукевіч задуманела пазіраў з вакна свайго кабінета на плошчу, з якой працягвала ў яго бок руку гіганцкая статуя правадыра. Думкі старшыні круціліся вакол маючага наступіць энергетычнага крызісу і будучага партыйнага сходу, а Цельпукевіч кіраваў яшчэ і партарганізацыяй камуністаў, што налічвала каля ста чалавек і працягвала расці. На сходзе, меркаваў Цельпукевіч, трэба рашуча патрабаваць ад вышэйшых улад вяртання былой сімволікі і расейскай мовы ў якасці дзяржаўнай. Калі Цельпукевіч бачыў бел-чырвона-белы сцяг і чуў мясцовую гаворку, то заўсёды скрыгатаў зубамі і наліваўся крывёю. Гэтай жа ноччу нехта напырскаў з балончыка на падмурку будынка райвыканкама два асабліва ненавісныя яму словы: «Жыве Беларусь». Цяпер гэтыя словы па загаду Цельпукевіча вынішчалі з дапамогай адбойнага малатка.

Старшыня зноў павярнуў да акна сваю лямпачкападобную, вузкую зверху і шырокую знізу галаву, і цяжка задумаўся. Але ягоныя думкі перапыніла сакратарка, якая далажыла, што ў прыёмнай з'явіўся Мухаедаў, падпалкоўнік у адстаўцы. Мухаедаў узначальваў камітэт па справах моладзі і Цельпукевіч кіўнуў: маўляў, няхай зойдзе.

Дзверы прычыніліся і ў кабінет праслізнуў чалавек у акуратна адпрасаваных штоніках і шэрым пінжаку. На невялікай галаве Мухаедава быў ціральскі капялюш, які ён адразу зняў. Цельпукевіч добра ведаў Мухаедава як члена партарганізацыі.

— Уладзілен Урбанавіч, — пачаў Мухаедаў, — адбылася непрыемнасць.

— Што такое? — прыўзняўся жыватом Цельпукевіч.

— Спілілі помнік Клары Цэткін.

Цельпукевіч усхваляваўся. Учора да яго прыходзіў раз'юшаны ветэран Гелтых і паведаміў, што спілаваны бюст Дзяржынскага, а вечарам на кватэру тэлефанаваў настаўнік Пшытыцкі, які данёс зусім неверагоднае — прапалі помнікі Сувораву і Кагановічу. Калі ўлічыць, што па звестках міліцыі яшчэ раней знікла статуя Ілліча са старога сквера, то выяўляліся рысы акцыі, скіраванай супраць улад і мясцовай партыйнай ячэйкі.

— Гэта яны, — з нянавісцю сказаў Мухаедаў.

— Хто яны? — аж прыўзняўся мэр.

— Бэнээфаўцы, нацыяналісты...

Цельпукевіч зноў асунуўся ў крэсла.

— А доказы?

Мухаедаў развёў рукамі.

— Падрыхтуйце рэзалюцыю, — загадаў мэр. — Ад імя ветэранаў і прагрэсіўнай грамадскасці. Надрукуем яе ў газеце «Яднанне». Выкажыце рашучы пратэст ад імя моладзі. Дарэчы, колькі чалавек вы прынялі ў камсамол?

— Трэба звярнуцца і да перадавых краін, — сказаў Мухаедаў, абмінаючы пытанне пра камсамол.

— Якіх гэта перадавых? — змрочна пацікавіўся Цельпукевіч.

— Да КНДР, Кубы, — стаў пералічваць Мухаедаў і спыніўся. Ён уздыхнуў і пераступіў з нагі на нагу.

— Сядайце, — прапанаваў яму урэшце мэр і дадаў: — Трэба звярнуцца не да перадавых краін, а да нашых людзей. Яны нас больш падтрымаюць.

— Так, — аж затрымцеў Мухаедаў. — Так і напішам: бэнээфаўцаў разагнаць, іх правадыра Лазняка арыштаваць, а пасля суда пакараць праз вышэйшую меру.

— Як гэта пасля суда пакараць? — здзіўлена спытаў Цельпукевіч. — Гэта ж не вы, а суд вырашыць.

Мухаедаў цяжка ўздыхнуў і выслізнуў за дзверы. Мэр павярнуўся да вакна і прыслухаўся да скрыгату адбойнага малатка.

Прыкладна ў гэты ж час да бытоўкі падрулiла новая «таёта» з прычэпам. З яе вылезлі мажны, з пукатым жыватом пан Юзік і крыху менш мажны, з лупатым тварам пан Казік. Плахіш і Кнурык якраз гулялі ў карты. Паны, пасля гарачых прывітанняў, адразу пацікавіліся, ці не захавалася ў сяброў яшчэ якая статуя, а калі захавалася, то яны, так бы мовіць, мусяць яе купіць.

Кнурык моўчкі запрасіў паноў у бытоўку, адхінуў падраны брызент, яшчэ нейкія лахманы, і перад вачыма Казіка і Юзіка паўстала неверагодная карціна: амаль палавіна бытоўкі была запоўнена зваленымі ў груд балванамі з медзі, бронзы і іншых каштоўных металаў.

Паны вырачылі вочы.

— Усе тут, — задаволена сказаў Кнурык. — Акрамя аднаго.

І ён тыцнуў пальцам у бок плошчы.

— О, Матка Боска! — выдыхнулі паны.

Праз нейкі час быў складзены вопіс. У ходзе яго асаблівую камерцыйную зацікаўленасць паноў выклікалі невялікіх памераў статуі невызначанай жанчыны ў трусах і піянера з гранатай у руцэ.

— Хто ест панна? — спытаў Юзік, трымаючы жанчыну галавой уніз, за ногі.

— Роза Люксембург, — аўтарытэтна сказаў Кнурык. — Чыстая медзь, панове.

— А хлапец? — паказаў пан Казік на дзіцё з гранатай.

— Паўлік Марозаў, — давёў Плахіш.

— О, Матка Боска! — здзівіліся паны.

Два камерцыйныя рэйсы спатрэбіліся Юзіку і Казіку, каб пераправіць помнікі эпохі таталітарызму праз мяжу. Урэшце бытоўка апусцела, а сябры селі за стол, на якім акуратным стосікам месцілася неймаверная па іх разуменню сума ў чатырыста амерыканскіх даляраў.

Са згоды Плахіша і Агранома большую частку капітала пакінулі пад асабістую адказнасць Кнурыка, якога выбралі скарбнікам. Самі ж яны скіравалі на «кропку» і праз нейкі час даставілі ў «офіс» некалькі скрыняў белай і піва, а Плахіш прынёс з гастранома цэлафанавы мех з тлустай вэнджанай скумбрыёй.

У адзін з такіх цудоўных, напоўненых сэнсам жыцця дзён Кнурык панёс у садок дачцэ Тасі «снікерс». Калі ж ён ішоў назад, то па дарозе пазнаёміўся з маладой дзяўчынай Кацяй. На прапанову Кнурыка выпіць з ім у «офісе» шампанскага Каця адразу згадзілася. Пасля таго, як яны выпілі шампанскага, гарэлкі і закусілі скумбрыёй, Каця дала згоду крыху адпачыць з Кнурыкам на канапе.

Ачуняў Кнурык толькі пад раніцу. Галава была, як цэбар, і ён спачатку не мог зразумець, чаму ляжыць голы ў халодным памяшканні. Каці побач не было. Першае ж, што ён са здзіўленнем убачыў, былі яго штаны на падлозе з вывернутымі кішэнямі.

Да вечара грошы так і не знайшліся. З гэтай нагоды паміж Кнурыкам і Плахішом адбылася бойка. Плахіш паваліў Кнурыка на падлогу і добра пакачаў яго і памяў бакі, але і сам мусіў пабываць у накдаўне. Але тут прыйшоў Аграном, сябры выпілі гарэлкі, закусілі скумбрыёй і... памірыліся.

Між тым начальнік міліцыі Хабібулін знаходзіўся па выкліку ў старшыні выканкома Цельпукевіча. Ён быў чырвоны, як бурак, бо атрымліваў ужо другі прачуханец за дзень. Перад усім пазванілі з абласнога аддзела МУС і спыталі, ці знойдзены помнікі павадыроў? Хабібулін адказаў, што пакуль не знойдзены. На такі яго адказ палкоўнік з вобласці зароў мацюкамі і прыгразіў зняць з пасады. У размове выявілася, што знікненне помнікаў выклікала шэраг запытанняў дэпутатаў у парламенце. Асабліва абурыліся ветэраны і фракцыя камуністаў, якія ўзнялі сапраўдны гармідар.

— Між іншым, — сказаў Цельпукевіч, — я ведаю таго самага Грука, якога вы памылкова затрымалі. Ён член нашай партарганізацыі. Упэўнены, што ён абсалютна не вінаваты.

— Але ж у яго суседзяў знікае жаночая бялізна, — заікнуўся было начальнік міліцыі.

— Лухта, — сказаў старшыня выканкама. — Калі ў яго ёсць якія недахопы як у кожнага камуніста, дык гэта можна паправіць. Дарэчы, вы самі аднавіліся ў партыі?

— Яшчэ не, — прызнаўся Хабібулін.

— Не цягніце, — цiснуў мэр.

— Мае людзі абшукалі ўвесь горад, — даводзіў начальнік міліцыі. — Ніводнай статуі пакуль не знойдзена, але мы абавязкова выйдзем на след.

— Шукайце ў раёне, — параіў мэр. — Трэба прачасаць навакольныя лясы. Ідзіце і дзейнічайце.

Як толькі начальнік міліцыі выйшаў, у кабінет старшыні выканкама праслізнуў настаўнік Пшытыцкі — актыўны камуніст і намеснік Цельпукевіча па партыйнай лініі.

Пшытыцкі напомніў Цельпукевічу, што мясцовыя нацыяналы рыхтуюць у горадзе мітынг, які плануюць правесці на плошчы, і з гэтай нагоды прапанаваў свой план.

— Што за план? — падазрона пацікавіўся Цельпукевіч, бо радыкалізм Пшытыцкага палохаў іншы раз і яго.

— План такі, — грукнуў той пратэзам па стале (у Пшытыцкага не было рукі). — Мы напярэдадні незаўважана ўстанаўліваем мінамёт, і, як толькі нацыяналісты пойдуць на штурм, пакладзём іх усіх да аднаго.

— На штурм каго яны пойдуць? — удакладніў Цельпукевіч.

— Нас, вядома.

— Ну і дзе будзе стаяць мінамёт? — вяла пацікавіўся мэр горада.

— У вас у кабінеце.

Цельпукевіч атарапеў.

— Але ж гэта занадта, — урэшце сказаў ён і дадаў: — Дарэчы, ваша жонка падала на вас скаргу. Быццам вы ў стане ап'янення адабралі ў яе вядро чарніц, якія яна назбірала ў лесе і растапталі ягады нагамі на дыване, а пасля замкнулі яе на ноч у туалеце і пагражалі ўзарваць гранатай. Адкуль у вас граната?

— Яна вучэбная. Гэта плёткі, — хуценька сказаў Пшытыцкі, але ў яго каламутных, заўсёды налітых крывёю вочках мільгануў жах.

— Ідзіце і майце на ўвазе, — адпусціў яго Цельпукевіч. — І здайце ў органы гранату, няхай сабе і вучэбную.

Між тым ў ходзе рэйду па навакольных лясах міліцыянтамі было знойдзена шмат забароненых рэчаў: таёмных бровараў, прыхаваных крадзеных будаўнічых матэрыялаў — дошак, цэглы, і... адзін танк.

З нагоды апошняй знаходкі ў сталічнай газеце нейкім чынам з'явілася здзеклівая заметка, пра якую неўзабаве далажылі камандуючаму танкавай арміяй генералу Дурбабаеву. Пасля таго, як заметку пераклалі (а Дурбабаеў не разумеў па-мясцоваму), той выклікаў да сябе начальніка матэрыяльна-тэхнічнай службы палкоўніка Бурдзюка. Палкоўнік хутка з'явіўся і далажыў па форме. Камандуючы засоп і нейкі час моўчкі ўзіраўся ў атлусцелую постаць палкоўніка.

— Колькі ў нас танкаў? — задаў яму раптам дзікае пытанне Дурбабаеў.

Палкоўнік анямеў.

— Я вас пытаю! — зароў Дурбабаеў. — Дарэчы, смірна! Я не дазваляў вам стаяць вольна!

Бурдзюк выцягнуўся ў струну.

— У наяўнасці трыста дваццаць сем танкаў, — урэшце ўспомніў ён.

— Усе на сваіх месцах? — злавесна пацікавіўся Дурбабаеў.

— Так точна! — адрапартаваў Бурдзюк.

Дурбабаеў грукнуў кулаком па стале.

— А гэта што, маць тваю! — ён схапіў са стала газету і тыцнуў яе ў нос Бурдзюку. — Чытай уголас!

Дрыжачым голасам Бурдзюк пачаў чытаць:

«...калгасніцы, што пайшлі ў лес па грыбы, выявілі ў лясным балотцы цяжкі танк «Т-72». Калі яны пастукалі па бране палкай, люк на вежы адкрыўся, і з танка вылезлі цыганы...»

— Досыць! — зароў генерал. — Чаму танк у лесе кінулі, маць вашу?! Тэхніку цыганы разукамплектавалі? Пад суд пойдзеш, так цябе і разгэтак!

Палкоўнік Бурдзюк абачліва маўчаў. Яму было вельмі вусцішна.

Праз некалькі дзён з усіх запасаў у бытоўцы засталіся груд пустых бутэлек ды куча касцей ад рыбы скумбрыі.

Неяк, грэючыся ноччу ля электракаміна, які Плахіш пазычыў у гастраноме, Кнурык раптам убачыў, як праз акенца ў офіс улазіць нячысцік. Ён быў насаты, з парослымі шчэцццю пальцамі і вельмі нагадваў чамусьці дырэктара па былой рабоце. У пальцах-кіпцюрах нячысцік трымаў бутэльку «рускай». Але, як толькі Кнурык паімкнуўся да бутэлькі, нячысцік закінуўся з ёй і высмактаў з рыльца. Пустую тару ён здзекліва шпульнуў у Кнурыка.

Ужо на другі дзень Плахіш заспеў Кнурыка на цэнтральнай плошчы ля помніка правадыру. Кнурык задумліва пазіраў на Ілліча і муляў вуснамі.

— Ты што, у штопар увайшоў? — спытаў Плахіш.

Кнурык вінавата ўздыхнуў.

— Так. Ужо і нячысціка бачу.

Плахіш занурыўся.

— І мне змеі здаюцца, — прызнаўся ён. — Дрэнныя справы, братка. Са штопара трэба выходзіць пастукова, а не так рэзка, як мы. Скумбрыя трэба, гарэлка.

На мяжы гэтай жа ночы Кнурыка стала прабіраць дрыготка, а ў горле так перасохла, што ён не стрываў — у нейкім утрапенні схапіў сякеру і выбег на вуліцу. Кнурык спяшаўся да вулічнай камерцыйнай крамкі, на вітрыне якой днём не раз бачыў бутэльку чырвонага віна. Не зважаючы на небяспеку, ён высек драўляную стаўню, выбіў шкло, з прагнасцю схапіў бутэльку і кінуўся ўцякаць.

Толькі ў бытоўцы Кнурык з палёгкай уздыхнуў, адкаркаваў бутэльку і закінуўся як гарніст. Вадкасць з булькатам пацякла ў горла.

— Г-э-э-х!

Кнурык спыніўся, пацмокаў языком і... пахаладзеў. Яму стала брыдка. Якое няшчасце! Бутэлька на вітрыне крамкі праклятага спекулянта была бутафорская, а замест віна там знаходзілася падфарбаваная вада.

*(Працяг на стар. 12)*

# КАЛЯДНЫ ПАДАРУНАК ПАСЯРОД ЛЕТА

**Яшчэ адну неспадзяванку атрымалі гледачы Мінскага абласнога тэатра лялек «Батлейка» (г. Маладзечна) — спектакль «Меч Анёла» паводле п'есы маладога драматурга Ігара Сідарука.**

**«Не ставала хіба снегу і калядных маразоў», — прагучала на абмеркаванні прэм'еры. У астатнім каляднае дзейства, пастаўленае заслужаным артыстам Беларусі рэжысёрам Юрыем Сарычавым, адбывалася паводле канонаў народнага тэатра. Пазнавалася атрыбутыка батлейкавага відовішча (скрыня, двух'ярусная прастора, «звязда») у дэкарацыях, выкананых мастаком Валерыем Рачкоўскім. Гучалі старадаўнія беларускія канты ў выкананні Дзяржаўнага камернага хору пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Ігара Мацюхова. Гісторыя пра маленькага Ісуса, Маці Божую, цара Ірада, разыграная артыстамі Цімурам Каліноўскім, Ірынай Камышавай, Таццянай Паўлючук, мела фабульнае завастрэнне ў сцэнах уцёкаў святой сям'і ў Егіпет, умяшання ў іхні лёс Анёлаў.**

**Будзе калісьці і сапраўднае Ражство, будуць маразы і снег, што надасць аўтэнтыкі дзейству, створанаму маладзечанцамі. Затое ўжо сёння трупа мае ў сваім рэпертуары рэч, якая апраўдвае назву тэатра, — «Батлейка».**

**П. В-а**

# ДЗЮЙМОВАЧКІ З ЛІДЫ

**У Лідскай музычнай школе адбыўся канцэрт з твораў дзвюх дзяўчатак — Дзінары Мазітавай і Ані Маркевіч. Абедзве былі ўдзельніцамі Міжнароднага конкурсу юных кампазітараў «Надзея-93». І калі Дзінара Мазітава ўжо вядомая як лаўрэат многіх конкурсаў і як аўтар дзіцячай оперы «Кветкі пад ліўнем», то Аня Маркевіч — імя новае. Аняй (яна перайшла ў 3-ці клас музычнай школы) напісана каля 50 п'ес для акардэона. Дзінара ды Аня пазнаёмілі публіку з двума інструментальнымі цыкламі пад аднолькавымі назвамі: «Дзюймовачка», і кожная па-свойму ўвасобіла героіню знакамітай казкі Андэрсена. Дзінара бліскуча выканала на раялі і ўласныя мініяцюры. Аня паказала, акрамя сюіты «Дзюймовачка», сюіту «У лесе» і сюіту «Сустрэча з вальсам». Пасля канцэрта юныя аўтаркі адказалі на пытанні слухачоў — гэта было першае інтэрв'ю ў іх жыцці! Хай жа спадарожнічае дзвюм Дзюймовачкам з Ліды творчы поспех.**

**В. РАДЗІЁНАЎ,**
старшыня Асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны

# У РАМКАХ ТРАДЫЦЫЙНАЙ

**выстаўкі кнігі (гэтым разам чэрвеньскай) у Доме кнігі ў Мінску прайшла прэзентацыя зборніка гісторыка-краязнаўчых нарысаў Кастуся Тарасава «Памяць пра легенды», выпушчаным у другі раз выдавецтвам «Полымя». Пра значнасць гэтай кнігі, першы выхад якой адразу стаў бібліяграфічнай рэдкасцю і быў у штыкі сустрэты гісторыкамі-манкуртамі, гаварылі загадчык рэдакцыі літаратуры па краязнаўстве выдавецтва «Полымя» Л. Круглова і галоўны рэдактар выдавецтва М. Іваноў.**

# ТАКОГА, ЗДАЕЦЦА, ЯШЧЭ НЕ БЫЛО...

**Выдавецтва «Універсітэцкае» выпусціла «Шасцімоўны слоўнік прыказак, прымавак і крылатых слоў», у які ўключана каля 500 моўных адзінак. Спачатку прыводзіцца беларуска-моўны варыянт, а пасля пераклады на рускую, французскую, англійскую і нямецкую мовы. Прыкладаюцца таксама паказальнікі лацінскіх і беларускіх фразеалагічных адзінак.**

**Падрыхтавалі слоўнік навукоўцы Беларускага дзяржаўнага універсітэта: лацінска-рускамоўную частку — прафесар кафедры раманскіх і класічных моў Н. Ганчарова, беларускамоўную — дацэнт кафедры беларускай мовы І. Шчарбакова, англійскую — дацэнт кафедры англійскай мовы А. Коршук, а таксама дацэнты кафедры замежных моў Мінскага медыцынскага інстытута Л. Калядка (франкамоўная частка) і Г. Шаранда (нямецкамоўная).**

**Прадмову «Залатыя россыпы мудрасці» напісаў кандыдат філалагічных навук Л. Баршчэўскі.**

Тэатр

# ГУЗІЙ, ЯКОГА НІХТО НЕ ВЕДАЕ...

***Андрэй Гузій — рэжысёр эксперыментальнага тэатра-лабараторыі «Вольная сцэна». Менавіта спектаклем у ягонай пастаноўцы — «Ку-ку» М.Арахоўскага — распачалося творчае існаванне тэатральнага ўтварэння, свядома разлічанага на бесперапынны пошук, мовім абагульнена, у нацыянальнай драматургіі. Але як у падобнай эксперыментальнай зададзенасці можа спраўдзіцца асоба рэжысёра? Асабліва тады, калі ягоны тэатр бярэ пад увагу толькі пэўную тэатральную літаратуру — наватворы, часам надта далёкія ад наследавання ўзорам, вартым пераймання?***



**— Андрэй, ці ж пачуваешся ты вольна на «Вольнай сцэне»?**

— Ты маеш на ўвазе маю заўсёдную схільнасць да класікі?

**— Я магу пачаць быццам здаля. Вярнуцца гадоў на сем у мінулае ды згадаць пастаноўку не-класікі — «Мудрамера» М.Матукоўскага, твой дыпломны спектакль, які да такой ступені паяднаў цябе з трупаю Магілёўскага абласнога тэатра, што ты займеў магчымасць там ставіць і ставіць, а таксама... узначаліць тэатр на пасадзе галоўнага рэжысёра. А тэатральнае жыццё ты да таго часу ўжо зведаў добра, бо перадусім паводле адукацыі быў акцёрам і шмат працаваў... Вось з тае часіны, дзякуючы і табе, хваля класічнай драматургіі, асабліва рускай (сярод тваіх улюбёнцаў — Астроўскі ды Сухаво-Кабылін), паціху накатвала на некаторыя нашы абласныя тэатры... А цяпер у цябе шмат запрашэнняў?**

— Апошнім часам — ніводнага. Надта дорага цяпер запрашаць рэжысёра на пастаноўку, ды яшчэ такога, які цягне за сабою Астроўскага ды Сухаво-Кабыліна... Але гэта не мая асабістая бяда — незапрашэнні на пастаноўку. Часіну безграшоўя перажываем купна з калегамі...

**— А праз гэтыя незапрашэнні, ды яшчэ ў сценах самага эксперыментальнага беларускага тэатра, ці не адчуваеш ты пэўную адарванасць ад напружанага тэатральнага жыцця?**

— Вядома, адчуваю. Праўда, пры гэтым я не адчуваю напружанасці памянёнага тэатральнага жыцця... Я выгадаваны на класіцы, — гэта, бадай, тое, што не расчароўвае ніколі. Я спавядаю класіку, пастанавіўшы сабе перадусім ісці ад аўтара твораў нават у сваіх эксперыментах, — дарэчы, шчыра й бязлітасна разумецца з аўтарамі вымагае «Вольная сцэна».

**— А як ты па-рэжысёрску пачуваешся, мовім так, на сутыку апавешчанага «Вольнаю сцэнаю» эксперыменту ды шчыравання над не самай дасканалай літаратурай пры ўласнай адданасці іншаму, інакшаму тэатру?**

— Ведаеш, у працы на «Вольнай сцэне» для мяне, як для прафесійніка, ёсць і благія праявы, і адметна вартыя, карысныя, добрыя. Натуральна, пакуль тая літаратура, з якою я дачыняюся, не дае магчымасці, як той казаў, глыбока капаць, бо яна да пэўнай ступені павярхоўная. Драматургі, хутчэй, самі вывучаюць тэатр, сутыкаючыся з ягонай «плоццю ды крывёю» на рэпетыцыях, — спазнаюць прафесію. Гэта — вялікая загана для рэжысёра, які сам яшчэ не супраць... падвучыцца. А вось вялікая вартасць, што праглядаецца за гэтым пастаянным, перапрашаю, баруканнем з драматургіяй, — гэта дасканаленне майго вуха, вока й носа. Пастаянны самакантроль, які мяжуе з дасканаленнем, бо разняволіцца, распрыгонніцца і атрымліваць асалоду ўжо ад самога тэксту, альбо ад двубою характараў, альбо ад думак, закладзеных у інтрыгу, як сама разумееш, не выпадае. Драматургію даводзіцца прыкрываць рэжысураю, і ад гэтае змушанасці часам нараджаюцца і адметныя хады, і нават годныя вырашэнні. Зрэшты, каб падтрымаць рэжысёрскую форму, часам варта зазнаць такія эксперыментальна-напружаныя ўмовы, у якіх працуе «Вольная сцэна».

**— Мне часам рэжысёрская праца нагадвае збіранне гадзінніка, — шасцярню да шасцярні, шрубок да шрубка ды сцішанае чаканне — затахкае механізм, пасунуцца стрэлкі, пакажуць час... Які час пакажа рэжысёрскі гадзіннік?**

— Час, які абраў творцу, напэўна. Бо нават у рэжысёрскіх паўторах, — у тым, што крытыкі, не разабраўшыся, называюць састарэлай эстэтыкай, — ёсць апраўданне ды, мабыць, неабходнасць. Паўтору як... маці навучання, калі наследаваць лацінскай прымаўцы. Часам у паўторах больш карысці, чым у навязлівым, неабгрунтаваным эксперыменце, зрэшты, паўтор мае на ўвазе пэўнасць, захаванне чагосьці звыклага, а звыклае не азначае абавязкова састарэлае або адпрацаванае.

**— Што да адпрацаванага ды звыклага... у апошняй прэм'еры на «Вольнай сцэне», у спектаклі «Нагавіцы Святога Георгія» М.Адамчыка і М.Клімковіча, мы заспелі цэлы шэраг колісь заяўленых, скарыстаных, але такіх нязмушаных у выкананні акцёраў — прыдумак, хадоў, вырашэнняў! Ты даўмеўся пасмяяцца з эротыкі, што запаланіла экран ды сцэну, паіранізаваць над прасталінейнасцю літаратараў, якія, узяўшы так званы вандроўны сюжэт, заблыталіся ў жанрах або — у сваіх адчуваннях гэтых славутых жанраў... Па шчырасці, я не ўбачыла аніякай прычыны, з-за якой на эксперыментальнай «Вольнай сцэне» не мог бы быць пастаўлены, напрыклад, «Брат Гільбер» — сярэднявечны французскі фарс з падобным сюжэтам (дзе адна з цудоўных роляў выпадае мужчынскім нагавіцам, на якія забыліся ў самым непатрэбным месцы, скажам, у пакоі прыгажуні). «Брат Гільбер», чыя роля, воляю нашых драматургаў, выпала Скарыну, а роля Гільберавых штаноў — Скарынавым, абгабляваны стагоддзямі і выдатным перакладам... на рускую мову. І мне шкада, што «Вольная сцэна», напрыклад, не цікавіцца перакладной драматургіяй, — «Маленькімі трагедыямі» Пушкіна, Вальтэрам, Камю...**

— Мае беларускія сучаснікі пішуць у рэмарцы: «Каханкі мілуюцца», але тэкст персанажаў-каханкаў, на жаль, не дае падставы меркаваць пра стыль, манеры або характар абвешчанага мілавання. Але гэта ўжо размова пра тэхналогію творчасці... Што да мяне, дык я б з радасцю заняўся тэатрам перакладу, толькі перакладу праўдзівага, прафесійнага, робленага не з падрадковых тэкстаў, а напрасткі з мовы арыгінала. Іншая бяда — калі гэтыя пераклады з'яўляюцца, дык з невядомых прычын не робяцца набыткам «Вольнай сцэны» і шырокіх колаў чытачоў.

**— Але арганізоўваць нешта вакол свайго тэатра, замаўляць, латвіць, заманьваць, — гэтая справа не для цябе?**

— Я ўжо набыўся галоўным рэжысёрам. Зразумеў, што ніколі, напэўна, не буду ім, бо творчасць і адміністраванне сумясціць немагчыма. Я тыповы творца, якому трэба ствараць хоць якія прыдатныя для работы ўмовы, — вышэй за ўсё я стаўлю спектакль і паразуменне з артыстамі. Усё, што дзеецца-вадзіцца вакол спектакля, вакол тэатра, мяне абыходзіць. Я... люблю сваю работу... Я люблю тэатр, — як бачыш, нічога эксперыментальна-вольнага табе адказаць не магу.

**— Ну тады тлусценькую кропку над «і» ў нашай гутарцы я паспрабую паставіць сама. Ты цяпер працуеш у сталічным тэатры. Увогуле кожная твая мінская пастаноўка, прагнеш ты таго ці не жадаеш, патрапляе пад пільную ўвагу гледачоў і крытыкі. Але твае спектаклі ў іншых, — несталічных тэатрах, вазьму на сябе права гэта сцвердзіць, — твае лепшыя спектаклі, амаль невядомыя тэатралам ды спецыялістам.**

— Я скажу і больш: пра гэтыя спектаклі наўрад ці хто ўжо даведаецца, бо бальшыня з іх, на жаль, падпала пад умовы эксплуатацыі абласнога тэатра,што азначае бязлітасны пракат і хуткае сканaнне. Спісанне, знiшчэ. Бо дзесьці там, — у Гомелі, Магілёве, я меў і сродкі, і магчымасці (калісьці, калісьці) ставіць тое, што хацеў ды так, як меркаваў. «Сабачае сэрца» паводле Булгакава ў Магілёве, «Блэз», «Смерць Талеркіна» і «Вяселле Крачынскага» ў Гомелі й Магілёве, «Багатая нявеста» Астроўскага — спектаклі, дзе я штораз сумленна «паміраў у акцёрах», якія акцёры любілі, якія рабілі тэатру добрыя грашовыя зборы (а для мяне поспех у гледача — паказальны). Спектаклі, якія зрабілі з мяне рэжысёра...

**— Рэжысёра, практычна невядомага шырокай публіцы. Віну за гэта часткова прымаю на сябе і... спяшаюся выправіцца...**

**Гутарку вяла Жана ЛАШКЕВІЧ**

*Фота Віктара СТРАЛКОЎСКАГА*

# ЗАСЛУЖАНЫ РУПЛІВЕЦ ЖЫЦЦЯ

## ДА 100-ГОДДЗЯ КАСТУСЯ ПУРОЎСКАГА

Апошняя кватэра Кастуся Васільевіча была ў доме, што зусім побач з нашай рэдакцыяй. Пасуседску ён часцяком заходзіў у «ЛіМ», прапаноўваў свае аператыўныя нататкі з нагоды падзей у мастацкім жыцці Беларусі. Менавіта «ЛіМ» надрукаваў у 1965 годзе развітальнае слова, якім праводзілі яго ў апошні шлях сябры, калегі. І менавіта ў аддзел музыкі «ЛіМа», з вакна якога відаць той самы дом, прыйшла ягоная дачка, Алена Канстанцінаўна, каб аддаць даніну памяці бацькі, каб нагадаць пра цікавую індывідуальнасць і добрыя справы чалавека, вядомага нашаму пакаленню сама большае прозвішчам: Пуроўскі.

Першая кватэра Кастуся Васільевіча была таксама ў Мінску. Бацькоўскі дом, дзе жыла шматдзетная сям'я рабочага-каваля Пуроўскага, поўніўся любоўю — і турботамі. Але жылі з Богам у сэрцы, таму лёс не клялі, на нягоды не наракалі, ад галечы ратаваліся працай. У сваіх аўтабіяграфічных нататках Кастусь Васільевіч пісаў: «Жылі вельмі бедна... Зарабляць я пачаў з 8-мі гадоў: пасвіў скаціну, малаціў падзённа цэпам, вучыўся ў дзядзькоў шавецкаму рамяству».

Дзеці Пуроўскіх наведвалі царкоўны хор. Кастусь да 15-ці гадоў спяваў у «Хоре попечительства о народной трезвости» і ў якасці саліста аб'ехаў з ім многія куткі Беларусі. Былі й іншыя «універсітэты»: царкоўнапрыходская школа, 4-е Мінскае двухкласнае вучылішча.

«У родным горадзе, — зноў цытую аўтабіяграфію К.Пуроўскага, — не змог атрымаць сярэднюю адукацыю: трэба было плаціць, таму сваім апекуном — настаўнікам Краўцэвічам накіраваны быў у Маладзечна на вялікі конкурс для паступлення ў Настаўніцкую семінарыю, дзе выдавалася стыпендыя пад пісьмовае абавязацельства пасля заканчэння семінарыі нікуды не паступаць і праслужыць у вёсцы народным настаўнікам не менш за 5 гадоў. У ліку 40 шчаслівчыкаў быў прыняты й я, атрымаўшы 45 руб. стыпендыі на год. Пасля заканчэння семінарыі прызначаны быў народным настаўнікам у глухую й далёкую вёску Шынкаўцы Віленскай губерні Лідскага павета, дзе праводзіў заняткі з дзецьмі ў наёмнай сялянскай хаце».

Неўзабаве памёр бацька, і адзіны сын аказаўся карміцелем маці ды пяці малодшых сясцёр. Нягледзячы на гэта, К.Пуроўскага мабілізавалі ў царскую армію, дзе ён праслужыў да канца 1917 г. (на Румынскім, Паўднёва-Заходнім, Дзвінскім франтах), а пасля, новай уладай, быў дэмабілізаваны як настаўнік і прызначаны загадчыкам ды педагогам 20-й мінскай школы.

Вядома, сам час быў багаты на падзеі, але няўрымслівую натуру Кастуся Пуроўскага нібыта цягнула ў іх вір. Ён збіраў і папулярызаваў народныя песні, перадаваў свае запісы кампазітарам, а таксама ў Акадэмію навук. Мала хто сёння ведае, што менавіта Пуроўскім былі запісаны многія пярліны беларускай народнай творчасці, прынамсі, знакамітая «Бульба», і «Таўкачыкі», і «Ці ўсе лугі пакошаны»... Падчас вайны з белапалякамі ён працаваў карэспандэнтам-інфарматарам нарваенкамата Рэспублікі Літвы і Беларусі, інструктарам усеначва Мінскага тэрытарыяльнага палка, адначасова навучаўся ў пед інстытуце, настаўнічаў, выступаў у 1-м Таварыстве беларускай драмы і камедыі (затым — БДТ-1, цяпер Купалаўскі тэатр)...

Кожны год з жыцця Кастуся Васільевіча праўдзіва спакроўлены з жыццём Беларусі савецкай, — нібыта старонка дакументальнай аповесці, паводле якой можна вывучаць аб'ектыўную гісторыю нашай краіны.

Артыст-спявак Пуроўскі ўдзельнічаў у першым выездзе БДТ-1 у Маскву для выступлення на сельгасвыстаўцы. На вышэйшым узроўні былі прадэманстраваны ўзоры беларускіх народных песень, у тым ліку й запісаныя ім, — менавіта гэтая акалічнасць сталася штуршком для адкрыцця ў Мінску праз год музычнага тэхнікума. Тэатр накіраваў туды свайго вакаліста для павышэння кваліфікацыі, а затым Пуроўскі займаўся на Вышэйшых оперных курсах, пасля чаго быў пераведзены ў оперную студыю... Да 1949 г. ён быў салістам тэатра оперы і балета, меў у рэпертуары каля чатырох дзесяткаў сольных партый.

Энергіі ды энтузіязму хапала на многія справы: да вайны Пуроўскі рабіў па сумяшчальніцтве карэктарам, пачынаў рэдактарам, выпускаючым газеты «Савецкая Беларусь», тэхрэдам у «Белвыдзе». Ён добра ведаў цётку Уладзю — жонку Янкі Купалы і з яе голасу запісаў на ноты багата дзіцячых песенек для публікацыі ў часопісах. Разам з паэтам М.Калачынскім пераклаў на беларускую тэкст оперы Д.Пучыні «Чыо-Чыо сан». Напісаў арыгінальнае лібрэта ў вершах «Машэка» (паводле Купалавай «Магілы льва»), над музыкай працаваў Р.Пукст, але, на жаль, закончыць не паспеў — прадоўжыць задуманае Кастусь Васільевіч дамовіўся з кампазітарам Я.Цікоцкім, але жыццёвыя акалічнасці аказаліся мацней за намеры...

Свае літаратурныя схільнасці рэалізаваў ён у саматужных перакладах упадабаных радкоў з рускай паэзіі, у сцэнарыях радыёперадач, у мемуарных нататках (якія так і не завяршыў), у кніжачцы «Песні вольных людзей», напісанай па заказе рэдакцыі «Голас Радзімы». А яшчэ — у тэкстах песень. Дарэчы, такія з іх, як «З калгасных сёл» (музыка Р.Пукста), «Красуй, Беларусь!» (музыка Я.Цікоцкага), «Ураджайная» (музыка В.Копасава) нават адзначаліся рэспубліканскімі прэміямі. Творы гэтыя, напісаныя не па заказе, а па волі натхнення, засталіся, на жаль, знакам свайго часу і сёння ўжо не гучаць.

Не гучыць сёння па радыё і тэнар К.Пуроўскага... Між іншым, яшчэ ў 1928 г. ён арганізаваў (і быў салістам) даволі рэдкі ў канцэртнай практыцы калектыў — мужчынскі вакальны квартэт. Багаты рэпертуар (інтэрпрэтацыі сусветнай класікі, апрацоўкі фальклору, папулярныя савецкія песні), тонкае майстэрства, каларытнасць гучання, — усё гэта прываблівала слухачоў, і квартэт Пуроўскага быў, што называецца, нарасхват: яго любілі слухаць і вяскоўцы, і рабочыя гарадскіх прадпрыемстваў, і начальства падчас урадавых урачыстасцей. У розны час мяняліся спевакі, але квартэт Пуроўскага існаваў даволі доўга (быў аднаўлены пасля вайны), і часта яго запісы гучалі па радыё...

Дачка музыканта Алена Канстанцінаўна разгублена перабірае ёмістыя стосы папер, афіш, сшытачкаў, папак, фотаздымкаў (дарэчы, да 100-годдзя Пуроўскага яна зрабіла кранальную хатнюю насценгазету!) — бацькаў архіў: мусіць, і за тыдзень усё не перагледзіш! Я міжволі трапляю ў палон, здаецца, цвятаеўскага слова: «трудоголик». Бо надта ж мала сказаць пра Пуроўскага: «працавіты», «цягавіты», «руплівы», «нястомны».

А прагнай да працы была ўся іхняя сям'я. Напрыклад, маці Алены Канстанцінаўны, Кацярына Аляксееўна Яноўская-Пуроўская,таксама была артысткай БДТ-І, затым спявала ў оперным. Алена Канстанцінаўна прызналася, што не можа спакойна слухаць, калі спявае Абразцова: надта ж нагадвае голас маці! На жаль, маці опернай «зоркай» не стала. Былі ўжо іншыя...

Пра вайну — свая гаворка. Нечалавечыя ўмовы эвакуацыі. Нязгасны бацькаў энтузіязм. Канцэрты, канцэрты, канцэрты; збор сродкаў — у Фонд абароны...А ў родным Мінску засталося папялішча: жытло на тым беразе Свіслачы (акурат насупраць вядомага дома Румянцава, дзе адбываўся 1 з'езд РСДРП), куды неадной-чы ўвесну наведвалася паводка, згарэла. Разам з усімі сямейнымі культурнымі рэліквіямі...

Вярнуўшыся ў вызвалены Мінск, сям'я Пуроўскіх знайшла прытулак у тэатры. Цікавы тагачасны дакумент захоўвае Алена Канстанцінаўна: «Личная книжка участника восстановления города Минска». Гэты дакумент быў выдадзены К.Пуроўскаму, які кватараваў па адрасе «оперны тэатр, 129», 7 кастрычніка 1944 г. выканкомам Мінскага гарсавета дэпутатаў працоўных. Пазначана ўстаноўленая норма працы: 15 гадзін у месяц. Адзначаны і вынікі: «Работал по ул. Комсомольской, разборка кирпича, укладка, очистка, сборка кирпичного лома, сборка металла. Норма выполнена на 247 процентов».



Кастусь Васільевіч спяваў на сцэне тэатра, потым працаваў у філармоніі, у музычнай рэдакцыі радыё, 8 гадоў, да выхаду на пенсію, быў дырэктарам шырмаўскай капэлы... Удзельнічаў у аднаўленні тэксту Чаротавай драмы «На Купалле», пра што пісалі «Полымя» ды «ЛіМ». Распачаў нататкі пра дакастрычніцкае жыццё ў Мінску, пра сустрэчы з вядомымі дзеячамі беларускай культуры...

Любіў мастацтва, любіў людзей (у госці, асабліва да імянніннікаў, стараўся ісці з уласным вершам да нагоды). Любіў жыццё. Добрыя людзі дзякавалі яму ўзаемнай душэўнай шчодрасцю. Неаднаразова калегі, як тое было прынята, «падавалі дакументы на ганаровае званне», аднак жа...

У апошнія гады жыцця ён быў сціплым пенсіянерам, якому рупіла пісаць нататкі ў «ЛіМ», збіраць газетныя выразкі — пра мінскае замчышча, пра гастролі маскоўскага ТЮГа, пра пісьменніцкія сходы, а яшчэ ўзяць на сябе клопат пазаштатнага інспектара Партдзяржкантролю. Такі вось быў чалавек. І для мяне застаецца загадкай, чаму гэты шчыры і працавіты беларус, узорны грамадзянін і сумленны партыец пайшоў з жыцця быццам «няўгодны» рэжыму ды уладам, пайшоў «незаслужаным» працаўніком культуры і мастацтва. Зрэшты, й наша пакаленне ўжо ведае: цана ганаровым званням — рэч невытлумачальная...

**С.БЕРАСЦЕНЬ**

---

Музыка

# ПАРАДОКСЫ «НЕГІСТАРЫЧНАГА» КОНКУРСУ

***У Віцебску адбыўся Рэспубліканскі конкурс выканаўцаў на духавых і ўдарных інструментах. Можна нават сказаць, што адначасова прайшлі два конкурсы (па драўляных і медных духавых), бо судзілі іх два асобныя журы, праслухоўванні праходзілі ў асобных залах (музвучылішча і Віцебскай філармоніі). Адбыўся канцэрт лаўрэатаў, атрымалі прызы пераможцы. Як член журы па медных і ўдарных інструментах, я распавяду пра гэты конкурс. (Узначальваў журы М. Волкаў, прафесар Беларускай акадэміі музыкі).***

Назаву пераможцаў: па спецыяльнасці труба — П. Ермаловіч (Беларускі ліцэй мастацтваў, II прэмія); В. Трафімовіч (Мінскае музвучылішча, III месца). Па спецыяльнасці валторна Д. Капыткоў (ліцэй пры БАМ, III месца). Трамбон: Д. Альшэўскі (Баранавічы, II прэмія); Д. Рашоткін (Наваполацк, III месца), У. Гарчанін (Гомель, III месца). Па спецыяльнасці барытон: А. Адамскі (Маладзечна, I месца), М. Касьянаў (Брэст, II месца). Туба: А. Брыгі (ММВ, III месца), Д. Скорабагаты (Беларускі ліцэй мастацтваў). І ўдарныя інструменты: І. Макаед (ліцэй пры БАМ, I прэмія), П. Бяляеў (ММВ, II прэмія), А. Ілюта (Баранавічы, III месца), В. Бахур (Брэст, III месца). Шэраг канкурсантаў, а таксама канцэртмайстраў узнагароджаны дыпломамі.

Сам па сабе факт правядзення конкурсу ўжо многа значыць. Знайсці сродкі для гэтага сёння амаль немагчыма і, ці не таму пагаворвалі ў Віцебску, што такія конкурсы, відаць, будуць праводзіцца раз у 5 гадоў, а не часцей. Наогул, калі асвятляць конкурс праз сацыяльна-эканамічную прызму, то ўсё будзе выглядаць даволі песімістычна. Аптымізму надаюць парадоксы: музыка гучыць, нягледзячы на ўсялякія «цяжкасці». Конкурсы музыкантаў-выканаўцаў успрымаюцца намі як падзеі святочныя. І якія б вынікі ні прыносіў конкурс, ён уваходзіць у летапіс як свайго роду «насечка» на гістарычным дрэве нацыянальнай культуры.

У якасці канкурсанта мне давялося быць у 1980 г. на талінскім музычным спаборніцтве. Я часцяком параўноўваў тагачасную атмасферу з конкурсам у Віцебску і знаходзіў нямала агульнага, а восць у працы журы, куды я быў запрошаны ўпершыню, рабіў для сябе пэўныя адкрыцці. Ну, па-першае: складаным аказалася пытанне выяўлення агульнага выканаўчага ўзроўню. Былі кандыдаты вельмі моцныя, а былі й так сабе... У адным замежным артыкуле, прысвечаным праблеме крытэрыяў ацэнкі ігры на тубе, змешчана шэсць табліц, распрацаваных амерыканскім выкладчыкам: паводле больш як двухсот пунктаў выстаўляюцца балы, потым усё падсумоўваецца... Вось той рэдкі выпадак, калі не трэба пераймаць у Амерыкі: надта ж складана для нас гэтак ацэньваць музычнае выканальніцтва — якое мноства параметраў! Аднак у нас пасля праслухоўвання І тура пачала вырысоўвацца агульная карціна, агульны ўзровень. На мой погляд, для многіх канкурсантаў аказаліся непасільнымі творы, абавязковыя для выканання, таму...

Таму, па-другое, высветлілася яшчэ адна даволі праблемная акалічнасць: складанне праграм будучых конкурсаў. На мой погляд, гэта цяжкая справа, бо праграма павінна адлюстраваць пэўнаму ўзроўню выканаўцаў, а яшчэ хацелася б, каб яна дазваляла спаборнічаць як мага большай колькасці музыкантаў і пры гэтым каб яна не замінала асноўнаму руху наперад, не збівала з вучнёўскага шляху. На гэты ж раз — зусім відавочна — некаторым канкурсантам давялося збочыць з паступовага шляху і з няўрымслівымі праблемамі пастаноўкі дыхання ўзяцца за праграму конкурсу — толькі дзеля ўдзелу ў ім...

Як вынік гэтых ды іншых праблем — незанятыя І-я і 2-я месцы па некаторых спецыяльнасцях. Журы было вымушана іх не прысуджаць, і, дайце веры, такія рашэнні даваліся не проста. Падчас абмеркаванняў даводзілася вельмі сур'ёзна гаварыць накont метадычных і педагагічных праблем, праблем фарміравання нацыянальнай выканаўчай школы. На мой погляд, бракавала роўнасці агульнай падрыхтоўкі канкурсантаў, асноў акадэмізму выканальніцтва, што ўключае ў сябе панятак «школа». Я гутарыў з многімі педагогамі з абласных і раённых гарадоў Беларусі, і ўсе яны пацвердзілі мае здагадкі наконт таго, што набор на духавыя цяпер праводзіць цяжэй, цяжэй зацікавіць юных навучэнцаў перспектывай іх жыцця. Раней асноўная маса кандыдатаў прыходзіла з самадзейных духавых аркестраў: былі такія аркестры нават у вёсках, у школах, ПТВ. Духавая музыка гучала на плошчах, у парках, клубах. Той, хто прыйшоў у музыку менавіта гэткім шляхам, добра ведае, як, пачуўшы аднойчы духавы аркестр, назаўсёды заіскрылася душа, заспявала сэрца і з'явілася мара.

І яшчэ — наконт паняцця гістарычнасці. Вось і конкурс, кажам мы, гістарычная падзея, а ці задумваемся, які тут сэнс? Нас жа прывучылі, што гістарычнае — гэта нешта такое велізарнае, гіганцкае, як завіслы над чалавечай свядомасцю агромністы дырыжабль або як падручнік у кожным дзіцячым партфелі... Вядома, што з такога пункту гледжання нічога **гістарычнага** ў Віцебску не адбылося. Наогул, мы зусім звыкліся, што гістарычныя падзеі адбываліся толькі раней, з іншымі людзьмі ў іншы час і г. д. Таму, дарэчы, можна вельмі спраўна адмахнуцца і ад выдатных, і ад негатыўных цяперашніх з'яў. І наадварот — вышукаць-выцягнуць нешта несправядліва намі ж раней забытае (колішняе «негістарычнае»).

Калі-нікалі думаю: а ці не ў гэтых тонкіх працэсах хаваюцца карані нацыянальнай свядомасці, годнасці? Вядома, на грамадскае асэнсаванне патрэбны час. Наперад гісторыя не пішацца. Але ж і перапісацьпераправіць яе яшчэ нікому не ўдавалася... Падзеі накшталт музычных конкурсаў — «канцэнтрат», вынік таго, на што затрачаны нашы сілы жыцця. Дык давайце без надрыву, славаблудства ды нікчэмных лозунгаў працаваць, ствараць спрыяльныя ўмовы і прыкладаць дастойны **гістарычны** шлях сваёй роднай культуры ў свеце шматаблічнасці ды разнастайнасці.

**Пятро ДУДАРЭНКА**

# АСНОВА РАЗВІЦЦЯ АЙЧЫННАЙ ВЫШЭЙШАЙ ШКОЛЫ

*Дык як жа будзем жыць,*
*Мой мілы пане-браце?*
*Ці так, як набяжыць,*
*Ці — спадарамі у хаце?*
*На імпартных мазгах*
*І завазной маралі,*
*Ці — з верай, што ў вяках*
*Для нас дзяды стваралі?*

*Ніл ГІЛЕВІЧ*

Адным з асноўных падмуркаў, на якім разаўецца на поўную моц нацыянальнае адраджэнне, з'яўляецца, на наш погляд, сістэма адукацыі і выхавання. Таму цяперашнюю састарэлую сістэму, у асноўным рускамоўную, мы павінны як мага хутчэй перагледзець, абнавіць, зрабіць яе беларускай як па мове, так і па духу. Тады можна будзе разлічваць і на поспехі ў падрыхтоўцы нацыянальна свядомых спецыялістаў, а, значыць, і на адраджэнне нацыі. Інакш кажучы, альфа і амега стратэгіі і тактыкі ўсяго адраджэнскага працэсу заключаюцца ў паўнацэннай нацыянальнай сістэме адукацыі і выхавання. Без яе станаўленне беларускай дзяржавы, яе незалежнасці проста немагчыма.

Родная мова — гэта аснова светапогляду, крыніца вывучэння і ўспрымання нацыянальнай культуры і далучэння яе да сусветнай. Толькі праз адукацыю, выхаванне на роднай мове, праз вяртанне да гістарычна-культурных вытокаў беларускага народа можна абудзіць нацыянальную свядомасць людзей. Гераічныя і трагічныя факты з нашай гісторыі прымусяць задумацца над тым, хто мы такія, адкуль ідуць нашы карані, народзяць жаданне не толькі «людзьмі звацца», але і натуральную патрэбу шукаць сваё месца ў сузор'і народаў свету, іхняй культуры і гісторыі. На такой глебе, безумоўна, з'явіцца і разаўецца самапавага і гонар за сваю гісторыю і культуру.

Але ўсё гэта, як сведчыць тая ж гісторыя, магчыма толькі ў роднамоўным асяроддзі. Больш таго, жыццё пацвердзіла аксіёму: калі людзі не карыстаюцца роднамоўнымі сродкамі камунікацыі, не думаюць на роднай мове і не адчуваюць сэрцам і ўнутраным голасам сябе ў сувязі з навакольным асяроддзем, яны не ўспрымаюць як след — глыбока, шчыра, усеахватна — праблемы сваёй нацыі, родныя нацыянальныя вытокі жыцця ў суладдзі з гістарычнай спадчынай народа.

Таму Адраджэнне нацыі, выхаванне яе ў адпаведнасці з нормамі агульначалавечага развіцця ў роднамоўным асяродку павінна стаяць на першым месцы ў пераліку прафесійных патрабаванняў да выкладчыкаў сістэмы выхавання і навучання.

Само сабой зразумела, што выхавацелі і выкладчыкі працуюць на службе ў дзяржавы і абавязаны карыстацца яе мовай. У адваротным выпадку гэта будуць не нацыянальныя служачыя. Алагічным з'яўляецца стан, калі выкладчыкі, служачыя, ці наогул інтэлігенты не карыстаюцца дзяржаўнай мовай, альбо нават яе не разумеюць. Добрае валоданне дзяржаўнай мовай — свяшчэнны абавязак кожнага выкладчыка, выхавацеля ці служачага. Больш таго, працэс навучання і выхавання павінен праводзіцца іменна ў асяроддзі дзяржаўнай мовы, гэта канстытуцыйны абавязак усіх педагогаў. Законы аб адукацыі (артыкул 6) і аб мовах, зноў жа, абавязваюць нас карыстацца роднай, беларускай, дзяржаўнай мовай.

Наша бяда ў тым, што большасць выкладчыкаў выхаваны па-за нацыянальнай гісторыяй і культурай, не на роднай мове. Вынік сумны: яны не ўспрымаюць дзяржаўную мову як неабходную, абавязковую і, свядома ці не свядома, з'яўляюцца ці не асноўным тормазам у выхаванні пачуцця нацыянальнага гонару за сваю Бацькаўшчыну ў вучняў і студэнтаў.

Значыць, без карэннай пераарыентацыі на новыя прагрэсіўныя метады работы высілкі па пераходзе на беларускую мову навучання і выхавання не прывядуць да стварэння жыццяздольнай нацыянальнай школы. Прызнаем адкрыта: ВНУ знаходзяцца ў стане моўнай і духоўнай рэзервацыі. Працэс беларускамоўнага навучання і выхавання ідзе, вобразна кажучы, пад жалезным рускамоўным панцырам.

Як гэта ні цяжка, але трэба прызнаць: большая частка нашай інтэлігенцыі — надзеі і генератара Адраджэння, будучыні — на самай справе аказалася нігілістычнай, інертнай, і, у нейкім сэнсе, нават варожай да нацыянальнага Адраджэння. Бяда яшчэ і ў тым, што сярод кіраўніцтва адукацыі крытычна нізкі працэнт беларусаў. Як сведчыць практыка, сённяшні кіраўнічы апарат ВНУ у сваёй аснове, за невялікім выключэннем, не ўспрымае як след Законы аб мовах і аб адукацыі, праблемы нацыянальнага Адраджэння.

Дзе ж выйсце? Яно ёсць і, як паказваюць факты, вельмі простае: на пасады рэктараў, дэканаў, загадчыкаў кафедраў у ВНУ трэба прызначаць нацыянальна свядомых навукоўцаў. Гэтага проста вымагае аб'ектыўны працэс Адраджэння беларускай дзяржавы і нацыі. Як мага хутчэй неабходна падрыхтаваць вялікую колькасць высокакваліфікаваных спецыялістаў, якія будуць здольныя развіваць і ўмацоўваць суверэнітэт нашай краіны, весці па шляху аднаўлення духоўнае жыццё свайго народа, Адраджэнне беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

Хтосьці можа сказаць, што гэта — нацыяналізм. Выбачайце, але ў Беларусі бяда не ў нацыяналізме, а хутчэй за ўсё ў тым, што яго (у цывілізаваным паразуменні) вельмі мала, а падчас і зусім няма.

Важна рэальна ацаніць: ці можа, ці зацікаўлены спрыяць паспяховаму вырашэнню гістарычных нацыянальных задач выкладчык, ці неабыякава ставіцца ён да праблемы нацыянальнага Адраджэння Беларусі.

Выклікае пярэчанне і пазіцыя паэтапнага, эвалюцыйнага вяртання роднай мовы беларусам. Адбіралі ж родную мову ў беларусаў не эвалюцыйна! Адкуль жа ў многіх такі страх да рашучых дзеянняў і заклікі да памяркоўнасці (чытай: абыякавасці)? Такія чыноўнікі-памяркоўнікі быццам згаджаюцца на паэтапны перавод на беларускую мову спачатку дзіцячых устаноў, а потым — школы, пры гэтым вышэйшую школу праўдамі і няпраўдамі заклікаюць пакуль што не чапаць. З такім падыходам, безумоўна, нашых надзённых праблем мы не вырашым.

Неабходна ва ўсіх сферах выхавання і навучання пачаць неадкладна, мэтанакіравана ствараць беларускамоўнае інфармацыйнае асяроддзе. Сёння ў гэтым працэсе няма сістэмы, пануе стыхія. У адных раёнах ёсць беларускамоўныя дашкольныя ўстановы, але няма беларускіх першых класаў у бліжэйшых школах, у другіх, наадварот, ёсць беларускія школы, але няма беларускамоўных дашкольных устаноў.

Зрухаў і ў вышэйшай школе амаль нябачна. Да гэтага часу няма мэтанакіраванай дзяржаўнай праграмы па рэальным пераводзе працэсу адукацыі і выхавання на дзяржаўную беларускую мову. Дзе тыя пастановы ўрада, ці адпаведныя загады міністэрства, у якіх былі б вызначаны дакладныя тэрміны пераводу навучання на дзяржаўную мову? А, між тым, набліжаецца прыход у ВНУ выпускнікоў сярэдніх школ, дзе выкладанне прадметаў вялося на беларускай мове. Гэтыя маладыя людзі з высокай нацыянальнай свядомасцю запатрабуюць выканання свайго канстытуцыйнага права — працягу навучання ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах на роднай мове. На жаль, вышэйшая школа не спяшаецца выкідваць на сметнік састарэлую коўдру антыбеларускасці.

Яшчэ раз пра кадры адукацыі. Пры абранні на пасады кіраўнікоў ВНУ, факультэтаў, кафедраў у якасці асноўных крытэрыяў павінна быць здольнасць, падрыхтаванасць і жаданне добрасумленна выконваць палажэнні законаў Рэспублікі Беларусь аб мовах і адукацыі. Мэтазгодна аддаваць прыярытэт маладым, якія маюць адпаведную кваліфікацыю і вызначыліся прынцыповасцю пры выкананні як грамадзянскіх абавязкаў, так і заканадаўства ў галіне адукацыі і рэгулявання моўных працэсаў.

Пэўна, і прысваенне навуковых званняў дацэнтаў і прафесараў трэба праводзіць пасля прадстаўлення аўтарскіх тэкстаў лекцый па асноўнай дысцыпліне на беларускай мове. І пры павышэнні кваліфікацыі выкладчыкаў таксама неабходна скіраваць іх работу на падрыхтоўку канкрэтных вучэбна-метадычных распрацовак на беларускай мове.

Трэба, на наш погляд, з 1 верасня 1994 г. на першых курсах пачаць выкладанне ўсіх прадметаў па кожнай спецыяльнасці на беларускай мове. Тады, праз 5—6 гадоў, сярэднія і вышэйшыя навучальныя ўстановы падрыхтуюць менавіта такіх спецыялістаў, якіх чакае наша грамадства на прадпрыемствах, у арганізацыях і ўстановах Рэспублікі Беларусь.

Гэтаму, канешне, паспрыяе і камп'ютэрызацыя навучальнага працэсу, укараненне новых інфармацыйных тэхналогій. Толькі яны ў беларускай нацыянальнай сістэме адукацыі павінны быць таксама на дзяржаўнай мове. Бо, як лічаць спецыялісты, заможна будуць жыць тыя народы, мовай якіх «гавораць» камп'ютэры.

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня Мінскай гарадской рады ТБМ імя Ф. Скарыны, прафесар**

## Фрагменты

«У веры, як і ва ўсяго астатняга, ёсць знешні і ўнутраны бок. Узаемаадносіны гэтых бакоў у рэлігіі — справа досыць складаная. Але ў цэлым, я думаю, чым вышэйшага ўзроўню чалавек — у інтэлектуальным, псіхалагічным, маральным плане, — тым меншае значэнне для яго мае знешні бок рэлігіі, тым больш акцэнт ён робіць на ўнутраны».

**Алег Мароз. «ЛГ», N 1—2**

«...што датычыць чалавечага розуму, то ён здольны ўспрымаць боскае праз тры вакны: вы можаце атрымаць уяўленне або праз прыгажосць, або праз ісціну, або праз дабрачыннасць.

Гэтыя тры ўяўленні даступныя чалавечаму розуму. Мы самі абмежавалі боскае гэтымі рамкамі, само боскае неабмежавана.

(...)

Калі пераважае інтэлект, тады боскае набывае форму ісціны. Калі розум эмацыянальны — калі вы спасцігаеце рэальнасць не праз галаву, а праз сэрца, — тады боскае стане прыгажосцю. Вы надаяце яму паэтычную якасць. Але гэта толькі рамка. Інтэлект абрамляе боскае ў ісціну, пачуцці — у прыгажосць. А калі асоба не інтэлектуальная, не эмацыянальная — калі пераважае дзеянне, тады абрамленнем становіцца дабрачыннасць.

(...)

Але павінен існаваць і супрацьлеглы полюс, і калі Бог разглядаецца як дабро, тады д'ябал будзе ўвасабленнем зла. Актыўны розум успрымае д'ябла як зло; эмацыянальны — д'яблам лічыць пачварнае, а для інтэлекта д'яблам будуць ілюзорнасць, неісціннасць».

**Оша. «Психология эзотерического». Масква, 1992.**

«З моманту нашага зачацця існуе толькі адна рэч, якая прадвызначана для нас у нашым падарожжы па жыцці: настане дзень, калі наша падарожжа скончыцца, і мы памром. (...) Я хацеў бы абмеркаваць з вамі тры магчымыя варыянты заканчэння гэтага падарожжа. Першая магчымасць у тым, што, калі вы памраце, вас спаляць ці пахаваюць у зямлі — і такім будзе канец. Ды калі гэтым вычэрпваецца ўвесь змест жыцця, то яно само і яго арганізацыя стануць бессэнсоўнымі, таму хацеў бы абмеркаваць другую магчымасць.

Яна ў тым, што пасля смерці вы працягваеце рух да нейкага наступнага пункта. (...)

Хачу прапанаваць і трэцюю магчымасць, якую лічу адзінай вартай разгляду, нават калі яна далёкая ад ісціны.

Сэнс гэтай гіпотэзы зводзіцца да таго, што нашае падарожжа — гэта па сутнасці магчымасць перавесці нашу свядомасць у іншы, вышэйшы план існавання. Гэта магчымасць зрабіцца сталым, знайсці спосаб пераадолення нашых цяжкасцей, стаць адказнымі за саміх сябе і перастаць гуляць у пастаянны пошук вінаватага. (...) Цяжкасці, з якімі мы сустракаемся пры нашым падарожжы, з'яўляюцца свайго роду тэстамі, якія ўказваюць, прасоўваемся мы наперад ці застаёмся на месцы. Калі мы здзяйсняем рух да вышэйшага плана свядомасці, то мы працягваем гэты рух і з завяршэннем жыцця; калі гэтага не адбываецца, нам давядзецца паўтараць увесь цыкл яшчэ раз.

(...)

Відавочна, гэта і ёсць мэта жыцця як такога — распарадзіцца ім найлепшым чынам».

**Джэаф Грэхем. «Как стать родителем самому себе. Счастливый невротик». Масква, 1993.**

Сярод кніг

# БАГРЫМАВА ДАРОГА

У гэтым годзе мінскім выдавецтвам «Навука і тэхніка» была выдадзена кніга-зборнік пад назвай «Паўлюк Багрым». Яе складальнікі — навукоўцы берасцейскага педінстытута В. Ляшук і А. Майсейчык — імкнуліся сабраць разам усё, што вядома і напісана на сённяшні час пра Паўлюка Багрыма, крашынскага паэта-каваля. У кнігу ўключаны адзіны вядомы верш паэта «Зайграй, зайграй, хлопча малы...», даследчыя і крытычныя матэрыялы пра яго жыццёвы лёс і талент, а таксама творы паэзіі, прозы, драматургіі, прысвечаныя Паўлюку Багрыму.

Чытачы атрымалі магчымасць паглядзець на асобу паэта з Крашына цэласна. Гэтую магчымасць далі нам Міністэрства культуры рэспублікі Беларусь у асобе Н. Загорскай, якое ўзяло на сябе фінансавыя і арганізацыйныя клопаты, а таксама часопіс «Тэатральная Беларусь».

Прадмову да зборніка напісаў Анатоль Сабалеўскі. Свой роздум пра кнігу «Паўлюк Багрым» мне б хацелася пачаць з гэтай прадмовы. А. Сабалеўскі не памыляецца, калі гаворыць, што «па багрымазнаўстве... можна меркаваць пра ўсё наша літаратуразнаўства...» Сапраўды, шматгранная постаць Паўлюка Багрыма ў творах паэтаў, драматургаў, даследчыкаў, прадстаўленых у кнізе, асабліва вызначальная: яна злучана з канкрэтным гістарычным часам, па-свойму тлумачыць гэты час праз дынамічна-экспрэсіўную лінію сімвалічных вобразаў дарогі, песні, агню...

**Ах, Багрыме... Чамусьці мая дарога**
**Гэтак часта праз Крошын — снуе, снуе...**

У гэтых паэтычных радках М. Арочкі сканцэнтравана думка пра еднасць гістарычных часоў, пра неўміручасць таленту.

Варта звярнуць увагу і на наступную думку А. Сабалеўскага: «Вобраз паэта і мастака ў мастацкіх творах падаецца ў драматычнай танальнасці... Постаць Паўлюка Багрыма трагічная, як і гістарычны лёс беларускай нацыі». Трэба пагадзіцца з крытыкам, але тут хацелася б дадаць: сваім велічна-рамантычным бокам постаць Паўлюка Багрыма ў мастацкіх творах скіравана да ўзрушана-шчаслівага жыцця. Магчыма, таму ў вершах В. Шніпа, М. Скоблы, Л. Паўлікавай, А. Каско рамантызаваная постаць паэта тлумачыцца больш праз вобраз песні, які ўспрымаецца як сімвал бессмяротнага жыццёвага духу.

Пра два бакі жыццёвага лёсу Паўлюка Багрыма — трагічны і светла-шчаслівы — гаворыць прафесар В. Ляшук у заключным слове да кнігі, спасылаючыся на аўтарытэтную думку багрымазнаўцы Язэпа Янушкевіча. Аўтарка зазначае, што ён пашырыў наша ўяўленне пра жыццё паэта. Адчуваецца, В. Ляшук перакананa ў тым, што фігура Вялікай Культуры, талент якой падрыхтавала глеба Крашына, не можа разглядацца літаратуразнаўцамі аднапланава. Фігура Паўлюка Багрыма — фігура шматвобразная, яна мае не адну, а некалькі душ — душу каваля і душу генія, душу гаспадара і душу падлетка-пакутніка.

Цікавай лічу спрэчку В. Ляшук з М. Маліноўскім, членам геаграфічнага таварыства, вакол пытання аўтарства верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Цытую дакладна думку даследчыцы, даволі аргументаваную і пераканальную: «Кожны мае права на сумненні. Навуковыя сумненні патрабуюць салíднай аргументацыі. Прасцей за ўсё сказаць, што верш «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» не Багрымаў. Ніхто, аднак, у тым ліку і спадар М. Маліноўскі, не зможа даказаць, што твор быў напісаны не крашынцам: у вершы ёсць радкі: «У Крашыне жыць не буду...»

Спадара ж Маліноўскага па дзвюх публікацыях («Багрым даўно ўжо стаў легендай», «Першы сялянскі паэт»), змешчаных у кнізе і апублікаваных раней у часопісе «Роднае слова», мы бачым выразна супярэчлівым даследчыкам. Паказальна, што ў сваёй размове з мастаком Сымонам Свістуновічам («Багрым даўно ўжо стаў легендай») аўтар пазбягае любых канкрэтна-лагічных абагульненняў у разглядаемым пытанні — увекавечванні памяці пра Паўлюка Багрыма. Думаю, што фразу С. Свістуновіча «Для мяне ён (Багрым) — легенда» М. Маліноўскі разумее па-свойму: Багрым толькі легенда, «Багрым даўно ўжо стаў легендай», і пра рэальную постаць паэта гаварыць не даводзіцца.

Знаёмячыся з матэрыяламі кнігі, хацелася б звярнуць асаблівую ўвагу на падыход некаторых даследчыкаў літаратуры да ідэйна-мастацкага прачытання верша «Зайграй, зайграй, хлопча малы...» Гаворачы пра жыццёвую лінію твора, літаратуразнаўцы А. Мальдзіс, Г. Праневіч, А. Лойка перакананы, што лёс лірычнага героя ў вершы — не ёсць лёс паэта. Так, Генадзь Праневіч у працы «Храм Багрымавага верша» лічыць: «Якраз адсутнасць прамога супадзення паміж лірычным героем і самім паэтам і пераконвае нас у тым, што мы маем справу не з прыватным дзённікавым рыфмаваным запісам жыццёвага лёсу пэўнай асобы, але з мастацкай тыпізацыяй рэчаіснасці»...

Чытаю кнігу пра Багрыма. Чытаю Ігната Яцкоўскага і Максіма Гарэцкага, Алега Лойку і Ніну Загорскую, Васіля Дэбіша і Алега Мінкіна... Адчуваю, што для мяне Багрым — паэт-вандроўнік, які «пайшоў у свет» за шчасцем і «з шчасцем» на мяне азірнуўся. Творы мастацкай прозы, што ўвайшлі ў зборнік, толькі падмацавалі маю рамантычную ўзрушанасць — бачыць Багрыма шчаслівым, бо ў апавяданнях Вольгі Іпатавай, Віктара Карамазава, Яраслава Пархуты гучыць адзін, бясспрэчны для мяне жыццёвы матыў: шчасце паэта там, дзе непакой, непакой — дзе дарога, а ў дарозе — воля...

**Алена ІГНАЦЮК**

*г. Брэст*

ЛІМ
ЧАСАПІС



## КАБ АБУДЖАЛАСЯ ДУША

**Такой вечарыны, як гэтая, здаецца, у Доме літаратара яшчэ не было. Па-першае, адначасова прэзентаваліся ажно тры кнігі, а, па-другое, ладзіла мерапрыемства рэдакцыя грамадска-палітычнага і літаратурна-мастацкага часопіса «Зрок». Тым самым гаворка вялася і аб стаўленні грамадства да людзей, якія маюць пэўныя фізічныя недахопы, але жадаюць таго (і многія гэтага дабіваюцца!), каб жыццё іх было паўнакроўным.**

**На розных аспектах духоўнай рэабілітацыі інвалідаў па зроку (не кажучы ўжо пра магчымасць стварэння ім належных умоў для працы) гаварылі галоўны рэдактар часопіса «Зрок» В. Люковіч (ён адкрыў вечар), айцец Ігар (ён ад імя царквы «Усіх смуткуючых радасці» благаславіў прысутных) і старшыня Беларускага таварыства інвалідаў па зроку, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь А. Нятылькін. Ён падкрэсліў, што наша грамадства, на працягу дзесяткаў гадоў не ўдзяляючы належнай увагі інвалідам, у тым ліку і інвалідам па зроку, само ў нечым аслепла. Цяпер, на шчасце, многае робіцца ў лепшы бок. Пацвярджэнне таму — і стварэнне часопіса «Зрок». Выбіраючы такую назву, заснавальнікі ставілі перад сабой задачу — дапамагчы быць відушчай чалавечай душы.**

**А. Нятылькін паведаміў, што ўстаноўлена званне заслужанага дзеяча БелТІЗ з уручэннем памятнага знака і грашовай прэміі. Тут жа былі названы і імёны. Адзін за адным (у суправаджэнні сяброў) падымаліся на сцэну М. Ермаловіч, М. Лук'янаў, Ф. Конышаў, В. Кудлачоў, М. Каралёў, якія добра вядомы ў пісьменніцкім і журналісцкім асяроддзі. Прысутныя іх цёпла віншавалі.**

**А пасля В. Люковіч прадставіў першую кнігу — чарговы, трэці па ліку зборнік вершаў для дзяцей В. Кудлачова «Нарисую город Гродно», што пабачыў свет у Лідскай друкарні. В. Кудлачоў страціў зрок у маленстве ад фашысцкай міны, цяпер жыве і працуе ў Гродне. Для яго твораў характэрны светласць інтанацый, дабрыня. Аўтар бачыць навакольны свет душой, сэрцам. Адметнасць таленту В. Кудлачова адзначалі і М. Чарняўскі, загадчык аддзела музея БелТІЗ А. Іваненка, супрацоўнік часопіса «Зрок» Х. Крыванос.**

**Другая кніга, пра якую вялася гаворка на вечарыне, ужо вядома шматлікім чытачам — «Старажытная Беларусь. Віленскі перыяд» М. Ермаловіча. І па публікацыі ў часопісе «Маладосць», і па асобнай кніжцы, выпушчанай Выдавецкім цэнтрам «Бацькаўшчына» і Малым прадпрыемствам «Бесядзь» (дарэчы ўсе выданні, як і нумары «Зроку», свабодна маглі ўзяць усе жадаючыя). Пра сапраўды даследчыцкі подзвіг аўтара ў імя нацыянальнага Адраджэння гаварылі Г. Далідовіч, М. Лук'янаў, доктар гістарычных навук Г. Штыхаў, Я. Лецка.**

**Надышла чарга і кнігі паэзіі вядучага вечарыны В. Стрыжака «Рэха журбы», што пабачыла свет у выдавецтве «Мастацкая літаратура». В. Стрыжак у часопісе «Зрок» загадвае аддзелам прозы і паэзіі. Пра калегу па працы хораша гаварыла журналістка Т. Бялова. Нямала ўхвальных слоў пра свае творы ён пачуў і з вуснаў Я. Янушкевіча, У. Мазго, супрацоўніка «Настаўніцкай газеты» А. Амельчанкі і іншых.**

**На вечарыне гучала шмат музыкі, песень. Бард А. Атаманаў выканаў некалькі сваіх твораў на словы В. Стрыжака.**

**Вядома ж, было дадзена слова самім віноўнікам урачыстасці.**

**А. М.**

## ДАРУНАК МУЗЕЮ, ГОСЦІ ВЕТЭРАНАЎ...

**«На таго, хто дорыць, гэтак жа прыемна глядзець, як і на сам дарунак», — гэтыя словы І.Гётэ мне ўспомніліся ў сонечны ліпеньскі дзень, калі пасля васьмі гадоў адкрылася абноўленая асноўная экспазіцыя Баранавіцкага краязнаўчага музея.**

**На адкрыцці прысутнічала грамадскасць горада, а асабліва зачараваў усіх выкладчык Акадэміі мастацтваў Юрый Хілько. У дарунак музею ён перадаў адзін са сваіх лепшых твораў — карціну «Дрэвы на выгане».**

**Прысутнічаў на адкрыцці музея і выступіў народны дэпутат Беларусі М.Лабко.**

**А праз некалькі дзён на вечарыне «Раскажы, ветэран» перад удзельнікамі Вялікай Айчыннай вайны выступілі мясцовыя паэты М.Бусько, Ф.Будзько, Л.Шувалава, А.Бокач, Г.Гапановіч і інш.**

**М.МАЛІНОЎСКІ**

***Тадэвуш Канвіцкі, вядомы польскі пісьменнік, неаднаразова ў апошні час расказваў у сваіх інтэрв'ю аб юнацкіх гадах, што прайшлі недалёка ад Вільні, аб сваім успрыманні Беларусі. З апошніх яго публікацый варта нагадаць інтэрв'ю з Барбарай Голуб у кнізе «За віленскім сталом» і размову з Тэрэзай Занеўскай у кнізе «А душа знаходзіцца на ўсходзе. Польска-беларускія літаратурныя сувязі». Апошняя кніга выйшла ў 1993 годзе ў Беластоку ў выдавецтве Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа». Прапаную чытачам пераклад крыху скарочанай размовы з пісьменнікам з апошняй кнігі. Далёка не з усім у выказваннях Т.Канвіцкага можна пагадзіцца, але ў цэлым інтэрв'ю пісьменніка ўяўляе для нашага чытача несумненную цікавасць.***

***Ф.Ш.***

# У МАІХ ВАЧАХ БЕЛАРУСЬ

## З ТАДЭВУШАМ КАНВІЦКІМ ГУТАРЫЦЬ ТЭРЭЗА ЗАНЕЎСКАЯ

**— Вы выхоўваліся ў міжнацыянальным асяроддзі, на паграніччы культур. Як гэта адбілася на вашай асобе?**

— Павінен пачаць з пытанняў больш агульных, калі дазволіце. Я ўпэўнены ў існаванні пэўнага феномена ў гэтай частцы Еўропы, які можна было б назваць з'явай падвойнай нацыянальнай самасвядомасці або ўспрыманняў, што часткова напластоўваюцца. Я не польскі паніч, які велікадушна цікавіцца Беларуссю. Беларусь не з'яўляецца маім каньком ці хобі, я ўспрымаю яе вельмі асабіста. І тут скажу на злосць польскім нацыяналістам, што, магчыма, у іншых жыццёвых абставінах я б наогул быў на баку Беларусі. Чаму? Зразумела, прымаючы пад увагу гісторыю, той патрыятызм былой Рэчы Паспалітай, які ў канцы XIX стагоддзя і ў гэтым стагоддзі выліўся ў пэўны, скажам так, выразна акрэслены нацыяналізм, больш дынамічны і канфліктны.

Колькі ўва мне Беларусі, а тычыцца гэта ў нейкай меры і Літвы, цяжка сказаць. Беларускі элемент іграе ролю ў маёй біяграфіі, у маім спосабе мыслення. І думаю, што калі б які-небудзь уважлівы знаўца стылістыкі прыгледзеўся да таго, што я пішу, то ён бы таксама заўважыў сёе-тое, што адрознівае мяне ад іншых таварышаў па пяры.

У Беларусі адбываліся паланізацыйныя працэсы. Калісьці яны былі слабымі, не датычылі ўсяго грамадства, а толькі слоя шляхты, якая ніколі не адракалася ад таго, што ў двукоссі можна было б жартам назваць «тутэйшасцю». Акрамя таго, праходзіў і зваротны працэс, гэта значыць, у Карону ўваходзілі магутныя беларускія элементы. Шляхам абмену пасагам, сямейнага набытку маёмасці глыбока ў Карону ўваходзілі Сапегі, Пацы, Тышкевічы, Храптовічы і іншыя прадстаўнікі шляхты, якія мелі баярскае або княжацкае паходжанне. Узнікла штосьці вельмі дзіўнае і вельмі плённае.

У цяперашні гістарычны момант беларускі нацыяналізм павінен станавіцца ўсё больш агрэсіўным, дынамічным, магчыма, нават у нейкай ступені захопніцкім, паколькі ў гэтым ёсць шанц сфармаваць да канца беларускую нацыянальную свядомасць, якая з многіх прычын — з пункту гледжання гісторыі і развіцця цывілізацыі — усё яшчэ застаецца слабай. Беларусь зараз, на мой вялікі жаль, нагадвае чалавека яшчэ не рэанімiраванага, сэрца якога яшчэ толькі пачынае біцца.

Гэты мой уступ з'яўляецца надзвычайна важным хоць бы таму, асабліва калі гаварыць аб Польшчы, каб у тым, што я кажу і аб чым кажу, не было філантрапічнай ноткі, спекулятыўна-дабрачыннай формы, каб у гэтым не праскокваў пратэкцыянізм. Доўгія гады Беларусь нагадвала кароткую коўдру. З аднаго боку цягнулі палякі, з другога — рускія. Як паклоннік Расіі, я маю права сказаць сёе-тое і аб гэтым уплыве на Беларусь з усходу. Мне здаецца, што Беларусь у духоўным жыцці Польшчы і не толькі ў духоўным — у любым іншым — вельмі важная. У польскай самасвядомасці беларуская самасвядомасць мае пэўную значную вагу, у той час як для Расіі Беларусь з'яўляецца малавядомым і малацікавым рускім рэгіёнам.

А зараз пяройдзем да рэчаў смелых, бо мне можна гаварыць шчыра. Калі гаворка ідзе аб другой сусветнай вайне, то, я лічу, увесь час робіцца шкода іменна беларускай нацыянальнай самасвядомасці. На Беларусі ўсё яшчэ шалее ўраганны патрыятызм савецкай Айчыннай вайны. А я, прабачце, не ўпэўнены, ці была гэта вайна за Беларусь? Не ўпэўнены, ці мела Беларусь вялікія інтарэсы ў гэтай вайне? Савецкі патрыятызм у Беларусі быў справакаваны велізарным размахам савецкага партызанскага руху. Беларускую вёску ўціхамірвалі гітлераўцы і яе ж эксплуатавалі, ужываючы гэтае далікатнае слова, часам нечалавечым чынам — савецкія партызаны. І мне здаецца, што Беларусь, нягледзячы на слабую сваю асабістую гісторыю, павінна цаніць усе грамадскія рухі, якія ставілі ці ставяць мэтай ратаванне беларускай самасвядомасці.

Памятаю, у час вайны ў Вільні з'явіліся выкладчыкі Мінскага універсітэта. Яны дапамагалі ў арганізацыі беларускага школьніцтва на Віленшчыне. Дадам тут надта цікавую падрабязнасць: нашы акаўскія колы, настроеныя вельмі патрыятычна, нават, сказаў бы, істэрычна з гэтага пункту гледжання, глядзелі неяк памяркоўна на гэтых калег, што пайшлі працаваць у беларускія гімназіі. У нашым тагачасным перакананні гэта не азначала ніякай здрады, супрацоўніцтва з акупантамі, а проста магчымасць развіваць мову і веды аб Беларусі. Думаю, пасля вайны гэтыя выкладчыкі савецкай уладай былі расстраляны або высланы ў лагеры. Але мы не можам пазіцыю беларускай інтэлігенцыі ў час гэтай цяжкай вайны ацэньваць з пункту гледжання Польшчы ці палякаў, паколькі Беларусь заўсёды была зацікаўлена выратаваць тое, што можна, са сціплага беларускага набытку.

Спробы маладых беларускіх гісторыкаў глянуць на аўтаномны, уласны інтарэс Беларусі на працягу апошніх сямідзесяці-пяцідзесяці год, натыкаюцца на імгненны адпор саветызаваных гісторыкаў, якія шантажуюць увесь час сваіх калег гітлерызмам, фашызмам і бог ведае чым яшчэ. А між іншым, не падлягае сумненню, што на беларускую гісторыю трэба глядзець іманентна, з пункту гледжання сціплых, усё яшчэ невялікіх інтарэсаў Беларусі. Беларусы не былі зацікаўлены абараняць краіну, якая абыходзілася з імі як мачаха. Але звернем увагу, што беларусы змагаліся ў 1939 годзе, многія загінулі, многія пайшлі з Андэрсам, гэта значыць, што да дзяржавы, грамадзянамі якой яны сябе адчувалі, яны адносіліся лаяльна, не кажучы ўжо аб партызанскіх атрадах Арміі Краёвай, у якіх яны абаранялі менавіта сваю «тутэйшасць». І не трэба аб ёй гаварыць толькі негатыўна, паколькі ў тэрміне «тутэйшасць» сыходзяцца ўсе гістарычныя ніці, агульныя для палякаў і беларусаў.

Я павінен быў аб усім гэтым сказаць. Гэта будзе маім заклікам да навукі, каб разам з добрымі імкненнямі, цудоўным гуманізмам у адносінах да больш слабых, яна зацікавілася, аднак, глыбінёй гэтага працэса. Штосьці ў гэтым ёсць, калі і я з лёгкімі вывертамі польскага нацыяналізму, хаваемага ў душы, аднак, адчуваю сябе ў нейкай ступені беларусам. Зразумела, я гэтага не дэманструю, але ўвесь час цікаўлюся Беларуссю. Не з пункту гледжання аб'ектыўнага назіральніка, а таму, што мяне гэта хвалюе.

Парадокс, але зараз як ніколі маюцца добрыя абставіны для развіцця Беларусі. Але што мне казаць, калі па тэлебачанні я бачу настаўніцу з Мінска, якая тлумачыць, што беларусы баяцца адпраўляць беларускіх дзяцей у Польшчу, паколькі ў нас яны забываюць **рускую** мову. Ну, тут ужо я здаюся. Несумненна, я перажываю і паміраю ад болю, калі чытаю, што ў Мінску 3,8% гавораць па-беларуску, а не хочуць ведаць гэтую мову 40%.

Гэтым я хачу сказаць, што павінна адбыцца радыкалізацыя беларускага элемента. Польскія беларусы, беларусы з Англіі, беларусы з Канады і дзе б яны ні былі, павінны кінуцца ў Беларусь, каб прыняць удзел у яе рэанімацыі. Павінен у поўную меру запрацаваць нацыяналізм дзеля таго, каб зрабіць магчымым функцыянаванне Беларусі як



краіны, дзяржавы. Дзяржавы з гіторыяй, з пэўнай уласнай цывілізацыяй, з пэўным сціплым, але агульнаеўрапейскім набыткам, хоць бы дзякуючы таму ўкладу, які Беларусь унесла ў польскую культуру.

І я заклікаю да разважлівасці сваіх суайчыннікаў, польскае грамадства, якое надта часта бывае сёння злёгку збянтэжана пры вяртанні маёмасці ў сферы духоўнай і культурнай беларусам. На шчасце, як мне падаецца, у польскім грамадстве няма нейкіх агрэсіўных настрояў у адносінах да Беларусі. Аснову гэтых асаблівых адносін заклалі стагоддзі агульнай гісторыі і агульнай культуры.

Хачу сказаць яшчэ пару слоў аб праблеме, у якой я бездапаможны і аб якой сапраўды мала ведаю. Гаворка ідзе аб рэлігійным падзеле, які існуе на Беларусі. Тут бы трэба з усіх сіл старацца, каб абедзве царквы не бралі на сябе нацыянальнай місіі. Гэта значыць, каб каталіцкая царква, дапамагаючы каталіцызму ў Беларусі, не мела ніякай прапольскай накіраванасці, каб ні ў чым не выклікала падазрэнняў. Я заклікаю і праваслаўную царкву, каб яна таксама не займалася русіфікацыяй і не несла ў сабе расійскага імперыялізму. Як бы там ні было, каталіцкая царква, нягледзячы ні на што, з'яўляецца касмапалітычнай і ў любую хвіліну ксяндзоў-палякаў можна замяніць ксяндзамі з Прыбалтыкі.

**— Ці сочыце вы за развіццём беларускай літаратуры? Што б вы сказалі, калі б кандыдатуру Васіля Быкава вылучыць на Нобелеўскую прэмію?**

— Трэба сказаць сёе-тое таксама непрыемнае і пра беларускую літаратуру. Так здарылася, хоць цяжка тут шукаць вінаватых і праводзіць нейкія праверкі або маральнае асуджэнне, але трэба сказаць аб дрэнным становішчы ў гэтай галіне. Я маю на ўвазе беларускую вернападданніцкую літаратуру ў адносінах да СССР і Расіі. Беларуская інтэлігенцыя і асабліва пісьменнікі задавальняліся тым, што іх у мінімальных аб'ёмах выдаюць па-беларуску, а па-руску даюць

наклад у 100 тысяч паасобнікаў. Я так востра гэта ўсё ўспрымаю, таму так страшэнна засмуціўся, калі прачытаў, што Алесь Адамовіч жыве ў Маскве. Чаму ён жыве ў Маскве? Можа, я павінен ехаць у Мінск? Зрэшты, можа, і я паеду на Беларусь, калі беларусы мяне паклічуць. Адамовіч павінен сядзець каля галавы хворага, даглядаць яго. Тым больш, што гэта прагрэсіўны пісьменнік. Таму я буду змагацца за Нобелеўскую прэмію для беларускага пісьменніка, які будзе пісаць па-беларуску, з беларускім зместам, пра беларускую справу, пра тую глыбіню, якая, можа, і сціплая, але інтэнсіўная і якую мы завём Беларуссю.

**— Тут больш за Быкава на ўзнагароду прэтэндаваў бы Уладзімір Караткевіч.**

— Караткевіч... Калі б яго ўзялі і пачалі перакладаць на свеце. Караткевіч уносіць чароўную арыгінальнасць. Але не арыгінальнасць, перанятую ў Маркеса ці ў амерыканскай літаратуры, а арыгінальнасць, звязаную з гэтай зямлёй. У яго творах ёсць пэўная метафізіка, вельмі прыемная для нас, палякаў, таму што там бачны тыя ніці, якія збліжаюць народы, не супрацьпастаўляючы іх.

Ёсць такі чалавек, якога завуць Стасіс Эйдрыгевічус, літовец, які дзякуючы Польшчы стаў адным з самых вядомых мастакоў на свеце, ва ўсякім разе графікаў, плакатыстаў. Мне здаецца, што мы, не маючы занадта вялікага блату ў свеце, нягледзячы ці на што, ведаем рознага роду пратаптаныя сцяжынкі, і тут павінны дапамагчы беларускай літаратуры, асабліва тым пісьменнікам, у якіх бачны, назавём іх так, караткевічаўскія матывы. А не матывы Айчыннай вайны, ваеннай тэматыкі, якой перанасычаны свет. Гэты савецкі патрыятызм не вельмі ўсім да густу. І нават, аказваецца, адукаваным расіянам.

Як уважлівы назіральнік, я звярнуў увагу, што пры ўсім так званым савецкім уціску ў Беларусі пачало абуджацца пачуццё прыналежнасці да Еўропы. Першым такім для мяне сігналам была інфармацыя аб канферэнцыі, прысвечанай Адраджэнню як культурна-палітычнай з'яве ў гэтай частцы Еўропы. З гэтай інфармацыі вынікала, што тэрмін «адраджэнне» савецкія вучоныя выкарыстоўвалі толькі прымяняльна да XIX стагоддзя. А адзін з маладых беларускіх гісторыкаў гаворыць: «Якое адраджэнне ў XIX стагоддзі? Адраджэнне ў нас было ў XV—XVI стагоддзях». Ён нагадаў Скарыну і шляхі кнігадрукавання, якія ішлі праз Вільню і Полацк у Маскву. Нагадаў, што Беларусь вучыла друкаванаму слову Маскоўскае княства, што яна ўжо мела выдатны твор «Песню пра зубра» М.Гусоўскага. Або глядзіце — які неверагодны збег абставін: праз лацініцу, неаантаганістычную еднасць палякаў і беларусаў мы дойдзем да нашага агульнага класіка Клеафаса Агінскага. Я крыху расчуліўся, што некаторыя беларусы хочуць з яго паланеза зрабіць гімн. Так, гэта падыходзіць, і не трэба шукаць гучныя, велічныя словы для сённяшніх нацыянальных патрабаванняў. Магчыма, ёсць нейкая старая песня, а калі няма, то яе можна «прыстасаваць», гэта значыць, звярнуцца да старaславянскай лексікі, паняццяў, традыцый, мовы Вялікага княства Літоўскага.

**— Як вы ацэньваеце ўспрыманне беларускай літаратуры ў Польшчы?**

— Яна ўспрымаецца меней, чым халадзільнік «Мінск». І гэта наша агульная віна. Беларусь тут павінна пачаць дзейнічаць больш смела, а не чакаць на міласціну зацікаўленасці нейкіх польскіх колаў.

З таго, што я чытаю і чытаў, я адкідваю ўсю айчынна-ваенную літаратуру. Я з болем глядзеў на гэта бясконцае падлізванне Маскве. Страшэнна прыкра. Я вельмі люблю Янку Брыля. Ён некалькі гадоў назад, мо восем, друкаваў дзённік. Цудоўны і хвалюючы, але час ад часу ў яго ўзнікала патрэба стаць на калені і пакланіцца Маскве. Гэта былі невялікія фрагменты, але для мяне сумныя, таму што гэта вялікая асоба, двухметровы магутны мужчына, чулы пісьменнік, усімі фібрамі звязаны з Беларуссю. Таму я маю да яго прэтэнзіі, але не ў сувязі з пакланеннем Маскве, а ў сувязі з тым, што ён адбірае ў сябе сваё асабістае пасведчанне асобы.

У сямідзесятыя гады з'явілася многа кніжак еўрапейскага стылю. Лічу, што вы невыпадкова ўспомнілі пра Караткевіча. Таму што ў Караткевіча, Адамовіча, які не да месца жыве ў Маскве, у іншых пісьменнікаў і паэтаў гучыць голас пэўнай чалавечай еднасці, а не падпарадкавання чыёйсьці ідэі ці ўладзе. Так што калі б падагрэць і ўвесці ў дзеянне беларускую справу, то можна было б зрабіць рэкламу і беларускай літаратуры, пусціўшы ў свет яе найбольш арыгінальныя праяўленні.

**— У інтэрв'ю, дадзеным Адаму Міхніку, вы сказалі, што палякі павінны станавіцца перад Беларуссю на калені. Ці не хочаце вы развіць гэту думку?**

— Адкажу не ў тым плане, як вы сабе ўяўлялі. Я думаў метафарычна. Мы павінны нахіліцца над Беларуссю, як над кімсьці, хто па стану здароўя патрабуе апекі, клопату і неадкладнай дапамогі. У гэтай метафары заключана, зразумела, і тое, аб чым вы думаеце. Мы, як польскае грамадства, што знаходзіцца ў некалькі лепшым становішчы і гістарычным, і цывілізацыйным, і палітычным, сёе-тое павінны Беларусі.

Адначасова мы павінны памятаць аб тым, што калісьці царскія ўлады гаварылі аб адраджэнні, абуджэнні беларускага духу як польскай інтрызе. Гэта страшэнна складаная праблема. Але беларускі дух будзілі людзі, з якімі я нацыянальна ідэнтыфікуюся, гэта значыць, людзі «тутэйшыя», людзі двухмоўныя, якія ў сентыментальныя моманты адразу ж пераходзілі на беларускую, а пісалі па-польску і па-беларуску.

Пасля падзення Расійскай імперыі, калі дзяржавы ўпершыню дабіліся незалежнасці, ім прапаноўвалі нейкую новую форму залежнасці ў выглядзе федэралізму Пілсудскага. Я думаю, што Пілсудскі прадчуваў тое, што сёння тут адбываецца ў гэтай частцы Еўропы, гэта значыць, неабходнасць супрацоўніцтва, неабходнасць будаўніцтва Еўропы такім чынам, каб, захоўваючы ўсе духоўныя і культурныя адрозненні, шукаць, аднак, згоды, а не распальваць новыя канфлікты.

Я спрабую ўсё гэта зразумець, прымаючы пад увагу палітыку Пілсудскага і пазней нацыянальную палітыку санацыі. З пункту гледжання Беларусі Польшча, канечне, вельмі вінаватая. Але будзем памятаць аб яшчэ большых вінах. Аб віне Расіі, называемай Савецкім Саюзам, і аб жорсткім паўзучым імперыялізме, які русіфікаваў і саветызаваў усю ўсходнюю Беларусь.

У сваё апраўданне, апраўданне польскага грамадства, скажу, што нашы канфлікты былі яўна еўрапейскімі, а не азіяцкімі, паколькі яны стварылі магчымасць на гэтым пагранiччы выжыць беларускай свядомасці, як, зрэшты, і ўкраінскай. Украінская свядомасць узнікае на гэтых тэрыторыях ад моцнага сутыкнення з Польшчай. На ўсход ад Кіева ўжо цяжка гаварыць аб Украіне ў сучасным сэнсе.

Мне падаецца, што над польска-беларускімі адносінамі не вісяць прывіды мінулага, якія б рабілі двухзначнымі двухбаковы абмен кампліментамі або цёплымі словамі. Якраз тут становішча з'яўляецца даволі ясным.

**— Неаднаразова цытаваўся фрагмент вашай кнігі «Каляндар і клепсідра», які пачынаецца са слоў: «Беларусь у маіх вачах». Ці не хочацца вам узнавіць гэтыя карціны? Той Беларусі, якую Вы запомнілі, якая Вас сфармавала?**

— Вы арыентуеце мяне на гэтакую паланістычную мішуру. Каб я пачаў прыгожа расказваць, апісваць сосны, пяскі, звілістыя рэчкі. Я думаю, што больш глыбокі сэнс любві да Беларусі і інтарэсу да гэтай краіны не заключаецца толькі ў пейзажы дзяцінства і юнацтва, што запомніўся мне, у пэўных рэгіянальных сентыментах. Я ўжо стараўся растлумачыць вам, як глыбока ў душах людзей, што жывуць тут, знаходзіцца гэта Беларусь.

**— У якой з вашых кніг, на вашу думку, знаходзіцца больш за ўсё, калі можна так сказаць, беларускага элементу? Я маю на ўвазе спосаб выкладу, мову...**

— Вы ведаеце, кожны добры польскі рэдактар спрабуе мне перш за ўсё палепшыць сінтаксіс. А ў мяне ў вушах, відаць, іншая мелодыка. Акрамя таго, у мяне ёсць, прабачце, што буду хваліцца, крыху беларускай памяркоўнасці. Я, хоць і сварлівы, гляджу на свет у асноўным добра, гляджу з сімпатыяй, спагадліва. Гэта можа быць звязана з беларускай самасвядомасцю. Крыніцай гэтага з'яўляюцца, відаць, пэўныя беларускія інтэлектуальна-маральныя коды. Я схільны да жарту і разам з тым і да пафасу, а гэта элементы, характэрныя для беларускай духоўнасці. Я кажу «духоўнасці», бо не ведаю, як гэта назваць.

Скажу шчыра: я ўжо не помню беларускай мовы. Потым я вывучаў рускую і гэтая руская ў мяне пераважыла. Я ўжо баюся выкарыстаць беларускую фразу, бо апасаюся, што выкарыстаю рускую і гэтым самым буду садзейнічаць яшчэ большаму збядненню беларускай мовы.

**— Як вядомы польскі пісьменнік, карані якога, аднак, знаходзяцца ў гэтай зямлі, што б вы хацелі сказаць польскім беларусам-пісьменнікам?**

— Няхай бяруць не чамаданы, а толькі дыпламаткі і едуць на Беларусь. Ужо ад Смаленска трэба прымацца за работу і заклікаць сяброў і калег аказваць арганізацыйную, фінансавую і культурную дапамогу. Трэба, напрыклад, зрабіць беларускі фільм, толькі не вытворчасці нейкага філіяла «Масфільма», а магутны і сугучны беларускай душы. Аб літаратуры мы ўжо гаварылі.

Я гавару аб гэтым з пэўнай афектацыяй, але што я зраблю, калі для мяне гэта так важна. Я дрыжу, калі чытаю пра Беларусь штосьці нядобрае. Гэтыя 3,8%, што ведаюць беларускую мову, зламалі мяне, некалькі тыдняў я быў зусім разгублены, махнуў рукой, не хацеў ужо ні з кім размаўляць на гэтую тэму. Я быў расчараваны, бо адчуў сябе бездапаможным. Прыбалтыйскія краіны нейкім чынам справяцца. Яны моцныя эканамічна і заўсёды мелі большае пачуццё еднасці з Еўропай. Я паўтараюся, і гэта выглядае нейкай касмапалітычнай банальнасцю. Але гэта не так, гэта даволі важная рэч, таму што — скажам сабе шчыра — гэта альтэрнатыва варварству і дзікасці. Правільна абвінавачваюць Сталіна, але Сталін не мог быць у кожным лагеры, у кожнай турме, ён не мог так здзекавацца з кожнага чалавека, так зверстваваць, так таптаць яго годнасць, чалавечнасць. Так што Еўропа — гэта выбар.

Аб гэтай мабілізацыі я думаю ўвесь час, як толькі прачнуся. І гэта павінна здарыцца, бо гэта рашаючы момант. Праз тры гады можа быць зусім іншае становішча. І зноў усё пачнецца спачатку. Нехта будзе прыдумваць беларусам герб, нехта — гімн, а яшчэ нехта будзе складаць літаратурны канон і вызначаць характар, які павінен мець беларус.

**Пераклаў з польскай мовы**
**Фёдар ШКІРАНДА**

# БЫЎ РУПЛІЎЦАМ...

18 ліпеня 1994 года памёр адзін са старэйшых працаўнікоў беларускага тэатра, знаўца тэатральна-сцэнічнага забеспячэння, няўрымсны руплівец за развіццё нацыянальнай культуры Ігар Міхайлавіч Рыдзеўскі.

Ён нарадзіўся 31 ліпеня 1916 г. Яго бацька — Міхал Антонавіч Рыдзеўскі, дырэктар Белпедтэхнікума і прарэктар Мінскага педінстытута (рэпрэсаваны і загінуў у 1937 г.), маці Ганна Рыгораўна Некрашэвіч, стрыечная сястра вядомага дзеяча беларускага Адраджэння С.Некрашэвіча, былая народная настаўніца (у гады рэпрэсій была асуджана на 8 гадоў высылкі), а таксама асяроддзе — сем'і У.Ігнатоўскага, Я.Лёсіка, Я.Коласа і інш., да якога ён меў шчасце быць далучаным, выхавалі ў ім шчырую прыхільнасць да нацыянальнай культуры і нязгасную патрэбу дзей-насці на карысць адраджэння і развіцця яе.

І.Рыдзеўскі ў 1931 г. (з 15 гадоў) пачаў працаваць (паралельна з вучобай) электрыкам-асвятляльнікам у БДТ-1 і ў далейшым ахвяраваў беларускім тэатрам больш за 50 гадоў сваёй старaннай і плённай працы. Ён працаваў загадчыкам электрацэха ў Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета (1933—1941 гг.), намеснікам дырэктара рускага драмтэатра (1948—1961 гг.), намеснікам дырэктара Тэатра юнага гледача (1961—1970 гг.), намеснікам дырэктара тэатра оперы і балета (1970—1977 гг.). У 1961—1983 гг. І.Рыдзеўскі выкладаў у БДТМІ «Тэхніку і тэхналогію сцэны» і іншыя курсы.

Яшчэ з даваенных гадоў яго веды і вопыт выкарыстоўваліся ў праектаванні і абсталяванні культурна-асветных устаноў. Налічваецца больш чым 30 аб'ектаў, у будаўніцтве якіх ён прымаў удзел як тэхнолаг сцэны і асвятляльнай апаратуры.

З 1983 г. І.М.Рыдзеўскі, як галоўны захавальнік Літаратурнага музея П.Броўкі, збіраў і ашчадна захоўваў матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю П.Броўкі і яго сучаснікаў, дапамагаў навукоўцам і журналістам аб'ектыўна глянуць на складаныя і свядома замоўчаныя раней факты з літаратурнага і грамадска-палітычнага жыцця 1930—1950 гг.

За актыўную дзейнасць у Мінскім падпольным антыфашысцкім руху ў гады вайны І.Рыдзеўскі ўзнагароджаны медалём «Партызану Айчыннай вайны» 1 ступені і ордэнам Айчыннай вайны 11 ступені, меў таксама ўзнагароды за выдатную працу.

Як шчыры руплівец на ніве беларускай культуры, як чалавек з добрай і светлай душой застанецца Ігар Міхайлавіч у памяці тых, хто яго ведаў, працаваў з ім.

**Супрацоўнікі Аб'яднання Дзяржаўных Літаратурных музеяў Беларусі**

**Супрацоўнікі Літаратурнага музея Петруся Броўкі смуткуюць з прычыны смерці галоўнага захавальніка музея Ігара Міхайлавіча Рыдзеўскага і выказваюць глыбокае спачуванне яго родным і блізкім.**

ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Заснавальнікі:
Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь
Выходзіць з 1932 года

*Газету рэдагавалі*
*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

Галоўны рэдактар
Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:
Святлана БЕРАСЦЕНЬ
Андрэй ГАНЧАРОЎ
*першы намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась ЗАЛОСКА
Міхась ЗАМСКІ
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ
Барыс ПЯТРОВІЧ
*намеснік галоўнага рэдактара*
Юрась СВІРКА

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220600, ГСП, Мінск,
вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі *332-461*
намеснікі галоўнага рэдактара *332-525, 331-985*
аддзелы:
публіцыстыкі *332-525*
пісьмаў і грамадскай думкі *331-985*
літаратурнага жыцця *332-462*
крытыкі і бібліяграфіі *332-204*
паэзіі і прозы *332-204*
музыкі *332-153*
тэатра, кіно і тэлебачання *332-153*
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў *332-462*
навін *332-462*
мастацкага афармлення *332-204*
фотакарэспандэнт *332-462*
бухгалтэрыя *268-640*



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»
Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)
Індэкс 63856. Наклад 11.194.
Нумар падпісаны 21.07.1994 г.

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

